
І. І. Кірчук
ВЫХАВАННЕ НА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТРАДЫЦЫЯХ

І. І. КІРЧУК

# ВЫХАВАННЕ НА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТРАДЫЦЫЯХ

Вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў, класных кіраўнікоў, выхавальнікаў, кіраўнікоў фальклорных і тэатральных гурткоў

*Рэкамендавана*
*Навукова-метадычнай установай*
*«Нацыянальны інстытут адукацыі»*
*Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2008

УДК 373.138.31:398(476)
ББК 74.200.58
К43

Р э ц э н з е н т ы:

прафесар кафедры рэжысуры свят Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, кандыдат філалагічных навук, дацэнт *А. М. Аляхновіч*;

намеснік дырэктара па рабоце з класамі з фальклорна-тэатральным ухілам Сеніцкай сярэдняй школы імя Янкі Купалы *В. А. Лукашэвіч*

**Кірчук, І. І.**

К43 Выхаванне на нацыянальных традыцыях : вучэб.-метад. дапаможнік для настаўнікаў, класных кіраўнікоў, выхавальнікаў, кіраўнікоў фальклорных і тэатральных гурткоў / І. І. Кірчук. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2008. — 192 с.
ISBN 978-985-465-447-8.

У кнізе прадстаўлены сцэнарыі народных свят, абрадаў, даюцца метадычныя парады па іх правядзенні ў навучальных установах.

Адрасуецца настаўнікам, класным кіраўнікам, выхавальнікам, кіраўнікам фальклорных і тэатральных гурткоў.

**УДК 373.138.31:398(476)**
**ББК 74.200.58**

**ISBN 978-985-465-447-8**



## ЗМЕСТ

Прадмова ........ 4

**Сцэнарыі для дзяцей малодшага школьнага ўзросту**

Воўк і авечкі. *Паводле беларускай народнай гульні* ........ 9

Баравічок-Лесавічок. *Паводле беларускіх народных казак* 22

**Сцэнарыі тэатралізаваных свят і абрадаў для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту**

Масленіца ........ 41

Свята Вялічка ........ 62

Юр'я, або Вялікія пастухі ........ 91

Неба і зямля. *На аснове беларускай міфалогіі* ........ 115

**Сцэнарыі тэатралізаваных прадстаўленняў для старшакласнікаў**

Восеньскі кірмаш ........ 129

Багач ........ 159

Батлейка. *Драма з удзелам касцюміраваных персанажаў і лялек* ........ 173



## ПРАДМОВА

У апошнія гады, дзякуючы нацыянальнаму адраджэнню, у беларусаў узнікла цікавасць да свайго мінулага, гісторыі і культуры, у тым ліку — да народных традыцый. Беларускія звычаі і абрады канца XIX — пачатку XX стагоддзя ўяўляюць сабой стройную сістэму, у якой знайшлі адлюстраванне розныя бакі народнай культуры, побыту, філасофіі, рэлігіі, светаўспрымання і светаасэнсавання. Яны з'яўляюцца неад'емнай часткай духоўнай спадчыны беларусаў. На жаль, і ва ўласных сем'ях, і ў практыцы выхаваўчых і адукацыйных устаноў мы далёка не поўна выкарыстоўваем гэты найбагацейшы педагагічны патэнцыял, створаны нашымі продкамі.

Фальклор, як народная мудрасць, не з'яўляецца нязменным: многія творы трансфармуюцца, дастасоўваюцца да новых умоў. Адраджэнне ці нават рэканструкцыя таго ці іншага свята — справа нялёгкая. Таму, зразумела, педагогам найперш трэба ўважліва вывучаць літаратуру і назапашаны тэкставы, меладычны, інструментальны і харэаграфічны матэрыял. Добрай дапамогай у працы могуць быць каля 50 тамоў серыі «Беларуская народная творчасць», падрыхтаваных Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. У іх грунтоўна падаецца фальклорны матэрыял, раскрываецца паходжанне і змест разнастайных свят і абрадаў.

У сённяшні час існуе праблема адаптацыі фальклорнай спадчыны да сцэнічных умоў і распрацоўкі спецыяльных сцэнарыяў, разлічаных на школьнікаў розных узростаў. У апошнія гады былі выдадзены дапаможнікі «Восеньскія святы» (1995); «Зімовыя святы» (1999); «Веснавыя святы» (2000); «Летнія святы» (2001) А. Лозкі.

У іх увайшлі сцэнарыі, напісаныя аўтарам гэтага выдання: «Дзе пачую талаку, туды ногі валаку», «Мацей і Аўдзей на вячорках у Хрысці».

У 2004 годзе выйшаў дапаможнік для настаўнікаў, выхавальнікаў, кіраўнікоў фальклорных і тэатральных гурткоў і студый «Тэатралізаваныя школьныя святы», сааўтарамі якога з'яўляюцца А. Лозка і І. Кірчук. Туды ўвайшлі новыя, распрацаваныя І. Кірчуком, фальклорныя праграмы:

«Калядныя ігрышчы»;



«Лалоўнікі»;
«Русальныя розыгры»;
«Ноч на Яна»;
«Караваю, мой раю»;
«Некруты».

Прапанаваныя ў гэтай кнізе і названыя вышэй праграмы або іх фрагменты прайшлі шырокае апрабаванне на вучэбных пляцоўках Мінскага вучылішча мастацтваў (1982—1995) і Дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка (1997—2005). Шматлікія школьныя фальклорныя вучэбныя гурты прымалі ўдзел у гарадскіх і раённых святах. Лепшыя ўзоры рэканструяваных фрагментаў абрадаў, свят, тэатралізаваных казак былі запісаны на Рэспубліканскім радыё (клуб «Фальклор») і паказаны па Беларускім тэлебачанні.

Сёння праблема рэальнага далучэння моладзі, асабліва дзяцей, да нацыянальнай культуры з'яўляецца вельмі складанай. Існуе патрэба ў пошуку новых падыходаў да выхавання і адукацыі: тэарэтычных, арганізацыйна-тэхнічных і г. д.

Неабходна з самага ранняга ўзросту фарміраваць у дзяцей уяўленне аб асаблівасцях беларускай духоўнай культуры і народных традыцый, паказаць багацце фальклорнай спадчыны Беларусі. У сувязі з вышэйсказаным аўтарам былі распрацаваны сцэнарыі для школьнікаў розных узроставых груп, што стала асновай класіфікацыі фальклорных праграм па раздзелах:

**1. Сцэнарыі для дзяцей малодшага школьнага ўзросту.**

Прапануецца два сцэнарыі: тэатралізацыя казкі і народнай гульні. Для сцэнічнага ўвасаблення гэтых праграм патрабуюцца вельмі простая сцэнаграфія і мінімум рэквізіту. Падабраны песенны матэрыял у гэтых сцэнарыях адрозніваецца лёгкай засваяльнасцю. Простыя, ясныя і лёгкія мелодыі, невялікі дыяпазон напеваў. Трэба звярнуць увагу, каб усё гэта выразна інтанавалася школьнікамі.

У працы з народнай гульнёй «Воўк і авечкі» прапануецца, па-першае, звярнуць увагу на вусна-паэтычную творчасць: прыказкі, прымаўкі, лічылкі, загадкі. Па-другое, падрыхтаваць адпаведныя атрыбуты народнага мастацтва: касцюмы, маскі і рэквізіт. У працы з народнымі песнямі варта звярнуць увагу на правільны пеўчы ўдых і выдых у школьнікаў малодшага ўзросту.

У працы над казкай «Баравічок-Лесавічок» трэба спалучыць спевы з рухамі, дзеяннем, мізансцэнамі; далучыць кожнага школьніка да тэатралізацыі беларускай казкі; працаваць над дыялогамі, вобразамі, сцэнкамі, уключыць у працу са школьнікамі практыкаванні па распяванні на галосныя і зычныя гукі. Пры выкарыстанні гэтых гукаў важна правільна

фарміраваць галасы дзяцей, выкарыстоўваць гульнявыя і забаўляльныя формы фальклору адпаведна сцэнарыю.

**2. Сцэнарыі тэатралізаваных свят і абрадаў для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту.**

Мэтазгодна даць школьнікам кароткія звесткі аб народных святах і звычаях беларусаў, а таксама аб персанажах у прапанаваных сцэнарыях.

**Масленіца** — адно з прыгожых народных свят, якое вядзе свой пачатак з язычніцкіх часоў. Гэта свята — у гонар Сонца. Абрады Масленіцы былі скіраваны на адраджэнне прыроды. У гэтым сцэнарыі звяратецца ўвага на масленічныя гульні і забавы моладзі. Пры падрыхтоўцы да свята пажадана больш папрацаваць над стылем выканання народных песень, уключыць у працу практыкаванні для гуказдабывання, дыкцыі.

**«Свята Вялічка»** — вельмі яркая і непаўторная з'ява ў нацыянальнай культуры беларусаў. У аснове сцэнарыя — валачобны абрад. Кіраўнікам фальклорных дзіцячых гурткоў варта звярнуць увагу на вывучэнне вінша-вальна-велічальных песень, якія маюць вялікае эстэтычнае і пазнавальнае значэнне. Падчас працы над песенным матэрыялам гэтага сцэнарыя прапануецца ўключыць практыкаванні для развіцця артыкуляцыі, дакладнага вымаўлення зычных гукаў.

**«Юр'я, або Вялікія пастухі».** У гэтым сцэнарыі варта звярнуць увагу на пастухоўскія гульні, якія развіваюць назіральнасць, кемлівасць, удумлівасць, вынаходлівасць, а таксама сілу, спрытнасць, зрок, слых; выпрацаваць навыкі і ўменні выконваць неабходныя рухі і мізансцэны.

Падчас працы з юр'еўскімі песнямі пажадана выпрацаваць шырокую кантылену, уключыць практыкаванні для працы над тэмбрам, дыханнем, фарміраваць пачуццё апоры пеўчага гуку.

**«Неба і зямля»** — сцэнарый, які створаны на аснове беларускай міфалогіі. Беларусы маюць сваю міфалогію, якая праяўляецца праз словы, мысленне, дзеянні і прысутнічае ў паўсядзённым жыцці. На жаль, яна амаль не вядома. Знаёмства школьнікаў з міфалагічнымі персанажамі Беларусі дасць мастацка-эстэтычнае задавальненне, пашырыць веды, пазнаёміць са светаадчуваннем продкаў. Работа над пэўнымі ролямі, сумесная падрыхтоўка адпаведных касцюмаў і рэквізату паспрыяе развіццю творчай фантазіі вучняў.

**3. Сцэнарыі тэатралізаваных прадстаўленняў для старшакласнікаў.**

**«Восеньскі кірмаш».** Восеньскія звычаі і абрады ў беларусаў выглядалі больш сціпла. Іх было нямнога. Сярод гэтых нямногіх вылучаюцца інсцэніраваныя — «Кірмаш» і «Багач». Тэксты, песні і музыка беларускага кірмашу прасякнуты светаадчуваннем і светаўспрыманнем самаго народа, аб'ектыўна адлюстроўваюць яго мінулае і сучаснае жыццё. Прапануецца ўключыць у працу са школьнікамі ілюстрацыю зместу фальклорных твораў сродкамі пластыкі, пантамімы, трэніраваць спалучэнне фаз дыхання з рухамі ў песнях.

**Багач** — старажытнае свята заканчэння ўборкі зернавых. Гэтае свята, згодна з павер'ем, забяспечвала ўсіх удзельнікаў шчасцем і дабрабытам. На жаль, у этнаграфічнай літаратуры звесткі пра гэтае свята амаль што адсутнічаюць. Таму адраджэнне гэтага абраду сярод школьнікаў аўтар лічыць вельмі важным. Кіраўнікам дзіцячых, фальклорных калектываў, педагогам, выхавальнікам неабходна пазнаёміць школьнікаў з традыцыямі беражлівых і паважлівых адносін да зямлі, працы, хлеба, бацькоў, праз абрад вучыць разумець прыгажосць працоўнага чалавека, плённай і ўмелай работы. Працуючы над абрадам, пажадана больш увагі звярнуць на выкананне народных песень, якія з'яўляюцца важным сродкам фарміравання пеўчых навыкаў школьнікаў у гэтым узросце, уключыць у працу са школьнікамі практыкаванні для ўмацавання мышцаў дыхання.

Развучваць песні па дадзеных нотах або з голасу можна з аудыё- ці відэазапісаў.

**«Батлейка».** Мастацтва батлейкі — сінтэтычнае, яно развівае самыя розныя здольнасці: акцёрскія, рэжысёрскія, драматургічныя, музычныя, мастацкія, дызайнерскія, літаратурныя, моўныя, гістарычныя, сталярныя і шмат іншых. Гэты універсальны і эфектыўны сродак навучання і выхавання, нягледзячы на сваю старадаўнасць, а можа і дзякуючы такой якасці, прыдатны для работы з школьнікамі.

Таму прапануецца пазнаёміць школьнікаў з традыцыйным беларускім тэатрам і яго месцам у айчыннай і сусветнай культуры, развіць першыя практычныя ўменні па простым вырабе лялек-персанажаў і мастацкім афармленні батлейкі, ваджэнні лялек. У сцэнарыі змешчана больш складаная драма з удзелам касцюміраваных персанажаў і лялек.

Кіраўнікам гурткоў неабходна авалодаць майстэрствам батлеечніка і развіваць акцёрскія здольнасці школьнікаў. Разам з удзельнікамі калектыву, неабходна падрыхтаваць скрыню на два ярусы і вырабіць адпаведныя сцэнарыю лялькі, дэкарацыі, размеркаваць ролі, падрыхтаваць музычнае і шумавое афармленне спектакля.

У гэтым выданні шырока прадстаўлены музычны матэрыял, які дапаможа ўдзельнікам калектываў зрабіць працу больш разнастайнай і цікавай. Фальклорные праграмы будуць садзейнічаць выхаванню ў школьнікаў пачуцця прыгажосці, дапамогуць зразумець многія мастацкія з'явы, паспрыяюць фарміраванню эстэтычнага густу, развіццю ініцыятывы.

Вельмі карысна для суправаджэння многіх песень выкарыстоўваць нацыянальныя беларускія інструменты: дудку, ліру, цымбалы, дуду. Інструментальныя найгрышы могуць быць запісаны на фанаграму.

Некаторыя з праграм складаюцца з 3—5 самастойных сцэн, кожная з якіх можа быць выкарыстана паасобку. Настаўнікам, выхавальнікам, кіраўнікам тэатральных гурткоў прадстаўляецца творчая свабода ў выбары і адаптацыі фальклорнага матэрыялу да пэўнай узроставай катэгорыі навучэнцаў або ўласных магчымасцей.

Непарыўнае адзінства слова, музыкі, танца, элементаў народнага тэатра і гульні ў прадстаўленнях адпавядае сінкрэтычнаму характару народнай культуры і таму дазваляе школьнікам рознага ўзросту глыбей зразумець яе сутнасць.

Праца педагогаў з прапанаванымі сцэнарыямі дапаможа развіваць у школьнікаў прыродныя музыкальныя даныя, дазволіць глыбей раскрыць мастацкія здольнасці, зрабіць рэпетыцыі непасрэднымі, далучыць кожнага ўдзельніка да тэатралізацыі беларускага фальклору. Многае залежыць ад фантазіі педагога і актыўнасці саміх удзельнікаў.



# СЦЭНАРЫІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА ШКОЛЬНАГА ЎЗРОСТУ



## ВОЎК І АВЕЧКІ

Паводле беларускай народнай гульні

**Дзеючыя асобы**

Гаспадыня.
Пастух Улас.
1-я авечка.
2-я авечка.
3-я авечка.
4-я авечка.
5-я авечка.
6-я авечка.
7-я авечка.
Воўк.
Музыкі.

**ДЗЕЯ ПЕРШАЯ**

На сцэну пад музыку выходзіць прыгожа апранутая Гаспадыня, вакол яе прытанцоўваюць авечкі (дзяўчаты і хлопцы).

Гаспадыня *(узіраючыся ў неба).* Тучы, тучы-адлятучы, ляціце на сухія землі, на чужыя старонкі, маю хаціначку, маю мясціначку мінайце.

Здалёк чуецца музыка, і на сцэну выходзіць з торбай пастух.

**Найгрыш**

Не спяшаючыся




Выкарыстана мелодыя песні «Пасу, пасу авечачкі»: Дзіцячы фальклор / рэд. К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972. — С. 458. (Зап. Л. М. Салавей у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ад М. М. Казлоўскай 1911 г. н. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, л. 81—85.)

Пастух. У залатую трубу іграю, звяр'ю раты замыкаю, і чорнаму медзвядзю, і шэраму ваўчышчу. *(Ляскае пугай.)* Буду іх біць, драць і караць — то паленнем, то каменнем!

Гаспадыня *(звяртаецца да пастуха)*. Гэй, Улас, Улас, хадзі да нас, найміся да мяне скацінку пасвіць.

Да яго падыходзяць авечкі і становяцца вакол. Шэпчуцца паміж сабой.

1-я авечка. Нашы козачкі каля лозачкі, ме-ме, ме-ме!

2-я авечка. Нашы свіначкі каля даліначкі, рох-рох, рох-рох!

3-я авечка. Нашы каровачкі каля дубровачкі, му-му, му-му!

Гаспадыня. А авечачкі, Улас, папасеш каля рэчачкі.

Пастух *(гаспадыні)*. Ой, пяяў бы я песні, ды не знаю ноты, абарваны кажушок, дзіравыя боты. *(Глядзіць на авечак.)* Але добра, згодзен!

Гаспадыня *(кланяецца)*. Ой, дзякуй, Улас.

Пастух *(важна)*. Дзякуй не дзякуй, а заплаціць мусіш, хоць рублінку, хоць залацінку. І давай чысты новы ручнік.

Гаспадыня ідзе па ручнік.

4-я авечка *(задзірлівым тонам)*. Ой, і нашто гэта табе чысты ручнік? А?

Пастух маўчыць, пакуль гаспадыня не прыносіць ручнік.

Пастух *(гаворыць гаспадыні)*. Трымай, гаспадынька! *(Бяруцца разам за канцы ручніка.)* Авечкі павінны пераскочыць праз ручнік.

1-я авечка *(гучна)*. Я не хачу!

2-я авечка *(штурхаючы 3-ю авечку)*. Я не буду!

3-я авечка *(перадражніваючы пастуха)*. Яшчэ чаго, скакаць?



4-я авечка. Сам скачы, як верабейка па сметнічку. *(Смяюцца.)*

Пастух *(авечкам)*. Тады вы не будзеце разлучацца на пастве, не будзеце заходзіць у чужыя двары *(авечкі ўважліва слухаюць)* і заўсёды будзеце разам вяртацца дадому.

Пад музыку авечкі скачуць па чарзе праз ручнік. Пастух жартуе, падымаючы край свайго ручніка то вышэй, то ніжэй.

**Найгрыш**

Не спяшаючыся




Выкарыстана мелодыя песні «Пасу, пасу авечачкі»: Дзіцячы фальклор / рэд. К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972. — С. 458. (Зап. Л. М. Салавей у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ад М. М. Казлоўскай 1911 г. н. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, л. 81—85.)

Калі ўсе авечкі пераскочылі, гаспадыня звяртаецца да іх.

Гаспадыня *(сярдзіта)*. Так, так, авечачкі, ножкамі патапчыце, вушкамі патрасіце, траўкі наядайцеся, крышталёвай вады напівайцеся і дадому варачайцеся. *(Далей да пастуха.)* А ты, Улас, спераду прыпыняй, ззаду падганяй. *(Дае пастуху кошык, у якім ляжаць хлеб і абаранкі, накрывае ўсё ручніком.)*

Пастух вядзе авечак, якія могуць танцаваць вакол пастуха.

**Найгрыш**

Не спяшаючыся




Выкарыстана мелодыя песні «Пасу, пасу авечачкі»: Дзіцячы фальклор / рэд. К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972. — С. 458. (Зап. Л. М. Салавей у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ад М. М. Казлоўскай 1911 г. н. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, л. 81—85.)

П а с т у х. Ану, пайшлі! *(Лічыць авечак.)* Адзін, два, тры, чатыры, пяць. Пайшлі авечкі пагуляць. *(Гаворыць ціха, убок.)* А за імі шэры воўк, ён у авечках знае толк. *(Хрысціцца.)*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

П а с т у х і а в е ч к і выходзяць на паляну. Пастух іграе на дудцы або на дудзе, потым пяе авечкам песню. (Можна выкарыстоўваць музыкаў, якія могуць увесь час іграць на краі сцэны.)

### Песня «Пасу, пасу авечачкі»







Выкарыстана мелодыя песні «Пасу, пасу авечачкі»: Дзіцячы фальклор / рэд. К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972. — С. 458. (Зап. Л. М. Салавей у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ад М. М. Казлоўскай 1911 г. н. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, л. 81—85.)

П а с т у х *(пяе).*

Пасу, пасу авечачкі каля быстрай рэчачкі.
Я за гарою, воўк за другою.
Каля самай рэчачкі я пасу авечачкі.
Воўк за гарою, шэры за крутою.



Я ваўка не баюся, кіем я баранюся.
Гэй, шэры воўк, гэй, крывы бок.
Пасу, пасу да вечара, а ўвечары гнаць нечага.
Воўк за гарою, шэры за крутою.
Я ваўка не баюся, качарэжкай да адаб'юся.
Гэй, шэры воўк, гэй, крывы бок.

Пачынае цямнець, пастух сядае на пень (або камень), а авечкі размяшчаюцца вакол яго.

П а с т у х *(мякка).* Слухайце, авечачкі, казачку. Сябравалі некалі сава з дзятлам. Усё ў іх было добра, але вось аднаго разу не паспела яшчэ як след развіднець, а дзяцел ужо ўхапіўся за работу. Ён так забарабаніў па старой хвоі, аж рэха пайшло па ўсім лесе. У гэты час яго суседка сава толькі ўкладвалася спаць. Раззлавалася яна і кажа: «Ці маеш ты розум? Не дасі мне спакойна паспаць!» Здзівіўся дзяцел: як гэта днём можна спаць? Не паслухаў саву і зноў узяўся за сваю работу. Мінуў дзень, настала ноч. Усе дзятлавы сваякі моцна паснулі. Заснуў і сам дзяцел. Але раптам ён пачуў крык савы. Узлаваўся дзяцел і кажа: «Чаго ты мяне пужаеш? Ідзі спаць!» Але сава не паслухала дзятла, як і дзяцел не паслухаў саву. З таго часу не ладзяць сава з дзятлам паміж сабой. І так у іх пайшло дзень за днём, ноч за ноччу.

За сцэнай чуецца крык савы, авечкі палохаюцца.

П а с т у х *(прыкідваецца перапалоханым).* Ой, сонцам асвячуся, месячыкам абгараджуся, зорамі абсыплюся, залатымі ключыкамі замкнуся — я нікога не баюся.

У гэты час на сцэну, аблізваючы вусны, выходзіць В о ў к, крадзецца, азіраючыся па баках.

В о ў к *(ціха, убок).* Месяц, месяц, князь малады, у цябе рог залаты. Ты ў моры купаўся, мне спадабаўся, табе — ясныя ночы, мне — ясныя вочы, табе — цёмныя ночы, а мне — светлыя вочы.

Воўк скрыгоча зубамі (гэтыя гукі можна імітаваць на музычных інструментах).

П а с т у х *(паказваючы на Ваўка).* Ой, авечачкі, бачу: бяжыць воўк, чатыры лапы, пяты хвост! *(Выходзіць насустрач Ваўку.)* Ты, магутны багатыр, сівы воўк! Умальваю і ўпрошваю цябе, рота не разяўляй, вачэй не ўскладай на мой статак.

В о ў к *(хітрue).* Нашто мне твой статак? Схадзі лепш паглядзі: табе бацька залаты гадзіннік купіў.

Як толькі п а с т у х адыходзіць ад статка, Воўк хапае адну з авечак і ўцякае. На іх крык вяртаецца п а с т у х.

П а с т у х *(лаецца).* Ай, дыла-дыліха, габа-габіха! Воўча-ваўчыха! Свідра-свідрыха! Ату! Шэры! Ату!

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

П а с т у х збірае спалоханых авечак, якія разбегліся па палянцы. Пяе ім песню.

**Песня «Авечачкі мае»**

Працяжна, напеўна ♩ = 74

А-ве-чач-кі ма-е, а-ве-чкі шэ-ры-я, на-што я вас кар-міў?

Ліра

На-што я вас па-іў? Ці на бе-ла-га звя-рыш-чу? Ці на шэ-ра-га ваў-чыш-чу?

Аўтарская мелодыя І. І. Кірчука па матывах песень да беларускай народнай гульні «Воўк і авечкі».

П а с т у х *(сумна).* Авечачкі мае, авечкі шэрыя. Нашто я вас паіў? Нашто я вас карміў? Ці на белага звярышчу? Ці на шэрага ваўчышчу? Авечачкі мае, авечкі шэрыя.

Пасля песні ўсе сядаюць вакол вогнішча, і, каб супакоіць авечак, пастух загадвае ім загадкі.



П а с т у х *(радасна).* Ану, згадайце! Уся дарожка ўсыпана гарошкам?
1-я а в е ч к а *(падумаўшы).* Зоркі?
П а с т у х. Так. *(Дастае з кошыка абаранак і дае 1-й авечцы.)* А што гэта за вочы: адно свеціць удзень, а другое — уночы?
4-я а в е ч к а *(спалохана).* Воўк!
П а с т у х. Не.
2-я а в е ч к а. То сонца і месяц.
П а с т у х *(дае ёй таксама абаранак).* Добра. А прыйшла чорная маці і паклала ўсіх спаці?
4-я а в е ч к а *(спалохана).* Воўк!
П а с т у х. Ды не, не воўк.
3-я а в е ч к а. Гэта ноч. *(Супакойвае 4-ю авечку.)*
П а с т у х. А вось яшчэ. Адзін пастух, а пасе тысячу авечак. *(І адразу задзірлівым тонам кажа 4-й авечцы.)* Не воўк!
4-я а в е ч к а. Гэта месяц і зоркі! Так?
П а с т у х. Так, частуйся. *(Дае абаранак.)*
1-я а в е ч к а. Слухай, Улас, а цяпер ты адгадай нашу загадку: і на полі, і на лузе яна ходзіць у кажусе.
П а с т у х *(жартуе).* Воўк?
А в е ч к і *(усе разам).* Авечка! Авечка!

У гэты час В о ў к пераапранаецца ў хлопца, надзявае капялюш, звініць званочкамі і падыходзіць да пастуха.

В о ў к *(ласкава).* Добры дзень, пастушок! Ці хочаш такія званочкі сваім авечачкам?
П а с т у х. А што, хлопча, пакажы. *(Разглядае разам з авечкамі.)*
В о ў к *(працягвае).* Слухай, а ці не твая гаспадыня толькі што з торгу прыехала? Купіла табе капялюш.
П а с т у х *(радасна).* Капялюш?
В о ў к *(аблізваючы вусны).* І чаравікі! Бо ты ж у парваных ботах. *(Смяецца.)* Схадзі.
П а с т у х. А не маніш, хлопец?
В о ў к. Не, далібог! Схадзі, а я авечак папасу.

П а с т у х сыходзіць са сцэны, а Воўк у гэты час крадзе яшчэ авечкі. Гаспадыня сядзіць ля сцэны і робіць свае хатнія справы. Да яе прыходзіць вясёлы пастух.

П а с т у х *(кланяецца).* Шаноўная гаспадынечка, а што ты мне на таргу купіла? Капялюш?
Г а с п а д ы н я *(сярдуючы).* Што? Я на таргу не была! Нічога табе не купіла! Ідзі авечак глядзець! Гэта ж, не дай Бог, воўк уб'ецца ў статак!

П а с т у х ідзе да авечак, чухаючы галаву.

Г а с п а д ы н я *(павучальна).* От пастух, пастух, яловы трыбух! І ў доме жарэ, і з сабою бярэ! А прыйдзе ў поле — авечак не пасе. Капялюш яму? Дзеркача ў бакі!

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

П а с т у х вяртаецца да авечак, пералічвае іх, бачыць, што не ўсе, пачынае галасіць.

П а с т у х. А-ёй, беленькай няма, а-ёй, чорненькай няма. *(Зноў пяе песню.)* Авечачкі мае, авечкі шэрыя. Нашто я вас паіў? Нашто я вас карміў? Ці на белага звярышчу? Ці на шэрага ваўчышчу? Авечачкі мае, авечкі шэрыя. *(Пасля песні сур'ёзна гаворыць.)* Няхай ваўкі зубамі не скрыгочуць, няхай мядзведзі не мармычуць. Чур-чурамы! Дзякі спяваюць, Вангелію чытаюць, пашчы замаўляюць. Пярун б'ець, маланка паліць! *(Далей ласкава.)* Хадзіце да мяне, мае авечачкі.

Авечкі сядаюць вакол пастуха, ён спявае ім калыханку. Гучыць песня.

**Калыханка**







Дзіцячы фальклор / рэд. К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972. — С. 117. (Зап. Г. І. Цітовіч у 1936 г. у с. Беняконі Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці.)

П а с т у х. Пайшоў каток у лясок, знайшоў каток паясок.
А в е ч к і *(усе разам, рэхам).* Паясок...
П а с т у х. Пайшоў каток на ток, знайшоў нітак маток.
А в е ч к і *(рэхам).* Нітак маток...
П а с т у х. Пайшоў каток на ганак, знайшоў каток абаранак.
А в е ч к і *(ціха).* Аба-ра-нак...



П а с т у х. Пайшоў каток на лавачку, знайшоў каток булавачку.
А в е ч к і *(ціха).* Бу-ла-вач-ку...
П а с т у х. Пайшоў каток на крылечка, знайшоў каток калечка.
1-я, 2-я і 3-я а в е ч к і *(бо адна ўжо засынае).* Ка-леч-ка...
П а с т у х. Пайшоў каток на места, знайшоў каток цеста.
1-я і 2-я а в е ч к і *(бо засынае яшчэ адна).* Це-е-еста-а-а...
П а с т у х *(сонна).* Пайшоў каток на таржок, знайшоў каток піражок.
А п о ш н я я а в е ч к а. Пі-ра... *(І засынае.)*
П а с т у х *(пяе ціха, адзін).* А на ката варката, а на авечак дрымата... а-а-а...

У час калыханкі вакол статка ходзіць В о ў к. Ён чакае, пакуль засне Пастух, а пасля крадзе астатніх авечак, якія губляюць чорныя і белыя хустачкі. (Воўк можа хаваць іх у зале сярод гледачоў.)

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

Ранак. Пяе певень. П а с т у х прачынаецца і бачыць, што авечак няма. Плачучы, ідзе іх шукаць. Па дарозе збірае чорныя і белыя хустачкі, якія пагублялі авечкі, калі іх цягнуў воўк. А В о ў к у гэты час пераапранаецца ў кабету: надзявае хустку, спадніцу; авечак накрывае посцілкай.

П а с т у х. Добры дзень, бабулечка, ці не прабягалі тут мае авечачкі?
В о ў к *(мякка).* А якія?
П а с т у х *(паказвае дзве чорненькія хустачкі).* Чорненькія.
В о ў к *(важна).* А пабеглі па чорненькай дарожцы. *(Хапае хустачкі ў пастуха і хавае іх за пазуху.)*
П а с т у х *(паказвае беленькія хустачкі).* А беленькія?
В о ў к *(зноў хапае хустачкі і хавае).* А пабеглі па белай дарожцы, па чыстаму сасоннічку.

А в е ч к і пад посцілкай пачынаюць пляскаць у далоні.

П а с т у х *(азірнуўшыся).* Ой, бабулечка, а што ў цябе там шуміць?
В о ў к. А пчолы гудуць.
П а с т у х. То дай мядку.
В о ў к. Што ты? Ідзі, бо пчолы пакусаюць.

Авечкі пачынаюць тупаць нагамі.

П а с т у х *(сурова).* Так, а што ў цябе стукае?
В о ў к. То мае парубкі так дровы сякуць.

П а с т у х *(насмешліва).* О, бабуля, відаць, ты барыня, што парубкаў маеш?

А в е ч к і *(пад посцілкай).* Кы-кы-кы!

П а с т у х *(злосна).* А што гэта ў барыні трашчыць?

В о ў к *(махае рукамі, каб прагнаць пастуха).* Гарох. *(Крычыць, каб не было чуваць авечак.)* Га-ро-х-х-х!

П а с т у х *(бегаючы кругом посцілкі).* Дай пакаштаваць.

В о ў к *(смеючыся, адганяе пастуха).* Ой, сух дужа — зубы паламаеш, хлопча.

А в е ч к і *(пад посцілкай).* Ці-ці-ці-ці!

П а с т у х *(хоча зазірнуць пад посцілку).* Ой, у цябе нешта там шуміць.

В о ў к. Дзеўкі бліны пякуць.

П а с т у х *(сярдзітым голасам, пагражаючы).* Дай, баба, блінца! Дай, кажу!

В о ў к *(спалохана).* Гарачыя, апячэшся.

А в е ч к і. С-с-с-с-с-с!

П а с т у х *(замахваецца).* А гэта што? Пакажы!

В о ў к *(стогнучы).* Вар грэецца.

П а с т у х *(нецярпліва).* Дай мне рукі памыць! *(Сцягвае посцілку з авечак.)*

В о ў к *(здзіўлена).* Во, разліўся.

Авечкі пачынаюць бляяць.

П а с т у х *(радасна).* Ой, ці не мае гэта авечкі?

В о ў к. Яшчэ чаго, мае, бо мае пад посцілкай былі. А дзе твае — не ведаю.

П а с т у х. Так, пакажы. *(Падыходзіць бліжэй.)*

В о ў к *(тузае пастуха).* Чаго глядзець? Мае. Сваіх глядзець трэба было, а не спаць.

П а с т у х. Мае, мае! *(Цягне да сябе авечак.)*

В о ў к *(цягне да сябе).* Мае! *(Нарэшце гаворыць.)* Так, калі гэта твае авечкі, хай пройдуць па кладачцы. Згодзен?

П а с т у х. Згодзен!

Пакуль пастух кладзе палку або качаргу, Воўк завязвае ўсім авечкам вочы хустачкамі (блытае колер). Пад музыку ўсе авечкі пераходзяць па «кладачцы», хоць ім і перашкаджае Воўк.



**Найгрыш**




Выкарыстана мелодыя песні «Пасу, пасу авечачкі»: Дзіцячы фальклор / рэд. К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972. — С. 458. (Зап. Л. М. Салавей у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ад М. М. Казлоўскай 1911 г. н. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, л. 81—85.)

## ДЗЕЯ ШОСТАЯ

А в е ч к і пераходзяць па «кладачцы». Г а с п а д ы н я ў гэты час ходзіць сярод гледачоў і пытаецца ў іх.

Г а с п а д ы н я. А людочкі, ці не бачылі вы маіх авечачак? Пастуха? Хай яго! Калі з'еў яго воўк, то і добра. А мае ж авечачкі! А што я рабіць буду? *(Звяртаецца да гледачоў.)* А можа, хто хоча авечачкай у мой хлеў? *(Раптам бачыць авечак на сцэне, побач з імі — пастуха Уласа і Ваўка. Бяжыць і крычыць.)* Тусту-тусту, гляньце, воўк з-за кусту! *(Ловіць Ваўка, зрывае з яго хустку і спадніцу.)* Талку, талку, як схаплю я палку! *(Бярэ ў руку палку або качаргу.)* Тэчы, тэчы, як дам я ваўку ў плечы! *(Воўк прысядае.)* Так, *(звяртаецца да авечак)* ну што з ім рабіць будзем?

П а с т у х. Можа, у лазню яго?

Г а с п а д ы н я *(строга да пастуха).* Вось табе б лазню зрабіць!

В о ў к *(перабівае іх).* Добра, добра, а якая ў вас печка?

Г а с п а д ы н я. У мяне — камяная, каб цябе каменем заваліла за маіх авечачак!

В о ў к *(чухаючы галаву).* А які палок?

П а с т у х. Конскае рабро!

Авечкі пачынаюць акружаць Ваўка.

В о ў к *(азіраючыся).* А, а якая ў вас конаўка?

1-я а в е ч к а *(асмялеўшы).* Конская галава!

В о ў к *(хапае 1-ю авечку за руку).* А які венік? *(Яна вырываецца.)*

2-я а в е ч к а. Конскі хвост!

В о ў к *(задумваецца)*. А агонь ёсць, які?
Г а с п а д ы н я. Як конскія вочы!
В о ў к. У-у-у! А якія дровы?
3-я а в е ч к а. Бярозавыя.
В о ў к *(стогне)*. Не хачу, надта чадзяць!
4-я а в е ч к а. А як асінавыя?
В о ў к *(вые)*. Не! Надта дымяць!
Г а с п а д ы н я *(падыходзіць з палкай)*. А як хваёвыя?
В о ў к *(ківае галавою)*. Добра, добра, пойдуць. Згодзен.

Авечкі становяцца ў дзве шарэнгі, утвараюць своеасаблівы калідор, праз які павінен прайсці Воўк.

В о ў к *(жаласна)*. Гаспадынечка, а сабак у вас няма?
П а с т у х. Не бойся, няма.
Г а с п а д ы н я. Быў, ды і той кісялём удавіўся.
П а с т у х *(жартуе)*. Праўда, ёсць адна сучка, і тая пад печчу ад страху здыхае. *(Усе смяюцца.)*

Пад музыку (або песню) Воўк праходзіць калідор, авечкі б'юць яго хусткамі па плячах. Пасля Гаспадыня крычыць: «Цюцькі, кусіце яго!» Авечкі і Пастух Улас кідаюцца на Ваўка, казычуць.

**Найгрыш**






Выкарыстана мелодыя песні «Пасу, пасу авечачкі»: Дзіцячы фальклор / рэд. К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972. — С. 458. (Зап. Л. М. Салавей у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ад М. М. Казлоўскай 1911 г. н. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, л. 81—85.)

Г а с п а д ы н я. Ну што, Воўча, надта яны цябе пакусалі?
В о ў к. Ой, пакусалі. *(Чухае галаву і хапаецца за бакі.)*
П а с т у х. А ці будзеш красці авечкі?



В о ў к. Буду, *(і адразу)* ой, не, не! Ніколі ў жыцці, далібог!
Г а с п а д ы н я. Ну, вось і добра!

Усе становяцца вакол Ваўка. Пастух і Гаспадыня пяюць песню, а авечкі танцуюць вакол Ваўка.

**Песня «Гэй ты, воўчанька»**




Аўтарская мелодыя І. І. Кірчука па матывах песень да беларускай народнай гульні «Воўк і авечкі».

У с е. Гэй ты, воўчанька, гэй ты, шэранькі,
Ты ў лесе жывеш, нам спакою не даеш.
В о ў к. Як спакой вам даць? Недзе мне начаваць:
Ані хатанькі, ані буданькі.
Я на траўцы сядзеў, на авечак глядзеў,
Як хацеў ухапіць, пачалі гаманіць!
У с е. Гэй ты, воўчанька, гэй ты, шэранькі!
Ты ў лесе жывеш нам спакою не даеш!

З а с л о н а

**Літаратура**

1. Беларускі фальклор: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / склад. К. П. Кабашнікаў і інш. — Мінск: Выш. шк., 1996.
2. Гульні, забавы, ігрышчы / склад. А. Ю. Лозка. — Мінск: Беларуская навука, 1996.
3. Дзіцячы фальклор / склад. К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972.
4. Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры: вучэб. дапаможнік / склад. М. Ф. Шаўлоўская. — Мінск: Выш. шк., 1989.



# БАРАВІЧОК-ЛЕСАВІЧОК

Паводле беларускіх народных казак

**Дзеючыя асобы**

З а й ч ы к - М л ы н а р.
С а л а в е й к а.
В е р а б е й к а.
Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к.
К а з а - Л я н о т а.
Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а.
В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к.
М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а.
П ч а л а — Б а л ю ч а е д ж а л а.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Найгрыш на народных інструментах. На сцэне стаіць невялічкая хатка-млын (ветрачок). Тут жыве Зайчык-Млынар. У зале, сярод гледачоў, сустракаюцца яго сябры — С а л а в е й к а і В е р а б е й к а.

**Найгрыш**




Выкарыстана мелодыя песні «А-а, люлі, паляцелі гулі»: Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 450—451. (Зап. Н. Мыслівец у 1988 г. у в. Цеਰакі Лагойскага раёна Мінскай вобласці ад Г. Ф. Акуліч 1919 г. н.)

В е р а б е й к а. Добры дзень, браток — звонкі галасок!

С а л а в е й к а. Добры! А чаго ты так запыхаўся, зноў недзе лётаў зранку.



В е р а б е й к а. Не, ведаеш, быў на фальварку Базыля, дык такога нагледзеўся!

С а л а в е й к а. Ой, ну і што ты там мог убачыць? Старога Базыля ды яго Казу-Ляноту?

В е р а б е й к а. Ой, што праўда, то праўда. Гэтая Каза-Лянота і муху з носа не згоне. Але сёння зусім замучыла дзядулю Базыля.

С а л а в е й к а. Дзеркачом яе трэба было!

В е р а б е й к а. Базыль з ёю і так, і сяк. А яна крычаць: «Галодная я! Кармі, бо пайду з твайго двара!»

С а л а в е й к а *(здзіўлена)*. Дзядуля такі ўважлівы, заўсёды пачастуе. Як у яго можна галодным быць?

В е р а б е й к а *(весела)*. Слухай, якая смешная, кажа *(перадражніваючы)*: «Я нікога не баюся! Рагамі ўсіх парастрасаю. Як дам рогам — будзеш, Базыль, пад парогам. А як дам каму капытом — будзе пад кустом!»

С а л а в е й к а. Відаць, гэтая Лянота шукае на галаву гуза?

В е р а б е й к а. Ой, здаецца мне, што яна языком меле, хвастом сцеле, недзе пацягнулася з фальварка. Але пойдзем хутчэй да нашага сябра.

Ідуць і пяюць.

С а л а в е й к а
*(пяе)*

Трах-бах-тарабах!
Едзе каза на валах,
А волікі тупу-тупу,
Каза з возу цупу-лупу!

В е р а б е й к а
*(працягвае)*

Чыры-чыры, скрыпачка,
Ляціць каза з прыпечка,
А дзядуля хвоць за рогі,
Галавою аб парогі.

*(Смяюцца.)*

Падыходзяць да хаткі Зайчыка-Млынара.

С а л а в е й к а
*(весела)*

Гэй, ладу-ладу, ладушкі,
Прыляцелі к Зайцу птушкі.
Насып нам гарошку,
Каб пад'елі трошкі.

В е р а б е й к а
*(працягвае)*

Гэй, ладу-ладу, ладушкі,
Прыляцелі к табе птушкі.
Прынясі хутчэй нам жыта,
Будзем, будзем сёння сыты.

Да іх выходзіць З а й ч ы к - М л ы н а р, жартуе.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Ай, мае маленькія, зноў прыляцелі. Але на стале маім засталіся крошкі, і тыя паелі кошкі. *(Смяецца.)* І яшчэ, шэранькія, ведайце: нікому з неба само не падае, таму што толькі праца і корміць нас, і поіць.

С а л а в е й к а *(да Верабейкі).* Так, без працы не есці нам сёння пірагоў.

В е р а б е й к а. Ведаю: хто стараецца, той і мае. І мы можам! Зайчык, чым табе дапамагчы? Гавары хутчэй.

З а й ч ы к - М л ы н а р *(сур'ёзна).* Ёсць вельмі адказная праца. Збярыце каласкі на нашым полі. Добра? Ведаеце дзе?

С а л а в е й к а. Так. Не вялік муравей, а горы варочае, а мы? Усё ведаем.

В е р а б е й к а. Ляцім хутчэй, вельмі пірагоў хочацца.

З а й ч ы к - М л ы н а р. А дапаможаце — пачастую вас лепей: дам вам сыраквашкі, дам вам мёду, кашкі, піражкоў з макам і розных прысмакаў.

В е р а б е й к а і С а л а в е й к а знікаюць са сцэны. З а й ч ы к - М л ы н а р ідзе ў хатку, спявае песеньку. Пасля гэтага на сцэну выходзіць К а з а - Л я н о т а.

К а з а - Л я н о т а *(бубніць сабе пад нос).* Хаджу па лясах, па кустах, па мхах, па балотах, па чарніцах, па малінах, куды ні хаджу — заўсёды не блуджу, сонца — па сонцу, луна — па луне, пры частых зорках, пры вячэрніх зорах. Хаджу не блуджу. *(Убачыла Зайчыка-Млынара, які выйшаў з вядром з хаткі і заплакала.)*



З а й ч ы к - М л ы н а р. Добры дзень, Каза — Лубяныя глаза! Як жывеш?

К а з а - Л я н о т а. Кепска. І сама дзіўлюся, як я яшчэ і жыву. Пасадзіла канапелькі, а там верабейкі, пасадзіла капусту — ні рэдка, ні густа. Пайшла рана — капуста парвана, пайшла позна — у капусце росна. Крошкі ў роце не мела, са-мле-ла. *(Сядае.)*

З а й ч ы к - М л ы н а р *(са здзіўленнем).* То што — не піла, не ела?

К а з а - Л я н о т а *(жаласна).* Ой, не. Толькі, як бегла цераз грэбельку, ухапіла вады капельку. А як бегла цераз масток, ухапіла кляновы лісток. Хіба ж гэта яда?

З а й ч ы к - М л ы н а р. Ай, бедная. Што ж праходзь, Козачка, у маю хатку, што маю, тым прымаю. Можа, хутка сябры мае вернуцца. Верабейка дроў насячэ, Салавейка блінцоў смачных напячэ. Праходзь, а я пакуль пайду па вадзіцу ў сцюдзёную крыніцу. Адпачні з дарогі.

К а з а - Л я н о т а *(ціха, убок).* Ідзі-ідзі. Глядзі, была я галодная. Хе-хе-хе!

К а з а - Л я н о т а заходзіць у хатку, зачыняе дзверы. З а й ч ы к - М л ы н а р ідзе і пяе песеньку. Праз некаторы час вяртаецца з вядром вады, хоча зайсці ў хатку, але яна зачыненая.

З а й ч ы к - М л ы н а р *(здзіўлена).* Ой, Козачка, адчыні, гэта я.

К а з а - Л я н о т а *(павучальна).* Адгадай спачатку загадкі, тады пушчу.

З а й ч ы к - М л ы н а р *(супакоіўся).* Ой, жартаўніца, давай загадвай.

К а з а - Л я н о т а. Так, без чаго хаткі не пабудуеш?

З а й ч ы к - М л ы н а р *(весела).* Ой, вядома ж — без стуку!

К а з а - Л я н о т а. А вось другая. Без чаго хлеб не спячэш?

З а й ч ы к - М л ы н а р. Без агню.

К а з а - Л я н о т а *(смеючыся).* Не! Ме-ме-ме! Без скарынкі. Не адгадаў — не пушчу, не пушчу.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Як гэта не пусціш? Гэта мая хатка!

К а з а - Л я н о т а. Была твая, стала мая! Ідзі-ідзі, мне і так тут месца мала, а яшчэ ты тут будзеш скакаць, мне перашкаджаць. Ідзі!

З а й ч ы к - М л ы н а р *(з крыўдаю).* Як скакаць? На млыне вельмі шмат работы. І мяшкі насіць, і жорны круціць, і муку малоць. *(Са злосцю.)* Хіба што ты прывыкла скакаць. Барада ў цябе вырасла, а ты, відаць, розуму не вынесла. Ану, вон з хаткі!

К а з а - Л я н о т а *(сярдуючы).* Млын твой і так меле — мука будзе, а вось язык твой меле — глядзіш, бяда будзе. Ідзі прэч! Адпачываць

буду. Як кажуць, прыйшла пара, ступай са двара! *(Далей пагражаючы.)* У мяне крутыя рогі, вогненныя вочы. Я цябе, Млынарочак, рагамі скалю! Я цябе, вушасценькі, вачамі спалю! У-у-у-у!

Зайчык ходзіць каля хаткі і плача. Ветрачок перастаў круціцца, згасла і святло ў хатцы. Грымнуў гром, пайшоў дождж. Недалёка ад хаткі «вырас» Баравічок-Лесавічок.

Зайчык-Млынар *(убачыўшы).* У лесе дубок, а пад дубком сядзіць прыгожы дзядок. Добры вечар, сусед.

Баравічок-Лесавічок. Ну што, пачаў плакаць, сталі слёзкі капаць?

Зайчык-Млынар. Баравічок-Лесавічок, так, відаць, на свеце вядзецца, што адзін плача, а другі смяецца. *(Далей азіраючыся.)* І сябры мае недзе ад дажджу схаваліся.

Баравічок-Лесавічок. Ведаю тваю бяду, чуў, як гэтая завала ў тваю хатку ўпёрлася. Але на такую хітрасць дасць Бог мудрасць. Пачакаць трэба. Хавайся да мяне ад дажджу.

Сцямнела. На небе з'явіліся зорачкі.

Баравічок-Лесавічок *(паказваючы на неба).* Глядзі, Зайчык, свечак многа гарыць, а ніводнай не патушыць, бо прыйшла чорная карова і ўсіх пабарола. А ты не перажывай: калі пераначуем, дык больш пачуем. *(Зайчык-Млынар пачынае засынаць, а Баравічок-Лесавічок гаворыць, толькі ціха.)* Дзякуй табе, пане Божа, што дзянёчак перажылі і святой ночачкі дачакаліся. *(Далей Зайчыку.)* Спі-спі, шэранькі, а я табе песеньку спяю. *(Баравічок пяе калыханку.)*

**Песня «Люлі, люлі, люлі, палез кот на дулі»**

♪ = 138

Лю-лі, лю-лі, лю - лі, па-лез кот на ду - лі,
Па-ма-ро-зіў лап - кі, уз-лез на па-лат - - кі.

Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 449. (Зап. Г. Кутырова ў 1984 г. у в. Лешніца Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці ад В. Я. Піскун 1925 г. н.)



Люлі, люлі, люлі, палез кот на дулі,
Памарозіў лапкі, улез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца, недзе катку дзецца.
Палез ба на вышкі, дык баюся мышкі,
А палез ба далоў, дык баюся кароў.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Ранак. На падворак вяртаюцца Верабейка і Салавейка. У руках трымаюць каласкі. Размаўляюць паміж сабой.

Салавейка. Ай, ты такі разумны, а згадай маю загадку: стара баба дзетак усю зіму грэе.

Верабейка. Гэта, гэта... хатка?

Салавейка. Так, можа быць і хатка, але Баравічок казаў мне, што гэта печка. А з печы скаціўся, на ручнічок упаў?

Верабейка. Пірог, пірог! Давай хутчэй. Хадзем да Зайчыка-Млынара, ён абяцаў пірагоў. Каб не дождж учора, то ўжо даўно б прысмакаў якіх пакаштавалі.

Яны падыходзяць да хаткі, стукаюць. У вокнах цёмна, вятрак не круціцца.

Верабейка. Гэй, адчыняй хатку, прыйшлі сябры-рабяткі. *(Да сябра.)* Слухай, нешта не гарыць святло. Можа, што здарылася?

У хатцы чуецца стук, грукат.

Каза-Лянота. Што? Акыш, Верабей! Зараз табе, Вераб'ю, кіем ножку пераб'ю! *(Сурова.)* У мяне крутыя рогі, вогненныя вочы! Усіх рагамі скалю, усіх вачамі спалю! Акыш!

Пачуўшы голас Казы, Верабейка і Салавейка вельмі здзівіліся.

Салавейка *(са злосцю).* Што? Гэты мамай Зайчыка выгнаў? Гаварыў я табе: давай раскажам Зайчыку пра Казу-Ляноту.

Верабейка. Прабач, я за пірагамі пра ўсё забыў. А дзе ж Зайчык-Млынар?

Яны ходзяць каля хаткі і, нарэшце, бачаць Зайчыка-Млынара, які спіць каля Баравічка-Лесавічка.

Салавейка. А, нарэшце мы вас знайшлі.

Верабейка. Прабач, прабач нас, Зайчык-Млынар.

С а л а в е й к а. А ты, Баравічок, выстаў лабок, я цябе пацалую. Добра, што ты Зайчыка ў бядзе не пакінуў.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Вядома ж: той не можа быць другам, хто ў бядзе абыдзе кругам. І не вялікая гэта бяда, калі нас такая грамада. Яшчэ пападзе гэтай Ляноце па хвасту, дык будзе аббягаць наш лес за вярсту.

З а й ч ы к - М л ы н а р *(са слязамі).* А мае ж вы птушачкі, а мае ж вы шчабятушачкі. Бяда! Ой, бяда! Каза мяне з хаткі хітрасцю выгнала.

В е р а б е й к а. Ведаем, прабач, мы цябе не папярэдзілі, што яна ў лес ідзе. Думалі, што яе дзе-небудзь ваўкі задзяруць.

С а л а в е й к а. Хай бы яе задралі! Мы хацелі яе выгнаць, а яна крычыць, хоць ты ёй кол на галаве чашы. Крычыць, трашчыць. Нават не ведаем, што тут рабіць.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Ведайце, дзеткі: у гурце нічога не страшна. Паслухайце, аднойчы адна вельмі важная ў нашым лесе жаба дзьмулася-дзьмулася, дзьмулася-дзьмулася — ды лопнула! *(Усе смяюцца.)* І тут так можа быць, так. Супакойцеся. Будзем думаць.

Сядзяць і думаюць.

В е р а б е й к а. Ой, яна ж хоча смачна есці, хораша хадзіць, валяч гэты.

Каза-Лянота высунула галаву ў акно, слухае.

К а з а - Л я н о т а *(задзірлівым тонам).* І нічога не рабіць. Хе-хе-хе! Бо тут у мяне і пірагоў, і хлябоў, і малака, і масла да барады! Я палец аб палец не ўдару. *(Далей сонна.)* Любата. Еш, спі, еш, спі.

В е р а б е й к а. Ой, кожны жук хоча паказаць рогі. Ну, пачакай, мамай.

К а з а - Л я н о т а *(жартуе).* Ой, якая птушка — такі і паганы галасок. Чык-чырык-чык!

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. От, Казішча, не заўсёды лісіцы петушаціна. Будзе і на цябе ўправа, убачыш.

К а з а - Л я н о т а. Эй ты, увесь свет абышоў, галавы не знайшоў, маўчы! Мухамор!

В е р а б е й к а. Эй, завала! Мухамор — таксама грыб!

С а л а в е й к а. Ты, валяч, ці ты не ведаеш: дзе мухаморы, там і баравікі?

К а з а - Л я н о т а *(смяецца, аж заходзіцца).* Му-ха-ха-ха-мор!

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Нічога, мае маленькія, на праўдзе свет стаіць. Памятайце: чыя праўда, таго і сіла будзе.

В е р а б е й к а. А давайце паклічам Ваўчка?



С а л а в е й к а. Кажуць, воўка ногі кормяць. Давайце! Можа, яго Каза накорміць?

К а з а - Л я н о т а *(злосна).* Каза ваўку не таварыш. *(Перадражнівае голас Салавейкі.)* У дурнога салаўя і песні дурныя. Ціў-ціў!

В е р а б е й к а. Не злуй, мамай, вельмі, бо вантробы папсуеш. Зараз ты пачуеш у нас дурныя песні, хадзем братцы.

З а й ч ы к - М л ы н а р, В е р а б е й к а і С а л а в е й к а сыходзяць са сцэны ў зал.

С а л а в е й к а *(Верабейку).* Учора з вячора сонейка іграла, добрую дарожку нам прадказала.

В е р а б е й к а. А сягоння зранку зара занялася і ў небе на парозе з сонцам спаткалася. Павінна нам пашчасціць.

Ім насустрач ідзе В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Добры дзень, Ваўчок — Шэры бачок.

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к. Добры, а куды вы такой кампаніяй ідзяце?

С а л а в е й к а. Цябе шукаем.

В е р а б е й к а. Каза-Лянота ў хатку Зайчыка ўпёрлася і нікога не пускае. *(Далей жартуючы.)* Воўча, схапі Казу моўча, просім.

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к *(сурова).* Хто? Што? Трэба гэту Казіцу забіць, шкурку аблупіць дай дуду пашыць. *(Далей ласкава.)* Няхай дуда іграе, а Зайчык-Млынар спявае. Ён жа мяне заўсёды пірагамі частаваў. Хадзем! Зараз я ёй прытру крывыя рогі!

Усе разам ідуць да хаткі.

С а л а в е й к а *(весела спявае)*

Каза, каза белая па гародзе бегала,
Аб'елася лебяды — скок-брык да вады!

В е р а б е й к а. Аб'елася цыбуліцы, бяжыць-крычыць па вуліцы.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Аб'елася часнаку, бяжыць-крычыць на таку!

Яны прытанцоўваюць вакол Ваўчка — Шэрага бачка.

**Найгрыш**





Выкарыстана мелодыя песні «Зыбаю, пазыбаю»: Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 451—452. (Зап. М. Рамашка ў 1987 г. у в. Морач Клецкага раёна Мінскай вобласці ад М. Ц. Палагавай 1925 г. н.)

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к *(энергічна)*. Як вазьму я Казу за хвосцік ды як удару аб драўляны мосцік! Ой, будзе ёй!

З а й ч ы к - М л ы н а р *(жартуе)*. Толькі пашкадуй мосцік, бо як да мяне госці будуць прыходзіць? *(Смяецца разам з сябрамі.)*

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к *(нецярплівa)*. Зараз убачыце: я ў хатку ўвайду, Казішчу злаўлю, хвост прэч адарву, а рогі аб зямлю зламлю. Во!

Яны падыходзяць да хаткі. Каза-Лянота ўбачыла «гасцей», схавалася і закрыла акно.

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к *(грозна)*. Ану, Каза-Лянота, забірай манаткі і прэч з Зайчыкавай хаткі! Каму кажу?

К а з а - Л я н о т а *(гучна)*. Ты, хвастаты, не суй носа ў чужое проса! Я — Каза-граза! Нікога не баюся — у мяне крутыя рогі, у мяне вогненныя вочы! *(Крычыць.)* Я цябе зараз, шэры, рагамі скалю, я цябе вачамі спалю! У-у!

Стукае рагамі ў сцяну і крычыць. Як пачуў гэта Ваўчок — Шэры бачок, кінуўся наўцёкі.

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к *(спалохана)*. А-ёй! Ратуйце!

С а л а в е й к а *(здзіўлена)*. Воўчанька, ты куды? Яна ж толькі языком меле ды хвастом сцеле. Стой! Пачакай!

К а з а - Л я н о т а *(сур'ёзна, як замову)*. Воўк, ваўчыца і ваўчаняты, вашы ногі паламаты, а зубы залатымі замкамі пазамыкаты. Чорнымі хмарамі накрывайцеся, медзянымі ключамі замыкайцеся. Я вас не баюся, рагамі адаб'юся, хвастом адмятуся!

Ваўчок — Шэры бачок, спалохаўшыся, хаваецца пад куст і адтуль назірае.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к *(да Ваўка)*. Як табе не сорамна? Гуртам і ў бядзе лягчэй. А ты? Быў такі смелы языком.

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к *(выглядвае з-за куста)*. Што ты, ціха! У Казы вочы, як ночы! Блішчаць, як свечы гараць! Рагамі заколе. *(Хаваецца за куст.)* Не баюся, але ўвесь трасуся. *(Куст дрыжыць.)*



К а з а - Л я н о т а
*(выглядвае ў акно і смяецца)*

Ой, пасылайце да аптэкі,
Ці не будзе яму лепей.
Ці ў бальніцу палажыце,
Ці ваўчыцу запрасіце. Ха-ха-ха!

В е р а б е й к а. Ну, пачакай бессаромнае вока, будзе і ў нас свята, убачыш.

К а з а - Л я н о т а *(пяе Верабейку ў адказ)*. І не сее і не жне, толькі зерняткі клюе-е-е-е!

С а л а в е й к а. Накрыешся ты капытамі, рагатая.

К а з а - Л я н о т а
*(жартуе, спявае)*

Як задумаў салавей з сарокаю жаніцца,
Смачных рэчаў скаштаваць і мёду напіцца.
Кыш-кыш! Птаства! Ату на вас! І на млынара! Цьфу!

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

З а й ч ы к - М л ы н а р плача, а с я б р ы і Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к суцяшаюць яго.

В е р а б е й к а. Не перажывай, браток, усё будзе добра.

С а л а в е й к а *(трошкі жартуе)*. Але ж Ваўчок і чудзіла: пайшоў быком, а ўцякаў цялём.

В е р а б е й к а. Не першы раз Ваўку ў лесе начаваць. А мог з сябрамі ды з пірагамі.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Схадзіце, мае маленькія, да Мядзведзя-Бацюхны. Можа, ён дужэйшы будзе.

Ідуць шукаць М я д з в е д з я.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а
*(сядзіць, пляце лапці і пяе)*

Сядзіць мядзведзь на калодзе, чапец вышывае,
А лісіца, стара псіца, з куста выглядае.

Раптам Мядзведзь заўважае Зайчыка-Млынара, Салавейку і Верабейку.

С а л а в е й к а. Добры дзень, Медзвядзішча!

В е р а б е й к а. Кучарава галавішча.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Нарэшце мы цябе знайшлі.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. Добры! А, Зайчык-Млынар! Чаго ты плачаш? Можа, піцечкі хочаш, можа, естачкі? *(Суцяшае.)* А хочаш, і табе лапці спляту?

З а й ч ы к - М л ы н а р *(плачучы)*. Прыйшла бяда — не трэба і яда. Я па сваёй нядольцы плачу.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. Якая ў млынара нядоля? Толькі ў дудачку іграць, пірагамі частаваць і суседзяў забаўляць.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Няма ў мяне ні маёй дудкі-самаграйкі, ані млына, нічога няма.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. Ну і дзе ўсё гэта падзелася? Яшчэ зранку бачыў твой млын здалёк.

С а л а в е й к а. Прыйшла Каза-Лянота і хітрасцю ўпёрлася ў хатку.

В е р а б е й к а. Не выгнаць!

З а й ч ы к - М л ы н а р. Я з сябрамі яе хацеў выгнаць — аніяк! І Ваўчка запрашаў дапамагчы.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. І што, шэры дапамог?

З а й ч ы к - М л ы н а р. Дзіўна: спалохаўся і ўцёк.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. А, гэта яшчэ той шэры баяка. *(Далей важна.)* Слухай, Млынар, нездарма ж кажуць: лепш упасці брухам, чым духам. Хадзем, я пагляджу, што гэта за бяда ўпёрлася да цябе. *(Весела.)* Лапці на нагах, брыль на галавах, я гатоў! Вядзі!

З а й ч ы к - М л ы н а р. Пойдзем, але не кажы «гоп», не перайшоўшы цэлы брод. І Ваўчок — Шэры бачок хваліўся, а потым са страху пад куст закаціўся.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а *(працягвае хваліцца)*. Ой, слухай, як вазьму я гэту Казу за спіну, як кіну ў даліну. *(Кідае адзін лапаць у зал.)* А як вазьму за доўгі нос, як кіну за авёс! *(Кідае другі лапаць.)* А як вазьму я гэту недарэку за рэдкую бараду, ды як бразну аб ваду. *(Далей спявае, а Салавейка і Верабейка падпяваюць: Ціў-ціў!)*

Ішоў мядзведзь дарогаю,
Знайшоў казу бязрогую. Ціў-ціў!
Ішоў мядзведзь вады напіцца,
А каза пайшла тапіцца. Ціў-ціў!
Ды як прыгне цераз мосцік,
Адарваўся яе хвосцік. Ціў-ціў!

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а *(да Зайчыка-Млынара, аблізваючы вусны)*. Слухай, а мёду дасі?

З а й ч ы к - М л ы н а р. Будзе час — будзе, Мішка, і мёд, і квас, але не ўсё за раз. Здаецца, першае — Каза?

Мядзведзь ківае галавою. Усе разам падыходзяць да хаткі. Верабейка і Салавейка ідуць праведаць Баравічка-Лесавічка, потым сядаюць недалёка ля хаткі.



М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а *(важна, падышоўшы да дзвярэй)*. Прэч, Каза, а то з'ем! *(Далей Зайчыку-Млынару.)* Трэба яе з хаткі выцягнуць, злавіць і ў клетку пасадзіць.

К а з а - Л я н о т а *(пачуўшы голас Мядзведзя, крычыць)*. Што? Не хачу! Лепш на волі паскачу. *(Стукае капытамі аб падлогу.)*

С а л а в е й к а *(падыходзіць бліжэй)*. Хопіць навучаць яе, братцы, слаўцамі, трэба ўжо па плячах дубцамі.

В е р а б е й к а *(павярнуўшыся да Салавейкі)*. Ой, хопіць навучаць мамая гаворкамі, трэба ўжо малаціць па ёй вяроўкамі.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Ой, і надакучыла ж гэтая Лянота. І ветрачок не варухнецца, і хлеб не пячэцца. Бяда ды і толькі.

К а з а - Л я н о т а *(іранічна)*. А што мне вятрак, хай не скрыпіць, я тут жыву і хлеб жую, хоць і не пячэцца. А-ха-ха!

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а *(ужо не так смела)*. Ану, валяч, табе абы есці і тры дні з печы не злезці. Зараз жа вымятайся, рагатая!

К а з а - Л я н о т а *(як закрычыць, як затупаціць)*. А ты, махнаты, у мёд улюбёны, яшчэ тут? Ты што, не ведаеш, што я нікога не баюся? У мяне крутыя рогі, у мяне вогненныя вочы! Ды я цябе зараз рагамі скалю, ды я цябе вачамі спалю. У-у-у! *(Стукае ў сцяну.)*

Як пачуў М я д з в е д з ь такія крыкі, кінуўся ўцякаць, а Зайчык-Млынар зноў заплакаў. Мядзведзь у куст схаваўся, а там сядзіць Ваўчок — Шэры бачок.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а *(са здзіўленнем)*. Ой, хто тут?

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к. Ціха, гэта я.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. Ты дзе?

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к. Я тут, пад кустом, накрыўся хамутом.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. Слухай, Ваўчок, ціха. Яна з'есць і чорта ў лапцях. Вой, вой, вой!

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к *(смяецца)*. Ну, ты нырнуў глыбока, толькі лапці тырчаць.

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. Вой! *(Хавае лапці пад куст.)*

Зноў цямнее. Вакол Баравічка-Лесавічка ўсаджваюцца Зайчык-Млынар, Верабейка, Салавейка. У хатцы гасне святло. Баравічок-Лесавічок зноў усіх суцяшае, а потым пяе калыханку.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к *(калі ўсе паснулі)*. Што ж, паспрабуем хітрасцю, як сілаю не можна. І пакуль яны будуць спаць, пайду я да Лісічкі-Сястрычкі. Можа, гэтая хітруля дапаможа.

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Ранак. Усе спяць. Каза-Лянота адчыняе акно.

К а з а - Л я н о т а *(панура).* Ой, як мне надакучылі пірагі: і зранку, і ўдзень, і ўвечары. *(Чухае галаву.)* Травіцы хочацца.

Чуецца песенька, і на падворак прыходзіць Лісічка-Сястрычка, якая ў руках трымае качан капусты. Не звяртаючы ўвагі на Казу-Ляноту, яна ідзе да Зайчыка-Млынара і яго сяброў.

**Найгрыш**



Выкарыстана мелодыя песні «На дварэ цямным-цямно»: Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 450. (Зап. Г. Р. Кутырова ў 1990 г. у в. Новыя Крупкі Крупскага раёна Мінскай вобласці ад Т. П. Мельнікавай 1917 г. н.)

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а *(весела, быццам бы нічога і не ведае).* Добрай усім раніцы! Ну, і чаго засумавалі? Давайце гуляць! *(Усе прачынаюцца.)*

З а й ч ы к - М л ы н а р *(сумна).* Гуляць...

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к *(весела падміргваючы).* У качана пагуляйце!

Усе, зразумеўшы, навошта патрэбна такая гульня, становяцца ў кола і пачынаюць кідаць качан адзін аднаму. За гульнёю з акна назірае Каза-Лянота і аж памірае, бо ёй вельмі хочацца капусты. Але ўсе нібы і не заўважаюць яе зусім. Нагуляўшыся, яны пакідаюць качан каля хаткі. А Лісічка-Сястрычка тым часам прывязвае да качана вяровачку. Пасля гэтага ўсе садзяцца вакол цішком Баравічка-Лесавічка.

К а з а - Л я н о т а. Ой, хіба не вытрываю, пайду хоць разок угрызу качана. Ой, вочкі-страхунцы, а ручкі-грабунцы. Так хачу капусты, аж ногі дрыжаць.

Асцярожна яна выходзіць з хаткі і крадзецца да качана. Лісічка-Сястрычка паціхеньку цягне вяровачку. Каза-Лянота бачыць, што качан адкочваецца ад яе ўсё далей і далей, таму злуе, цягнецца да яго і просіць.



К а з а - Л я н о т а. Хадзі, хадзі, мой качанчык, у маю хатку, хадзі. Ідзе, як па маслу, ой, ой!

Лісічка-Сястрычка адцягвае качан усё далей ад хаткі. Зайчык-Млынар і яго сябры хочуць накінуцца на Казу, але тая, убачыўшы іх, махае рукою на качан, хаваецца ў хатцы і зачыняе дзверы.

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а *(Казе).* Ну што, рагатая, паела капусты, а?

К а з а - Л я н о т а *(крычыць).* А, рыжая, каўнер шырокі, а пяты голыя! Кажух з нагамі! Мудрэйшыя за цябе ёсць!

В е р а б е й к а. Чаго кішкі рвеш? Крыксы бяруць? Выходзь!

С а л а в е й к а. Выходзь з хаткі! Усё роўна дастанем цябе!

К а з а - Л я н о т а. Ты ўжо два дні дастаеш і пірагоў не бачыш.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Каза, скажы, капусты хочацца? Відаць, мёд салодкі, ды пчолы кусачыя. Праўда, сябры?

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. О, добра, што ты пра пчол узгадаў. Малайчына!

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а. Так, здагадваюся. *(Далей Зайчыку-Млынару.)* Зайчык-Млынар, хутка твая бяда скончыцца.

С а л а в е й к а. Што мёд? Не разумею.

В е р а б е й к а *(здзіўлена).* А што пчолы?

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Забыліся? Стаіць у нашым лесе дуб, у тым дубе — дупло, і жыве ў ім пчаліная матка — Пчала — Балючае джала.

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а. Мудрая яна, вельмі мудрая пчала. Пакліч яе, Баравічок-Лесавічок. Але загавары, каб нас не пакусала.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к *(чытае замову, але не ўсе словы чуваць).* За сінімі марамі, за крутымі гарамі стаіць дуб-какацішча... кітдрэва на ста каранях, на ста вярхах... Ляці да нас, Пчала — Балючае джала! Ты нас не жаль, у цела не ўпівайся, кроў руду на зямлю сыру не пускай, нас не пужай. Ляці да нас, Пчала — Балючае джала! Просім цябе. Чакаем цябе. Мае словы крэпкія, магучыя. Ва векі вякоў.

Чуецца шум, на сцэну прылятае Пчала — Балючае джала.

П ч а л а — Б а л ю ч а е д ж а л а. Добры дзень, жыхары лясныя! Што ў вас здарылася?

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Жылі мы ціха, спакойна, працавалі, хлеб елі.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Ды ўбілася хітрасцю Каза-Лянота ў маю хатку.

В е р а б е й к а. Ветрачок не працуе.

С а л а в е й к а. А гэтая, ачмурэлая, сядзіць-жыруе.

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а. Ты, мудрая пчаліная маці, просім цябе, дапамажы.

П ч а л а — Б а л ю ч а е д ж а л а. Добра, ведаю гэту Казішчу. Яна за два грошы на рынку куплена, на два бокі Базылём луплена. Лянота, больш нічога не скажаш. Добра, хадзіце сюды.

Усе становяцца вакол пчалы, шэпчуцца. Каза-Лянота прыадчыняе акно, каб падслухаць. У гэты час усе ціхенька падкрадаюцца да яе, а Пчала — Балючае джала залятае ў хатку. Адтуль чуюцца крыкі Казы-Ляноты.

К а з а - Л я н о т а *(трывожна)*. Ой, укусіла мяне муха за правае вуха!

С а л а в е й к а. Так табе, так! Накруціць яна табе бараду на кулак!

К а з а - Л я н о т а *(спалохаўшыся)*. Ой-ой, я ўжо чаравічкі абуваю, ой-ой, шубачку шукаю!

В е р а б е й к а. Чужое не чапай ніколі.

К а з а - Л я н о т а *(выходзіць з хаткі)*. Уцяку не ўцяку, а пабегчы трэба.

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а *(убачыўшы Казу)*. Будуць табе ад грушы дулькі, ад сасонкі шышкі. *(Далей усім.)* Хапайце яе!

Усе спрабуюць злавіць Казу.

З а й ч ы к - М л ы н а р *(смяецца)*. Ой, гляньце, арлом паляцела!

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а. Во, і адкуль у Ляноты ногі ўзяліся!

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Ляціць, як шалёная вавёрка па соснах. У-у-у!

С а л а в е й к а *(весела)*. Глядзіце, пчаліная маці торкнула яе ў вока, во — пад хвост! Дае жару рыжай! Так ёй, так!

В е р а б е й к а *(штурхнуўшы Салавейку)*. Глядзі, нібы чорт панёс, во ляціць! Зямлі не кранаецца!

Каза-Лянота нарэшце вырываецца, але з-за куста нечакана выбягаюць В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к і М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. Яны ловяць яе і вядуць на падворак.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Не хадзі, Казіца, па нашаму масту — будзем біці па хвасту!

К а з а - Л я н о т а. Ой!

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а. Не хадзі ля ветрачку — будзем біць па капытку.

К а з а - Л я н о т а. Ух!

С а л а в е й к а. Не хадзі ля печы — будзем біць у плечы.

К а з а - Л я н о т а. Ой!



В е р а б е й к а. Не лазь на паліцы, бо дамо па патыліцы.

К а з а - Л я н о т а. Ай!

З а й ч ы к - М л ы н а р. А за тое, што памяла мае падушкі, будзем драць за вушкі.

К а з а - Л я н о т а *(лямантуе)*. Ай-я-яй! Пашкадуйце!

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. На жаль, Казіца, шкадлівага ката заўсёды б'юць.

Атрымаўшы дубца, К а з а - Л я н о т а вырываецца і ўцякае.

П ч а л а — Б а л ю ч а е д ж а л а *(убачыўшы Мядзведзя і Ваўка)*. А гэта што за «смельчакі»?

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к *(засаромеўшыся)*. У страха вочы вялікія.

П ч а л а — Б а л ю ч а е д ж а л а. Ага, пужаная варона хваста свайго баіцца. Так і вы?

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а *(тузаючы Ваўчка — Шэрага бачка)*. Страшна было — вось і схаваліся. Прабачце нам.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Во, гаршчок з гаршка смяяўся — абодва вы падобныя. «Ваякі» — нічога не скажаш. Добра, заставайцеся з намі.

Зайчык-Млынар заходзіць у хатку, вокны ўпрыгожваюцца святлом, ветрачок пачынае круціцца. Салавейка і Верабейка выносяць стол, Лісічка-Сястрычка засцілае яго абрусам, Зайчык-Млынар выносіць пірагі. Усе, радасныя, сядаюць за стол. Мядзведзь і Воўк, прысаромленыя, стаяць збоку.

З а й ч ы к - М л ы н а р
*(бярэ дудку, пачынае іграць і спяваць)*

Эх ты, дудка мая, весялушка мая!
Як павешу я дуду на зялёным дубу.
Няхай вецер павівае,
Няхай дудка сама йграе!
Дзякуй, сябры мае, частуйцеся.

Каза-Лянота ў гэты час сядзіць і выглядвае з-за куста. Аблізваецца на качан.

З а й ч ы к - М л ы н а р. І вы сядайце да нас. *(Мядзведзь і Воўк падыходзяць да стала, апусціўшы вочы.)*

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к *(суцяшае іх)*. Можа, іншым разам будзеце смялейшыя.

В а ў ч о к — Ш э р ы б а ч о к. Ой, будзем!

М я д з в е д з ю х н а - Б а ц ю х н а. Паспрабуем, Воўча, не кажы загадзя.

Яны сядаюць за стол і спяваюць песню (або танцуюць пад дудку).

П ч а л а — Б а л ю ч а е  д ж а л а. А ведаеце, шкада мне і Казу.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Не, не шкада, яна столькі нашкодзіла.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Лёгка пасварыцца, а цяжэй памірыцца.

К а з а, пачуўшы, што гавораць пра яе, падыходзіць бліжэй.

В е р а б е й к а. Ужо тут? Гатова цяпер перад намі на дыбачках хадзіць.

С а л а в е й к а. Ой, гляньце, у яе ўжо і пяткі пачырванелі. Сорамна?

З а й ч ы к - М л ы н а р *(падумаўшы)*. А і праўда, шкада яе. Зразумейце, бяда — не мецъ свайго вугла.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. А калі ёсць хатка, а ў ёй парадак і лад — гэта найлепшы клад. А калі яшчэ такія сябры, як вы!

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а *(Казе)*. Бяздзельна жыць — толькі неба капціць.

К а з а - Л я н о т а *(ціха)*. Ой, найдабрэйшыя. Прабачайце мне ўсё.

Усе трохі задумаліся, маўчаць.

П ч а л а — Б а л ю ч а е  д ж а л а. Што ж, трэба ўмець дараваць. У гэтым жыццёвая мудрасць.

З а й ч ы к - М л ы н а р. Добра, але ёй трэба нейкую работу знайсці.

К а з а - Л я н о т а *(павесялеўшы)*. Я ўсё, усё буду рабіць.

П ч а л а — Б а л ю ч а е  д ж а л а. А ведаеце, хутка Каляды, давайце з Казой калядаваць будзем!

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Ага, кажуць, дзе каза ходзіць — там жыта родзіць.

Л і с і ч к а - С я с т р ы ч к а. А дзе каза рогам — там жыта стогам.

К а з а - Л я н о т а *(хітравата)*. Дзе каза бывае — там шчасце вітае. *(Праз паўзу.)* Але прашу больш не называць мяне «лянота».

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Добра, будзеш... *(думае)* Казіца — Залатое сітца! Згодна?

К а з а - Л я н о т а *(весела скача)*. Згодна! Згодна!

З а й ч ы к - М л ы н а р. І памятай: перш папрацуй, а тады скачы і танцуй.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Так, без добрай працы не есці табе з намі пірагоў. Памятай.

Зайчык-Млынар дае Казе качан капусты.



К а з а - Л я н о т а *(весела)*. Мая любімая капуста на падходзе, думаю, нам усім і самавар не зашкодзя?

З а й ч ы к - М л ы н а р. Так, я яшчэ аднаму «смельчаку» мёд абяцаў. *(Усе смяюцца.)*

С а л а в е й к а *(усім)*. Добра тое, што мінулася.

В е р а б е й к а. Не было б тое, было б што другое.

Б а р а в і ч о к - Л е с а в і ч о к. Дзень наш — век наш.

П ч а л а — Б а л ю ч а е  д ж а л а. Усё, як у людзей.

Зайчык-Млынар іграе на дудачцы, астатнія скачуць вакол Баравічка-Лесавічка і прыпяваюць.

**Песня «Ду-ду-ду, ду-ду-ду!»**




Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 441. (Зап. Г. Кутырова ў 1987 г. у в. Мал. Гарадзяцічы Любанскага раёна Мінскай вобласці ад В. К. Цішкі 1913 г. н.)

Ду-ду-ду, ду-ду-ду!
Добра будзе на лугу
Мне з сябрамі пагуляць,
Добра польку паскакаць.

Як павесіў я дуду
На зялёным дубу,
Дуда з дуба звалілася
На трэсачкі пабілася.

Ох і дудка была,
Весялушка была,
Весяліла, гула!

З а с л о н а

**Літаратура**


1. Беларускі дзіцячы фальклор / склад. А. М. Аляхновіч. — Мінск: Беларусь, 1994.

2. Беларускі народны соннік / скл. У. Васілевіч. — Мінск: Выд. цэнтр «Бацькаўшчына», 1995.

3. Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995.

4. Беларускі фальклор: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / склад. К. П. Кабашнікаў і інш. — Мінск: Выш. шк., 1996.

5. Казкі ў сучасных запісах / К. П. Кабашнікаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1989.

6. Тэатралізаваныя школьныя святы / А. Ю. Лозка, І. І. Кірчук. — Мінск: БелЭн, 2004.






# СЦЭНАРЫІ ТЭАТРАЛІЗАВАНЫХ СВЯТ І АБРАДАЎ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ СЯРЭДНЯГА ШКОЛЬНАГА ЎЗРОСТУ



## МАСЛЕНІЦА

### Дзеючыя асобы

Мірон, гаспадар.
Наста, гаспадыня.
Юнона, дачка.
Стах, сын.
Таццяна, Параска — сяброўкі Юноны.
Радзівон, Тарас — сябры.
Амяліна, суседка.
Яўсей, сусед.
Галя.
Фёдар.
Халімон, дзед.
Зося, баба (павітуха-пупарэзніца).
Парамон, дзед.
Фрося, баба.
Музыкі.
Пераапранутыя.
Карчмар.

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Дзея адбываецца ў драўлянай карчме. Пасярод памяшкання стаіць доўгі стол, вакол яго — лавы і ўслоны, каля ўваходу — паліца ці шафка з посудам. Збоку стаіць кафляная грубка або камін для абагрэву памяшкання, мураваная печ для гатавання ежы. Карчмар нешта робіць. З шумам адчыняюцца дзверы, заходзяць дзед Парамон і яго сябар дзед Халімон.

Х а л і м о н *(весела).* Добры дзень, Парамоша!

П а р а м о н *(усміхаючыся).* Добры дзень, Халімоша! Даўно я цябе не бачыў. Можа, хварэў?

Х а л і м о н. Плюнь-дунь! Папраўіўся ўжо.

П а р а м о н *(здзіўлена).* Няўжо?

Х а л і м о н. Пляваў, як кажуць, на грудзі, цяпер — на бараду.

П а р а м о н. А каб цябе качкі стапталі, як ты на розныя хітрыкі здатны.

Х а л і м о н. Што ты, давай лепш па кубачку збітню, пакуль нашы каханыя не наляцелі на нас, як крумкачы на гарбузянку. *(Смяюцца.)*

Дзяды сядаюць на лаву. Карчмар прыносіць ім па кубку квасу. Яны, задаволеныя, працягваюць гаворку.

П а р а м о н. Ну што, Халімончык, дачакаліся Масленкі-палізухі?

Х а л і м о н. Так. Наша Масленка гадавая, яна ж госцейка дарагая. Яна пяшком к нам не ходзіць, усё на коніках раз'язджаіць.

П а р а м о н. Так, о то ж! Улас — конскае свята якраз. Я ж, глядзі, сёння і не працую.

Х а л і м о н *(мякка).* Відаць, ты і ў будні не вельмі да работы. Хітрэц.

П а р а м о н *(ганарыста).* Я сёння лепшы корм сваім конікам даў. А ўвечары маладых коней буду аб'язджаць. Кругом вёскі паганяю «нячысцікаў», каб іх. Развялося, як дзед казаў!

Х а л і м о н. І я буду. Ужо прыгатаваў дугу, кветкі, званы. Як лялечкі, коні будуць.

П а р а м о н. Сёння мая старая зранку занесла цяляткам аладкі — каб былі здаровыя, тлустыя. Але глянуў, нешта кабыла такая панурая была. *(Чухае галаву.)*

Х а л і м о н *(трывожна).* Дрэнна, можа, і не пражыве года. Ведаеш, чаму?

П а р а м о н. Як гэта не пражыве? *(Насмешліва.)* Вядун.

Х а л і м о н *(трывожна).* Ці акалее, ці воўк з'есць. А можа, у цябе, браток, завёўся Хлеўнік?

П а р а м о н. Можа. Кабыла слабая, худзее на вачах.

Х а л і м о н. Відаць, Хлеўнік ездзіць па начах. Ці чуў што?

П а р а м о н *(трывожна).* Ну, хтосьці б'ецца па начах, кідаецца. А зранку стаіць кабыла мая змыленая. *(Далей, жартуючы.)* Як ты пасля карчомкі.

Х а л і м о н *(не слухае жарт, задумваецца).* Відаць, хоча скінуць Хлеўніка. А ведаеш, кажуць, ён баіцца сарокі.

П а р а м о н. То трэба будзе павесіць над дзвярыма канюшні. От убіўся. *(Злосна.)* Пайшла немач, погань на ўзвей вецер! Цьфу! *(Плюе.)*



Х а л і м о н. Але, як каму. Аднаму Хлеўнік і песціць коней, і заплятае грывы, і падкладае больш корму. А другому і шэрсць выдзірае, і грывы і хвасты ў каўтуны скручвае. Як каму. Ліха яго ведае, чаму.

П а р а м о н. Але цікава, Халімоша, Хлеўнік толькі коням шкодзіць, а ніколі козам і свінням.

Х а л і м о н *(усміхаючыся).* Рагатых я і сам баюся. *(Паўза.)* Ну, яшчэ па кубачку, пакуль ціха? *(Азіраецца па баках.)*

П а р а м о н. Давай. Гэй, карчмар! Прыснуў ты там, ці што?

Х а л і м о н *(нецярпліва).* Нясі, пакуль мы тут не разышліся, як парубкі на вячорках.

Карчмар зноў спакойна прыносіць сваім старым знаёмым дзядам квас.

П а р а м о н *(глытнуўшы, задаволена).* Ай, прыгожая зіма! І горкі ледзяныя, нібы цяжарная маці, што вось-вось разродзіцца. Я больш зіму люблю.

Х а л і м о н. Вядома ж, менш работы. *(Смяецца.)* От і Уласій прыгожы так нам дапамагае, ахоўнічак жывёлы, багацця на падворку. Не нацешуся, далібог.

П а р а м о н. Праўда! *(Пяе няскладна.)* А ў нас сягоння Улас, радзі, Божа, лён у нас, залатое насеннейка, срэбранае карэннейка.

Х а л і м о н. Памятаю, у гэты дзень дзед наймаў пастуха і рабіў новыя сані. Запрагаў трохгадовага каня, аб'язджаў і прыглядаўся: калі той ледзьве паўзе, то далей ён такога каня не гадаваў. Разумныя былі дзяды нашы, толькі паспявай вучыцца.

П а р а м о н. А мой раіў не рабіць вазы з дрэва яблыні ці грушы. Неяк не паслухаў раз, то такі воз быў цяжкі. Ледзь збыў на рынку цыганам. Тыя яшчэ і з грашыма ледзь не зманілі.

Х а л і м о н. Цыганам? А ім усё роўна, што цягаць... *(паўза)* і з якога падворка. І я раз бацьку не паслухаў — узяў з сабою кошку на кірмаш. Хоць той мяне папярэдзіў.

П а р а м о н. І што? *(Смеючыся.)* Ледзь воз коні цягнулі? Такая ж цяжкая.

Х а л і м о н *(сур'ёзна).* Як і казаў бацька, замучыла коней. *(Паўза.)* Яно, гэтых прыкметаў, забабонаў да чорта. Ведаеш, от праўда: у каго чорныя валасы, таму не можна трымаць кароў, коней, авечак белай масці.

П а р а м о н. Чаму? Не вядуцца?

Х а л і м о н. Бо злыя людзі і звяры будуць зводзіць скаціну.

П а р а м о н. А як гаспадар лысы? *(Рагоча.)*

Х а л і м о н. Няхай на свінні гарцуе, шальмец! *(Смяюцца абодва.)* Ведаю толькі, у каго не растуць ні вусы, ні барада, той ні баба, ні чалавек. *(Прыглядаюцца адзін да аднаго.)* Во! Здаецца, у нас усё па-Божаму.

П а р а м о н. Я яшчэ памятаю, як мой бацька хадзіў у гэты дзень «галаву масліць».

Х а л і м о н *(штурхнуўшы)*. Маслам? Ці чым іншым, Парамон?

П а р а м о н. Не, як зяць да цешчы на бліны. *(Задумваецца.)* А ўжо што ў тыя часы на санках выраблялі! І старыя і малыя. Сёння не тое, не той спрыт. Няма чым дзівіцца.

Х а л і м о н. Яно і моладзь не тая, і мы трошкі пастарэлі, каб ім паказаць, як Масленку сустракаць трэба. *(Успамінаючы.)* А мы на маразянках, вырубленых з ракі кавалкаў лёду — ух! Як мага далей імкнуліся заехаць, каб лён-даўгунец так рос. То ўжо старыя казалі. А цяпер? Абы з гары!

П а р а м о н. А, браточку! То хто на чым: на ледзяшах, на дошках, на скамейках, а бабы некаторыя — то на прасніцах! А то яшчэ перакуляцца нагамі дагары — смех! Ляцяць з гары, як козы рагатыя. *(Смяецца.)* Спадніцамі снег заграбаюць, як лапатаю.

Х а л і м о н *(ківае галавою)*. Дзед калі абнаўляў сані, то садзілася 20—25 чалавек!

П а р а м о н *(здзіўлена)*. Што ты кажаш? Хіба адзін на аднаго?

Х а л і м о н. Ну! Смеху было: ляцяць з гары стрымгалоў, пазабівацца маглі.

П а р а м о н. Кажуць, толькі такія сані і будуць потым лёгкія на хаду. А арэлі, памятаеш?

Х а л і м о н *(у захапленні)*. Памятаю, Парамончык, памятаю... *(азіраецца па баках)* што і да сваёй Зосі трэба ляцець, бо як яна тут нас угледзіць, то памяць можам страціць і без саней.

П а р а м о н *(душыцца са смеху)*. Ледзяшамі зробіць. *(Праз паўзу.)* Добра, і я падыбаю, але ж сустрэнемся на тыдні: тут ёсць каму пару калодак зачапіць. Гэтым перастаркам.

Х а л і м о н. Ну, і Масленку-палізуху трэба праваджаць. Бывай, жаваранaчак ты наш.

П а р а м о н. О, ён якраз сёння павінен першы раз заспяваць. І ты бывай, каб цябе рак убрыкнуў. Так, толькі нешта ў вуху звініць.

Х а л і м о н *(сумна)*. То Анёл з Д'яблам за душу спрачаюцца.

П а р а м о н *(азіраючыся)*. Цьфу ты!

Х а л і м о н. Нельга пляваць, братка, на зямлю, бо на тым свеце будзеш гарачую патэльню лізаць.

П а р а м о н *(разгублена)*. Ой, але ўжо не падымеш, хай цябе. Бывай.

Д з я д ы сыходзяць з карчомкі. Халімон напявае песню.



Х а л і м о н
*(імправізавана)*

А мы Масленіцу дажыдалі, усё на горушку выбягалі.
Гору масліцам палівалі і сырніцай пасыпалі.
А ты, гара, будзь катліва, а бабулькі вуркатлівы.

*(Далей гаворыць убок.)* Зараз мая вуркатлівая Зосечка ўбрыкне, толькі трымайся. *(Сыходзіць са сцэны.)*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Вуліца. Драўляная зрубная студня з дубовых плах з калаўротам. Ідзе снег. Ля студні сустракаюцца з вёдрамі Ф р о с я (жонка Парамона) і З о с я (жонка Халімона).

Ф р о с я. Добры дзень, Зосечка! Зноў ляціш, як пчолачка. Заўсёды вясёлая.

З о с я. І не кажы, усё спяшаюся. *(Ставіць вядро.)*

Ф р о с я. А ці не бачыла майго старога?

З о с я. Я і свайго не бачыла. Недзе падхапіўся зранку, можа, дзе з тваім?

Ф р о с я. Столькі работы — Масленка ж, а мужыка ў хаце няма. Як жывеш, суседачка?

З о с я. Не кажы, мы з Халімонам так кахаліся, так кахаліся, а як у адну хату прыйшлі, дык за чубы ўзяліся. *(Смяецца.)*

Ф р о с я. Ой, а ў мяне ёсць што есці, піць, ды няма з кім жыць. Мой Парамон часам дурны, як варона, а часам хітры, як чорт. Дзень спіць, а як працуе, то з рук усё валіцца. *(Ставіць вядро, цяжка ўздыхае.)*

З о с я. Ой, відаць, ужо нагатавала на Масленку?

Ф р о с я. Што, я? Гэта ж ты ў нас вядомая «павітуха». Наляцяць дзеці.

З о с я. Дзеці — добра, няхай растуць і здаровыя гадуюцца. Але што работы многа перад святам, то так.

Ф р о с я. На Запускі нашы гаспадыні то ўсе мардуюць сябе гатаваннем.

З о с я. Так, то пячы, то вары, нават поту ўцерці некалі.

Ф р о с я. Здаецца, ежа звычайная, але толькі багата засквaрана салам, свежанінаю.

З о с я. Я таксама вару квас, капусту, але вару так, як мама мая варыла, каб заслалася ўсё тлушчам. А ты?

Ф р о с я. Ой, у мяне верашчака аж перапаўняецца скваркамі. То ж Парамон аж млее, есць і пацее. Крупнік яшчэ, гарохавы суп. Майму толькі паспявай падносіць.

З о с я (*ганарыста*). А мой то яшчэ кладзе 2—3 каўбасы. А што яшчэ згатавала?

Ф р о с я (*хваліцца*). Як заўсёды — студзень.

З о с я. З ног?

Ф р о с я. Не, з галавы, вушэй.

З о с я (*таксама хваліцца*). Я ж яшчэ кашу, крупнік зрабіла, бо, сама ведаеш, унукі наляцяць: «Давай, баба, не скупіся».

Ф р о с я. А, што нада, то трэба. Хай іх Бог беражэ, малых гэтых. Радасць ім вялікая — горкі, снег. Тут і сама б з гары з'ехала. Але сані трэба паглядзець.

З о с я (*мякка*). Як снег — то гэта Бог сцеле пярыну, каб жыта не замерзла, сцеле дарожкі, каб было добра вазіць сена з балота. (*Смеючыся.*) Нашым дзядам-гультаям.

Ф р о с я. Ага, гэта, як мяцеліца, то людзі кажуць: нячыстая сіла гуляе з радасці, што ў пекла ідуць грэшныя душы. Але трэба і дахаты. З табою станеш — не нагаворышся.

З о с я. Паспееш. (*Цягне за руку Фросю.*) Дзе мы яшчэ пагаворым? Нашы дзяды то хоць у карчомку залятуць.

Ф р о с я. Думаю, яны там, здагадваюся.

З о с я. А што старым зімою, няхай пасядзяць, ведаюць, што будзем шукаць хутка.

Ф р о с я. Слухай, забыла зусім, сон бачыла. Ты ж мудрая, разгадай.

З о с я. І сама можаш, усё ведаеш, усё.

Ф р о с я. Паслухай, прашу. Сніўся мне сон: еду я вярхом, але вымазана ў сажу, і барада ў мяне доўгая-доўгая!

З о с я. Няўжо?

Ф р о с я. Еду на кірмаш, гусей белых над галавой шмат. Людзі, цыганы, жыды, вакол мяне. Потым ем бліны, п'ю піва, якога́ цярпець не магу! Потым, здаецца, мядзведзь гнаўся, але не дагнаў. Іду, плачу, а тут сабакі наляцелі, пачалі кусаць. Прачнулася, не магла дзень адысці. То што?

З о с я (*развважаючы*). Сажа — добра, грошы. Гусі — на снег.

Ф р о с я. Барада?

З о с я. Бараду мець ува сне — багацце.

Ф р о с я (*весела*). Ой! А цыганы?

З о с я. Цыганы — то чыясьці хітрасць, тут сцеражыся.

Ф р о с я. Слухай, але каб я вярхом калі? Баюся глядзець нават.

З о с я. Вярхом ехаць — гонар і слава, бліны есці — пісьмо атрымаеш. Ад свайго дзеда, відаць.

Ф р о с я. А кірмаш?

З о с я. То быць у кампаніі. От на Масленку і будзеш. То я пайду, Фросечка.



Ф р о с я. Пачакай! А сабакі — то што?

З о с я (*трывожна*). Яшчэ цётка з-пад Вільні вучыла: калі кусаюць сабакі, трэба тройчы «Багародзіцу» згаварыць, каб Бог перамяніў, бо, напэўна, нехта будзе біць, мо Парамон?

Ф р о с я. Я яго сама, як што. Але дзякуй за сон.

З о с я. Але вось я на Купалле, маладзіцаю, сасніла ваўкоў — і ў гэты ж год замуж выйшла. Хочаш вер, хочаш не вер. Усё, рыбачка, няма часу — работы яшчэ шмат.

Ф р о с я. Дзякуй, я таксама дахаты. (*Усміхаючыся.*) Мо каханы ўжо на лаве пад кажушком дрэмле, то я знайду яму работу каланіцаю. Бывай.

З о с я і Ф р о с я, нагаварыўшыся, так і ідуць з пустымі вёдрамі дахаты.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Чыста прыбраная хата бабы Зосі. Да яе ў госці прыходзяць М і р о н, яго жонка Н а с т а, унукі Ю н о н а і С т а х.

Ю н о н а і С т а х (*заходзячы*). Добры дзень, бабулечка!

З о с я (*радасна*). Добры, праходзьце, зачакалася. Няма ды няма. Думала, што і не прыйдзеце ўжо. Але Халімона да вечара не будзе — у суседа ён. Распранайцеся.

М і р о н (*дапамагае дзецям, жонцы*). От, мама, скажаце, хоць раз мінулі мы вас на Масленку?

З о с я. Ага, каб ты адмовіўся ад маіх бліноў!

М і р о н (*усміхаецца*). Мы і самі вам пірог прынеслі. Нясі, Стах.

З о с я. І я рыхтавалася: унучкаў пачаставаць блінцамі, абаранкамі, наліснікамі.

Н а с т а. Ой, толькі гэтак? То мой Мірон зараз і ўцячэ ў шынок.

З о с я. Маю, маю і яму «кропельку», пакінула. Памагай, Настачка, стол рыхтаваць.

Пакуль рыхтуецца стол, унукі сядзяць з бабуляй.

З о с я. Ну, унучачкі, пост з грыбамі, а Масленка з блінамі. Задаволеныя, відаць?

С т а х. Бабуля, ты ведаеш, мы ўсё ў цябе любім пакаштаваць.

З о с я (*узгадваючы*). Гэта ў пост мы заўсёды галодныя хадзілі.

Ю н о н а. То ж усе так.

З о с я. Звараная бульба з саладухай ці хлеб з саладухай. Уся яда.

С т а х. Саладухі я не еў. Бульбу люблю.

М і р о н. Адной картопляю толькі жывіліся некалі.

З о с я. Мілту рабілі з авёсу.

Ю н о н а. Я не ела такое. Бабуля, смачна?

З о с я *(быццам не чуе Юноны, разважае)*. Не, пост даўней захоўвалі з усёй строгасцю.

М і р о н. То і я памятаю, што жанчыны з груднымі дзецьмі таксама пасціліся.

З о с я. Так, сядайце за стол, частуйцеся. А я зараз зяцьку «пачастунак» прынясу, бо ведаю — і не сядзе без яго за стол. *(Выходзіць з пакоя.)*

С т а х *(да Насты)*. Мама, а чаму бабулю клічуць «павітухай»?

Н а с т а. А ты сам спытай.

З о с я вяртаецца, ставіць на стол яшчэ розныя прысмакі. Гаворка працягваецца.

С т а х. Бабуля, можна я ў цябе нешта спытаю?

З о с я. Спытай, унучачак мой.

Ю н о н а. А ці ты нам раскажаш?

З о с я. А чаму не? Можа, пра дзеда? То ён сёння з Халімонам рыхтуе сані на Масленку.

С т а х. Казалі сябры мне, што не раскажаш.

З о с я. Ну, хіба скуль дзеці бяруцца? *(Смяецца.)*

С т а х. Не, чаму цябе клічуць «пупарэзніцай»?

З о с я. Дапамагала некалі людзям.

М і р о н. І яшчэ як. Павітуха!

Ю н о н а. Раскажы, бабуля, раскажы.

З о с я. Добра, а вы пакуль частуйцеся. І ты, зяцёк, не сядзі, як на споведзі, смялей. *(Да ўнукаў.)* На Масленку заўсёды адведвалі павітух-пупарэзніц. То даўней так было.

С т а х *(здзіўлена)*. Пуп рэзала?

Н а с т а. Паслухай, сынок, не перабівай.

З о с я. Даўней было не так многа лекараў, то прыходзілася шмат чаго людзям самім рабіць. Вось як, унучкі мае.

Ю н о н а. Што рабіць?

З о с я. Прымала я ні адно дзіця на свет божы.

С т а х *(здзіўлена)*. Ой!

З о с я. І не голымі рукамі, а агарнуўшы іх новым палатном. Потым рукі мыю, а мне бацькі кідаюць у карыта грошы.

Н а с т а. Ты ім пра пуп раскажы.

З о с я *(смяецца)*. Пра твой? *(Далей спакойна.)* Даўней хлопцам пупавіну перабівалі каменем.

С т а х. Ой, каменем!

З о с я. Каб быў сільны. Дзяўчыне пераразалі пупавіну на грабяні, верацяне.



Н а с т а. Каб швачкай была.

З о с я. А каму і на кнізе.

М і р о н. Каб пісьменнае дзіця было. Або на дубовай дошцы — каб было моцнае, як дуб.

С т а х. Перабівалі, адразалі — відаць, балюча?

М і р о н. А ты не помніш, як табе было?

С т а х. Не.

З о с я. Значыць, і не балела, унучачак. І даўно тое было.

Ю н о н а. Даўно, а нам цікава, раскажы.

З о с я. Ну вось, калі першы раз малое купала, то кідала ў ваду сярэбраную манету, каб дзіця вырасла чыстае, як срэбра.

М і р о н. Багатае.

С т а х. Нашто дзіцяці багацце, калі ёсць мама і тата?

Н а с т а. Так, але калі падрасцеш, яшчэ спатрэбіцца табе і срэбраная манета, і шмат чаго іншага. Гэта ж жыццё.

З о с я *(працягвае)*. Яшчэ кідала соль, розныя зёлкі, ліла асвячоную на Іярдані ваду.

Ю н о н а. Соль?

Н а с т а. Так, засцерагалі ад злых вачэй, шкоднага ветру.

З о с я. А яшчэ даўней, чула, дзяўчынак купалі ў малаку.

С т а х *(смяецца)*. З цукрам!

З о с я. Каб была белая. А хлопчыкаў у піве, каб былі моцныя і прыгожыя.

Ю н о н а. Во, і мне б у малако.

С т а х. Дзе яго столькі ўзяць?

Н а с т а. Гэта ж маленькіх толькі купалі.

З о с я. Памыю, пакладу ля печы на кажух: «Каб вялікае расло, каб добра спала. А як шуба касмата, будзь так багата». *(Ласкава.)* Але ж вы ешце, а то зараз... *(праз паўзу)* за вашы пупы вазьмуся, унучкі мае ўлюбёныя.

С т а х. А я ўцяку!

З о с я. От, неслух. Цябе Хапун тады схопіць.

Ю н о н а. А хто такі Хапун?

З о с я. То страшны дзед з вялікай торбаю.

С т а х. З торбаю? Не страшна.

З о с я. Так, ён лётае па паветры і хапае дзяцей, якія не слухаюць старэйшых.

С т а х *(павярнуўшыся да бабы)*. Я цяжкі — не схопіць.

М і р о н. Яшчэ і не аднаго зара́з. Схопіць — і ў торбу!

З о с я. А потым крычы не крычы — ніхто не пачуе.

С т а х. Усё роўна ўцяку!

М і р о н. Жыве ён пасярод балота пад карчом.

З о с я. Непаслухмяных дзяцей ён яшчэ б'е крапівою.

Ю н о н а. І што, бабуля, ніводнае дзіця не ўцячэ?

З о с я *(сур'ёзна).* Кажуць, не. Вырастаюць яны там і самі робяцца хапунамі, нават барада вырастае.

С т а х. О, бараду я хачу. *(Смяецца.)*

Ю н о н а. Фу, барада! *(Далей брату.)* Стах, лепш слухацца. *(Потым бацькам.)* А можна нам схадзіць на вуліцу?

М і р о н. Хай ідуць, бо зусім баба запалохала дзяцей.

З о с я. То ж самі пыталіся, самі прасіліся.

Н а с т а *(дзецям).* Ідзіце, але недалёка ад хаты, бо і мы тут не заседзімся доўга. Трэба ж яшчэ да родных зайсці.

Д з е ц і ідуць на вуліцу, за акном чуецца масленічная песня.

**Песня «А казалі, Маслінкі сем нядзель»**

♩ = 144

А ка - за - лі, Мас - лін - кі сем ня - дзель,
Сем ня - дзель, сем ня - дзель.

Мажэйка З. Я., Варфаламеева Т. Б. Песні Беларускага Падняпроўя / Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. — Мінск: Беларуская навука, 1999. — С. 38. (Зап. З. Мажэйка ў 1988 г. в. Башкіраўка Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці ад Г. Н. Зобікавай 1920 г. н. у АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 88.)

А казалі, Маслінкі сем нядзель,
Сем нядзель, сем нядзель.

Ажно Маслінкі адзін дзень.
Адзін дзень, адзін дзень.

Адна нядзелька, тая караценька,
Масліная, масліная.

З о с я. Але ж хутка бяжыць час, то былі, былі маленькія, а тут ужо ім пра пуп раскажы.

Н а с т а. Так, але добра, няхай ведаюць даўніну. *(У захапленні.)* Як святкавалі!



М і р о н. То я і сам памятаю, як прыходзілі на Масленку пераапранутыя.

Н а с т а. Жанчыны, апранутыя ў касцюмы «мужчын», «старцаў», «цыганоў».

З о с я. Так урачыста было. Выведуць, пасадзяць мяне ў сані. Упрагаюцца і з крыкамі цягаюць па вёсцы.

М і р о н. То гонар.

Н а с т а. Павага бабе.

З о с я. А потым у карчомцы частаванне, жадаюць здароўя. Але дзед мой заўсёды лаяўся на маладых.

М і р о н. Чаго?

З о с я. Казаў, што маляваць сабе на твары румянец ці вусы — грэх.

Н а с т а. А сам і бараду насіў, і вусы.

З о с я. Калі намалюеш, тады злы дух атрымае над табой уладу.

М і р о н. От, грэх. Гэта ж кожнае свята людзі прыдурваюцца.

Н а с т а. То ж весела, мама.

З о с я. Хіба ж я супраць? Сама веру, не веру, а раблю, як бацькі і дзяды рабілі.

М і р о н. А я? *(Дастае з кішэні арэх.)* Бацька некалі пажартаваў, здаецца, сказаў: калі хочаш, каб ніколі не выводзіліся грошы, то насі ў кішэні арэх-спарыш.

З о с я. А стос бліноў продкам на Масленку?

Н а с т а. Так, лічыцца ж, што душы прылятаюць падсілкавацца парай бліноў.

З о с я. Ну, і хто парушыць радавую завядзёнку? Ці пост.

М і р о н. Не вельмі то я пост люблю.

З о с я. Ой, ведаю. Так, зяцёк, за п'янства, за аб'яданне ў пост пакарае Бог.

М і р о н. Ну, і ці хто расказваў як?

З о с я. Расказвалі, што на тым свеце Бог паставіць грэшнага сярод усялякай яды і пітва.

М і р о н. Асабліва, мама, піва ці медавухі?

З о с я. Убачыш, будзе бясконца хацецца есці-піць, але не можна будзе дастаць нічога.

Н а с т а. Мой — моцны, дужы, відаць, не спалохаецца. Яшчэ ж і працуе як вол.

З о с я. Вядома ж, трэба і ўкусіць, разумею. Я так заўсёды жартую з ім, а ты верыш, што лаемся. Я ж яго таксама не менш за ўнукаў люблю. У царкву заходзіць.

М і р о н. Я з павагай да веры. Малым памятаю, у першыя дні посту да споведзі ўсе малыя ішлі.

Н а с т а. Першыя — малодшыя. То і ў нас так.

М і р о н. Яшчэ маці давала наказ: «Глядзі ж, сынок, скажаш бацюшку, што маткі і бацькі не слухаў, малітвы не гаварыў, у гарод лазіў...». Памятаю, потым цалаваў усім руку, каб злосці не мелі і не гневаліся.

З о с я. Споведзь, па-першае, для сябе, я так думаю. Потым для Бога, ён і так усё ведае пра нас.

Н а с т а. Так. Шчырасць і чыстасардэчнасць. З сабою бывае цяжка «размаўляць» аб грахах сваіх. Дзе грэх? Які?

З о с я. А ўтойванне грахоў — смяротны грэх. *(Узгадваючы.)* Бацькі мае хадзілі да споведзі ці ў суботу, ці ў нядзелю. Гэта ж каб не прапаў рабочы дзень. Так працавалі. Не сварыліся, не гневаліся нават. Гаварылі, што гнеў павінен быць да парога. Так што, дзеткі, жывіце дружна.

Н а с т а. У нас, мама, заўсёды ціха ў хаце, хіба што дзеці сваволяць.

М і р о н. Ну і Наста калі буркне на мяне.

З о с я *(ласкава)*. І дзетак так вучыце, хто ж іх навучыць, калі не вы.

М і р о н *(устае з-за стала)*. То, пойдзем. *(Усміхаецца.)* Якраз і пачнём вучыць.

Н а с т а *(Мірону)*. Глядзі, яны ў нас і так паслухмяныя. *(Далей Зосі.)* Мама, убачымся ж яшчэ на провадах Масленкі?

З о с я. Можа, і пайду. Бач, пайшоў дзед сані рыхтаваць, то, відаць, з сябрам добра «наслізгаюцца».

Н а с т а. І да цябе паспее, сама ведаеш: без саней — не Масленка. Хадзем цяпер з намі пагуляем трохі, пяюць як прыгожа.

З о с я. Ідзіце дзеткі, мне яшчэ работы шмат ёсць. Ды пірагоў вазьміце, нам з дзедам па аднаму пакіньце, хопіць нам старым.

За акном хаты чуецца песня. М і р о н і Н а с т а выходзяць з хаты. Зося застаецца, выглядае ў акно.

**Песня «Масленіца-ласуха»**

♩ = 68

Ма- сле - ні - ца - ла - су - ха, Ла - су - ха, ла - су - ха,

Каб ця-гну - ла - ся да Ду - ха, Да Ду-ха, да Ду - ха.



Мажэйка З. Я., Варфаламеева Т. Б. Песні Беларускага Падняпроўя / Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. — Мінск: Беларуская навука, 1999. — С. 39. (Зап. З. Я. Мажэйка ў 1998 г. у в. Башкіраўка Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці ад Г. Н. Зобікавай 1920 г. н., М. М. Зязюлі 1919 г. н. АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 98.)

Масленіца-ласуха,
Ласуха, ласуха,
Каб цягнулася да Духа,
Да Духа, да Духа.

З о с я *(мармыча пад нос)*. Наша Масленка катліва, а мы Масленку пракацілі. На гары бабы сядзелі, кулаком зямлю білі. Масленка... Масленка... *(Пасля песні.)* Трэба стол на ноч засцяліць, падлогу замесці, каб анёлу-ахоўніку было чыста хадзіць. *(Засцілае стол.)* Глядзіш, хутка і дзед прысунецца.

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

На сярэдзіне вуліцы збіраюцца д з я ў ч а т ы. Справа і злева стаяць хаты. Праз нейкі час да дзяўчат падыходзяць х л о п ц ы.

Т а ц ц я н а *(хлопцам)*. Ну, нарэшце выйшлі!

Р а д з і в о н. Хто? Мы ўжо даўно тут. Хадзілі «калодку» шукаць.

Т а ц ц я н а. Мы ўжо думалі, без вас будзем Масленку праважаць.

П а р а с к а. А што, колькі можна ўжо блінамі аб'ядацца?

Р а д з і в о н. Пачакалі і, глянь, нічога з вамі не сталася. Вечна да нас чапляецеся, яшчэ не жонкі.

Т а р а с *(Радзівону)*. Ціха ты! Трэба ж ушанаваць жанатую моладзь. То ж дзень такі.

Ю н о н а. Дык да каго пойдзем? Тут жанатых не так і многа.

С т а х *(убачыўшы Галю з Фёдарам)*. Гляньце, самі ідуць.

А м я л і н а *(прыглядаецца)*. Хто?

Я ў с е й *(пазнаўшы)*. Галя, далібог, Галя. І з вусатым Фёдарам.

Т а ц ц я н а. Ой, і не пазнаць. А Фёдар ужо стаў такі прыбраны, нібы дзеўка.

Т а р а с. То і Галя. *(Усміхаючыся.)* Так, тады баба пышна, як замуж выйшла.

А м я л і н а *(здзіўлена)*. Калі ж гэта яна паспела?

П а р а с к а. Як ты гэта магла прапусціць? Яна на мясаед замуж вышла!

Т а ц ц я н а *(да публікі)*. Разнем ёй песню! А-ей, ды няхай частуе!

Дзяўчаты і хлопцы пяюць песню, падыходзяць і акружаюць Галю. Фёдар стаіць збоку, пазірае і трымае кашэль з «дарамі», гасцінцамі.

Ю н о н а *(пасля песні працягвае прыпяваць).* Ах ты, Галя, Галя, выйдзі да нас!

П а р а с к а *(басам).* Вазьмі сыра — родзіш сына.

Ю н о н а *(тоненькім галаскам).* Вазьмі мачку — родзіш дачку. *(Прытанцоўвае вакол яе.)*

Да Галі падыходзяць і хлопцы. Мірон і Наста назіраюць усё збоку.

Р а д з і в о н *(звяртаецца да хлопцаў і дзяўчат).* Ну што, пачнём «разуванне» маладой?

Т а р а с. Так, няхай плоціць. Можа, сама, а можа, і той вясёлы пан *(паказвае на Фёдара),* што з кошыкам. Здаецца, жывуць не бедна.

Ф ё д а р. Не, дзякуй Богу. Няма чаго скардзіцца.

Т а р а с *(паглядаючы на Фёдара).* Ты не злуйся, мне твая Галя не патрэбна, а вось кошык — можа быць.

Г а л я. Дзякуй, дзякуй вам усім! Нясі давай, Фёдарчыку, гасцінцы. То ж мае сябровачкі, я з імі столькі песень праспявала, як дзеўкаю была. Хадзіце бліжэй.

Галя з Фёдарам частуюць усіх.

Ф ё д а р. Ой, дзякуй вам, суседачкі і суседзі, што не забыліся. *(Раздае пірагі з сырам, абаранкі, цукеркі.)*

Я ў с е й *(кусаючы пірог).* Якраз усіх успомнілі сёння. *(Хлопцам.)* Галодныя не будзем. Ха-ха!

М і р о н *(падыходзіць да Фёдара, які частуе хлопцаў пернікамі).* То ж Масленка сёння.

Н а с т а *(таксама частуецца пірагамі, сырам).* Сёння старыя бабы аб нявестках судзілі.

М і р о н. І я чуў *(усміхаючыся),* што адна нявестка шэльма была.

Н а с т а. У клець зайшла, сыр-масла панясла. *(Паглядаюць з Міронам на Галю, смяюцца.)*

М і р о н *(сур'ёзна).* Кажуць дзяды, дзяўчына, што замуж не пайшла — нядобрая дачка.

Н а с т а *(ласкава).* Што замуж пайшла — бацькава дачка.

Р а д з і в о н. Хто жаніўся — матчын сын! Во!

М і р о н. То што, «калодку»? Шукайце, хлопцы, каму!

С т а х *(паглядаючы весела).* А каму? Тут усе ведаюць, каму на гэтую Масленку «воз дроў» на падворак.

Р а д з і в о н. Ой, ёсць каму! *(Ходзіць вакол хлопцаў.)* Ёсць! *(Хапае за руку Яўсея.)*

Сябры акружаюць Яўсея і прывязваюць яму да нагі «калодку». Хлопцы і дзяўчаты жартуюць.



Р а д з і в о н. Чаму, хлапец, не жэнішся?

Т а р а с. Чаму, пераростак, па начах валэндаешся?

С т а х. Чаму род свой не працягваеш? Як бацька твой.

Я ў с е й *(пачынае апраўдвацца).* Яшчэ не знайшоў. *(Стараецца адвязаць «калодку».)*

Р а д з і в о н *(моцна прывязвае «калодку»).* Вось табе, перастарак, «калодка».

Т а р а с. Каб не бегаў.

С т а х. А хутчэй жаніўся.

Я ў с е й *(перастае адбівацца ад хлопцаў).* Як я з «калодкай» жонку знайду?

Р а д з і в о н. Як нацягаешся «калодкі», то потым хутка знойдзеш.

Т а р а с. А не жэнішся на другі год, то цэлую калоду на ланцугу зачэпім.

Я ў с е й. Што вы? Калоду?! А браточкі, а ці можна адкупіцца?

Т а р а с. Што? Зноў адкупіцца, як і ў той год некалькі манет?

Я ў с е й. Дык вы ж мне пад акном такія дражнілкі спявалі. Сораму!

Р а д з і в о н. Бач, за год дзяўчыны не знайшоў, а дражнілкі-жанілкі памятае.

С т а х *(імправізавана).* І цяпер паспяваем: «Калодка красіва?»

Р а д з і в о н і Т а р а с *(падпяваюць няскладна).* Красіва, красіва!

С т а х *(імправізавана).* Цябе, маладога, украсіла?

Р а д з і в о н і Т а р а с *(падпяваюць няскладна).* Украсіла, украсіла.

С т а х *(далей проста гаворыць).* Ты ж, маладзенькі, не трусіся.

Р а д з і в о н і Т а р а с *(здзекліва).* Не трусіся, не трусіся.

С т а х *(спакойна).* За калодку расплаціся.

Р а д з і в о н і Т а р а с. Давай, расплаціся, расплаціся.

Яўсей дае грошы, «калодку» здымаюць з нагі.

Р а д з і в о н *(хаваючы грошы).* Давай яшчэ якога нежанатага знойдзем.

Т а р а с. Давай! *(Яны збіраюцца сыходзіць са сцэны.)*

Я ў с е й. Пачакайце мяне, басурмане. Грошы ўзялі і на мяне забыліся?

С т а х *(азіраючыся).* То і я з вамі.

Хлопцы гуртом цягнуць «калодку» ад хаты да хаты, прывязаўшы да яе дзве вяроўкі. У гэты час дзяўчаты падыходзяць да Амяліны. Мірон і Наста паглядаюць збоку.

Т а ц ц я н а. Ну што, табе таксама «калодку»? Колькі будзем чакаць вяселля?

А м я л і н а. А сястрыцы мае, пашкадуйце. Хутка. Што я? Гэта ж ад хлопца больш залежыць. Я гатова.

Т а ц ц я н а. Зноў маніш?

П а р а с к а (*сяброўкам*). Яшчэ нечага чакае? Ведаеш, бяры сабе Яўсея! І будзеце разам жыць, а?

Ю н о н а (*нясе «калодку»*). Во! Ужо і дровы будуць у маладую сямейку.

Н а с т а (*жартуе*). Будзеш, Амялiначка, печ паліць. І хутка.

М і р о н (*смяецца*). Будзеш свайго перастарку карміць. Яўсей, відаць, здольны паесці.

А м я л і н а. Ой, дзевачкі, пачакайце, лепш я вас у карчомку запрашу.

Т а ц ц я н а. Гэта і так будзе. Але завядзёнка ў нас. Дзяржы яе!

П а р а с к а. Пашкадуем, але трошкі. Чапляй ёй «трэску». (*Амяліна хоча выкруціцца.*) Не адкруціцца.

Ю н о н а. Так, няхай не перабірае!

М і р о н. Яўсея хай «пасе», бо з другой вёсачкі і гэтага пацягнуць.

Сяброўкі сілай чапляюць Амяліне «трэску» або бант. Чуецца музыка, спевы. На сцэну выходзяць «п е р а а п р а н у т ы я», у руках трымаюць скавароды, чарпакі. Яны нясуць чучала Масленіцы. Разам з імі П а р а м о н, Ф р о с я, З о с я і Х а л і м о н. Яны нагадваюць «цыганскі табар», бо ўсе ў рознакаляровых хустках, высокіх шапках з саломы. Вяртаюцца і хлопцы, але без «калодкі».

**Песня «А ўжо, дзевачкі, Масленка, Масленка»**




Мажэйка З. Я., Варфаламеева Т. Б. Песні Беларускага Падняпроўя / Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. — Мінск: Беларуская навука, 1999. — С. 40. (Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1994 г. у в. Мокравічы Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці ад В. М. Штыхавай 1927 г. н., П. С. Шліманковай 1923 г. н., А. Ф. Барашкавай 1923 г. н. і групы спявачак. АБелІПК, ф. 1, воп. 13, спр. 94.)

А ўжо, дзевачкі, Масленка, Масленка,
Прыляцела к нам ластаўка, ластаўка,
Як села йана на калу, на калу,
Кідала масла па каму, па каму,
А хто зловя, то й таму, то й таму.
Маладая Таня злавіла, злавіла,
А масла бочку тапіла, тапіла,
Свайго Іваньку карміла, карміла.



Т а ц ц я н а (*пазнаўшы бабу*). Ой, дзеванькі! Фрося! Глянь, вусы сажай намалявала.

П а р а с к а. Ага, думала не пазнаем. Мудрэц.

Ю н о н а (*рагоча, убачыўшы дзеда*). А Парамон бураком шчокі нацёр. От хітрэц!

С т а х. А Божа! Халімона ледзь пазнаў. Страшны які! Хіба цыган ці чорт?

Уся працэсія «пераапранутых» выходзіць на сярэдзіну сцэны.

З о с я. Так, грамада! Што прыціхлі? Ці сёння не свята? Масленіца!

У с е (*крычаць*). Масленіца! Масленіца!

З о с я. Ну што, чучала паліць будзем?

У с е (*крычаць*). Будзем! Будзем!

Х а л і м о н. Будзем, але спачатку давайце яе з гары пракоцім. На маіх санях.

П а р а м о н. Каб толькі вытрымалі. Давай, а потым усё роўна спалім!

Ф р о с я. Добра, але ўсё будзе на гары за вёскай. Не тут, на вуліцы ля хат. А то Масленка і хаты зліжа, і падворкі. На гару яе!

М і р о н. Згодны, на гару! І попел рассыпем, каб духу яе не было!

Н а с т а. Нагамі затопчам, каб нічога ад яе не засталося!

З о с я. У снег, у снег яе! Ух!

Х а л і м о н. Так, каб быў ураджай. (*Бярэ ў рукі ад хлопцаў чучала Масленіцы.*)

Ф р о с я (*прыпявае і ходзіць вакол чучала*). А мы Масленіцу пракацілі.

П а р а м о н (*падпявае і паглядае на чучала*). У сняжок яе закапалі.

Н а с т а (*пачынае прытанцоўваць разам з Фросяй вакол чучала*). Масленіца-пакатуха, працягніся ты да Духа!

Х а л і м о н (*да хлопцаў*). Дзеткі, а ці падрыхтаваліся вы да вогнішча? Паненка мая змерзла. (*Падымае чучала ўгару.*)

Р а д з і в о н (*выходзіць наперад*). Не, будзем вас, дзядоў, чакаць.

Т а р а с (*цягне Радзівона за руку*). Не бядуйце, не хвалюйцеся, бабы, дзяды, ён жартуе.

Я ў с е й (*весела*). Усё падрыхтавалі, як вы нам казалі.

Х а л і м о н (*павучальна*). Але старызну на вогнішча трэба ўкрасці. (*Далей сурова.*) Прасіць нельга ні ў кога. Барані божа!

Р а д з і в о н. А мы і не прасілі. Разумеем, тайна! Ужо ўсё сабралі і твайго, дзядуля, двара не мінулі.

Х а л і м о н. Што? От я вас! Можа, дзе вазок дзеда зачапілі?

Т а р а с. Ужо ўсё на гары. Запалім, то ўбачыш, ці ёсць твой вазок, ці не.

Х а л і м о н. Ай-я-яй! Глядзіце ў мяне. Шкоднікі. *(Весела ўсміхаецца.)*

П а р а м о н *(да Халімона)*. А і ты не перажывай, будзем ехаць на маіх санях з гары, калі паламаем, то і іх спалім. Няхай згарыць у агні ўсё старое, абы мы засталіся.

Ф р о с я. Ну, і чаго мы стаім? *(Паказвае на дзядоў.)* Заслухаліся гэтых казачнікаў?

З о с я *(паказвае на чучала)*. Вось і прыйшоў час на провады. Бывай, Масленіца.

Х а л і м о н *(прыкідваецца, што плача)*. Ой, і шкада.

П а р а м о н. І трэба. Трэба, браток. Прыйшоў яе час. Некалі прыйдзе і наш.

Х а л і м о н. Плюнь.

З о с я *(выходзіць наперад і становіцца пасярод дзядоў)*. Пара, людцы мае. Пара.

Х а л і м о н. Бяжыце, хлопцы, на гару, паліце агонь. *(Хлопцы ідуць на сярэдзіну сцэны.)*

П а р а м о н. Хай агонь неба нагрэе.

З о с я. Няхай лёд растае.

Ф р о с я. Няхай зямля Масленіцу прымае.

П а р а м о н *(бярэ ў рукі чучала ад Халімона)*. Вон ад нас, страхоццe! Пайшла!

Х а л і м о н. Убірайся вон! *(Дапамагае несці чучала Парамону.)*

Р а д з і в о н. Масленіца-палізуха, вон! *(Пачынае бегаць вакол чучала, якое нясуць дзяды.)*

Т а ц ц я н а. Ты ўсё масла палізала. *(Таксама бегае разам з Радзівонам.)*

С т а х. Вон, Масленіца! *(Далучаецца да сяброў.)*

Ю н о н а. Ты ўвесь сыр пажавала. *(Таксама становіцца ў круг.)*

Т а р а с. Ідзі прэч! *(Прытанцоўвае збоку.)*

П а р а с к а *(крычыць)*. Ідзі да Кіева, бо ты нам усё выела.

А м я л і н а *(крычыць)*. Ідзі да Кракава, бо ты нам накаркала.

Я ў с е й *(крычыць)*. Ідзі да Бучына, бо ты нам надакучыла.

Т а р а с *(крычыць)*. Ідзі да Пятра, бо ты нам ужо дапякла.

З крыкамі, свістам і музыкай усе нясуць чучала на сярэдзіну сцэны, дзе падрыхтаваны «агонь». Чучала ставяць на ўзвышша, абкладаюць яго старызнай. Пакуль усё «гарыць», удзельнікі свята спяваюць і скачуць ля «агню». Калі чучала «згарае», музыка перастае гучаць.



**Песня «Чаму, чаму цябе, Маслініца, ня сем нядзель?»**

♩ = 78




Мажэйка З. Я., Варфаламеева Т. Б. Песні Беларускага Падняпроўя / Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. — Мінск: Беларуская навука, 1999. — С. 41. (Зап. З. Я. Мажэйка ў 1978 г. у в. Заазер'е Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці ад М. С. Аўсеевіч 1914 г. н. АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 78.)

Чаму, чаму, цябе, Маслініца, ня сем нядзель? Маслініца!
Адна, адна нядзелька, тая караценька, Маслініца!
Сядзела, сядзела сарока на калу, на калу,
Кідала, кідала масла па каму, па каму,
А хто, а хто й ўхопя, дак таму, дак таму.
Красна, красна Хрысцінка ўхапіла, ўхапіла,
У чара... ў чарапочку стапіла, стапіла,
Свайго, свайго Іваньку карміла, карміла.

П а р а м о н. Добра, усё добра, мае дзеткі, а ці не забыліся вы сёння пра дараванне?

Я ў с е й. Што? Памятаем. А што?

Х а л і м о н *(павучальна)*. Пра ўсеагульнае прашчэнне.

П а р а м о н. Відаць, за гулямі, горкамі і блінцамі галоўнае запамятавалі.

Х а л і м о н. Навучым, дзеткі. Спакойна. Ёсць каму.

Н а с т а *(першая падыходзіць да Мірона)*. Прабач мне, мой каханы. *(Кланяецца.)* Прабач мне ўсенько.

Ю н о н а *(таксама падыходзіць да Мірона)*. Прабач мне, татка родны, можа, чым калі саграшыла перад табой. Прабач.

С т а х *(таксама ідзе да Мірона)*. І мне прабач, татачка, можа, я калі справай ці языком саграшыў. Прабач.

М і р о н *(нізка кланяецца жонцы і дзецям і таксама просіць прабачэння)*. Даруй і ты мне, мая жоначка, даруйце мне, дзетачкі мае. Можа, і я вас чым кольвек пакрыўдзіў. *(Абдымае дзяцей і жонку.)*

Таццяна і Параска таксама абдымаюцца з левага боку сцэны. Нешта ціха гавораць адна адной. Радзівон і Тарас абдымаюцца з правага боку сцэны. Амяліна і Яўсей стаяць разам, хлопец трымае дзяўчыну за руку, яны ўзіраюцца адзін у аднаго. Абое маўчаць. На сцэну выходзяць Парамон з Фросяй і Зося з Халімонам. Дзяды здымаюць хусткі.

Парамон *(кланяецца)*. А кветачка, мая Фросечка, прабач мне за мае памылкі, што быў да цябе такі пылкі. За карчомачку. Прабач усё.

Фрося. І ты мне — за словы мае крэпкія. *(Абдымаюцца.)* Дзядок, ты мой галубок. *(Цалуюцца.)*

Зося *(да Халімона)*. І ты, Халімончык, прабач мне за мае нядобрыя словы, не трымай злосці... *(праз хвіліну)* бо папсуеш косці. Прабач і ўсё.

Халімон *(да Зосі)*. Што ты, ягадка мая, і ты не злуй на мяне, прабач, прашу. *(Звяртаецца да публікі.)* І вы нас прабачце, людочкі мілыя. *(Усе ўдзельнікі свята кланяюцца.)* Можа, мы вас чым таксама пакрыўдзілі. Прабачце. І жывіце ў згодзе.

Парамон. Няхай вам усім Бог дапамагае жыць.

Халімон. Няхай шчасціць.

Усе ўдзельнікі свята выходзяць на край сцэны.

Наста. А нас Масленка абманіла?

Усе. Абманіла.

Мірон. На сем нядзель посту пасадзіла?

Усе. Пасадзіла!

Стах. Хлопцы! На белую капусту.

Юнона. Дзяўчаты! На горкую рэдзьку.

Халімон *(усміхаючыся)*. Але хутка бяжыць час, дзетачкі, унучачкі мае.

Фрося. І зноў будзе свята ў нас, не паспееце азірнуцца.

Халімон. Дай Бог, каб дажылі.

Зося. Дай Бог, каб здаровенькія дачакалі.

Гучыць развітальная песня, і ўсе ўдзельнікі свята сыходзяць са сцэны.

**Песня «А ты, Масленіца-пылізуха»**









Мажэйка З. Я., Варфаламеева Т. Б. Песні Беларускага Падняпроўя / Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. — Мінск: Беларуская навука, 1999. — С. 48. (Зап. Т. І. Кухаронак у 1993 г. у в. Бяседавічы Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці ад М. Р. Чыбусавай 1915 г. н. АБелІПК, ф. 1, воп. 13, спр. 93.)

А ты, Масленіца-пылізуха,
Пыліжа-ка мяне хуць да Духа.
А ты, Масленіца-каталічка,
Чаго ты сёлета нівялічка?
А ты Масленіца — белы сыр,
А хто ажаніўся — бацькаў сын.

Заслона

**Літаратура**

1. Беларускі фальклор: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / склад. К. П. Кабашнікаў і інш. — Мінск: Выш. шк., 1996.
2. Гульні, забавы, ігрышчы / склад. А. Ю. Лозка. — Мінск: Беларуская навука, 1996.
3. *Кухаронак, Т. І.* Маскі ў каляндарнай абраднасці беларусаў. — Мінск: Ураджай, 2001.
4. *Ліцьвінка, В. Д.* Святы і абрады беларусаў / В. Д. Ліцьвінка. — Мінск: Беларусь, 1988.
5. *Мажэйка, З. Я.* Песні Беларускага Падняпроўя / З. Я. Мажэйка, Т. Б. Варфаламеева. — Мінск: Беларуская навука, 1999.
6. *Юрчанка, Г. Ф.* Народнае мудраслоўе: Слоўнік. — Мінск: Бел. навука, 2002.



## СВЯТА ВЯЛІЧКА

### Дзеючыя асобы

Н а в у м, гаспадар.
М а р ы л я, гаспадыня.
Я к у б, старэйшы сын.
М і х а с ь, малодшы сын.
В о л ь г а, старэйшая дачка.
Л і з а в е т а, малодшая дачка.
Д з е д Ц і ш к а.
Б а б а А г а ф' я.

Валачобнікі (1-ы гурт):
Г а л о ў н ы, або с т а р э й ш ы — В а с т р а с л о ў.
А с в і с т ы.
П а д с в і с т ы.
Б а б ы л ь - с к р ы п а ч.
К а ш а н о ш а.

Лалоўнікі (2-і гурт):
Г а л а с і с т ы.
Б о й к і.
А р ц е л ь ш ч ы к.
К а з н а х в а л ь н і к.
Д у д а р.

Лалымшчыкі (3-і гурт):
Л а л ы м ш ч ы к.
У с л а ў л я л ь н і к.
Н а з о й л і в ы.
Б а т р а к.
М у з ы к а.

Кукольнікі (4-ы гурт):
В а л х о ў н і к.
П а ч ы н а л ь н і к.
П а д х в а т н і ч а к.
П а в а д ы р.
М е х а н о ш а.

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Дзея адбываецца перад Вялікаднем. У хаце за сталом сядзяць М а р ы л я, А г а ф' я, В о л ь г а і Л і з а в е т а. Яны фарбуюць велікодныя яйкі. На стале стаіць вялікая міска, у якой ляжаць ужо пафарбаваныя ў зялёны, блакітны, чырвоны і жоўты колеры яйкі. Бабуля Агаф'я распавядае ўнучкам.



А г а ф' я. У пятніцу асудзілі Сына Божага на смерць.
М а р ы л я *(дадае)*. Праз распяцце яго на крыжы.
А г а ф' я. А ў суботу прыхільнікі Ісуса Хрыста выпрасілі ў іудзейскага цара дазвол на пахаванне і перанеслі яго цела ў пячору.
М а р ы л я *(дадае)*. Яшчэ і завалілі ўваход вялізным каменем.
Л і з а в е т а *(здзіўлена)*. Нашто каменем?
А г а ф' я. А ў нядзелю, калі Маці Боская з сяброўкамі прыйшла апрануць свайго сына-нябожчыка ў пасмяротнае адзенне, то яго там не знайшла.
В о л ь г а. Ён жа памёр.
А г а ф' я. Анёл у прыгожым белым адзенні абвясціў ім, што Хрыстос уваскрэс.
Л і з а в е т а. Як гэта ўваскрэс?
А г а ф' я. З мёртвых паўстаў.
В о л ь г а. А мы паўстанем?
М а р ы л я. Рана вам яшчэ пра гэта думаць.
А г а ф' я. Чаму, Марыля, пра гэта можна і цяпер думаць. Але, унучкі, слухайце далей. Апоўначы з суботы на нядзелю ў цэрквах і касцёлах тройчы робіцца абход вакол храма.
М а р ы л я *(дадае)*. Пасля чаго святары ўрачыста абвяшчаюць: «Хрыстос уваскрэс!»
А г а ф' я. І потым на працягу нядзелі і наступных двух дзён, сустракаючыся са сваімі роднымі і сябрамі, так вітаюцца ўсе хрысціяне, на што ім адказваюць: «Ва ісціну ўваскрэс!»
У н у к і *(разам, весела)*. Ва ісціну ўваскрэс!

Нечакана ў хату з шумам, смехам заходзяць г а с п а д а р Н а в у м і яго с ы н ы Я к у б і М і х а с ь.

В о л ь г а *(да братоў)*. А пакуль вы хадзілі-блудзілі, бабуля, шмат цікавага нам расказала.
Я к у б. А мы і не блудзілі, тату дапамагалі.
М а р ы л я. Перад такім вялікім святам і ўсе работы вялікія.
А г а ф' я. Тады мыйце рукі і сядайце за стол.
М і х а с ь. А ў мяне чыстыя.
Н а в у м. Зноў лянуешся?
М а р ы л я. Што значыць — чыстыя?
А г а ф' я *(унуку)*. Не толькі сёння трэба быць чыстым.
М а р ы л я. Хоць сёння і Чысты чацвер.
Н а в у м. Сёння нават птушкі нясуць сваіх дзяцей мыць, а я *(бярэ пад свае рукі і Якуба, і Міхася, якія пішчаць)* сваіх што — не занясу?

Пасля гэтага да стала падсаджваюцца Навум, Якуб і Міхась.

Н а в у м. Так, дзетачкі, давайце я вам пакажу, як пісанкі рабіць.

А г а ф' я *(усміхаецца)*. Так, зяцёк, пакажы-пакажы гэтым неслухам.

М а р ы л я. А яны ўжо будуць чыстыя, так?

Хлопцы хітравата ўсміхаюцца.

Н а в у м. Будуць, бо якая птушка схопіць бруднага замест птушаняці і мыць павалачэ.

А г а ф' я. Не палохай маіх унучкаў. *(Гладзіць іх па галовах.)*

М а р ы л я. На Вялікдзень, першы дзень, трэба мыцца з пасудзіны, у якой ляжаць золата, срэбра і чырвонае яечка.

Л і з а в е т а. Нашто? Дзе ўзяць вядро золата?

М а р ы л я. Гэта трэба пярсцёнкі ў ваду пакласці. Каб быць чыстым і прыгожым, як яйка.

Н а в у м. Каб разбагацець, кажуць.

А г а ф' я. Каб памаладзець.

Н а в у м. А вы, дзеткі, глядзіце ўважліва, вось такія ўзоры. *(Глядзіць, як робяць дзеці.)* Так табе, Міхась, відаць, трэба расчарціць, бо крыва.

М а р ы л я. Нічога, навучыцца, ён жа маленькі яшчэ.

Я к у б. Ага, маленькі, маленькі, а блінцы цягае, як дарослы.

М і х а с ь. А я іх люблю.

Н а в у м. А вам абы адзін аднаго «чубіць».

А г а ф' я. Відаць, зяцёк, у дзяцінстве не лепшы быў?

М а р ы л я. Тата ў хаце заўсёды лепшы за ўсіх.

У с е д з е ц і. Так, так.

В о л ь г а. Бабуля, а чаму яйкі на Вялікдзень?

М і х а с ь. А не штосьці салодкае, цукеркі напрыклад?

Л і з а в е т а. Наш Міхась усё выменяе на салодкае.

В о л ь г а *(жартуе)*. А мы яму і яйка мёдам намажам.

А г а ф' я. Ну, чаго вы на яго? Любіць, абы на здароўе. На, унучак. *(Дае цукерку.)*

Я к у б. А мне?

М і х а с ь. Табе не дадуць, бо смяяўся.

М а р ы л я. Ціха-ціха, усім будуць гасцінцы, але толькі на свята.

А г а ф' я. Паслухайце лепш пра велікоднае яйка. Дык вось, калі Святая Марыя даведалася, што Хрыста пакаралі смерцю, то прынесла яна рымскаму імператару ў падарунак чырвонае яйка. Як знак нявіннасці Сына Божага.

М і х а с ь. Таму яйка чырвонае?

А г а ф' я. Таму. Гэта, як кроў Хрыста. *(Ціхенька прыпявае.)* Старым і малым яечкі качаць — святцаў праважаць. А гэтае святца адзін разочак у гадочак.



М а р ы л я. Велікоднае яйка мае вялікую сілу.

Н а в у м. Яго закопвалі ў першую баразну.

М і х а с ь. Каб вырасла?

А г а ф' я. Які ты яшчэ маленькі, унучак, але падрасцеш — усё будзеш ведаць.

Н а в у м. З чырвоным яйкам мы выганяем першы раз жывёлу на пашу. Хіба не памятаеш?

М а р ы л я. І адорваем адзін аднаго на Вялікдзень. Ці памятаеце прыгаворкі?

М і х а с ь *(весела)*. Так, кібец, кібец, дайце блінец, у прыдатак — аладку.

А г а ф' я *(жартуе)*. І кіем па азадку.

В о л ь г а. І я памятаю. Жачак, жачак, малы рыбачак, па небу бегаў, Хрыста бачыў.

Н а в у м *(хітра ўсміхаецца)*. Але адным яйкам не наясіся.

Л і з а в е т а. Пасля такога посту.

А г а ф' я. Так. Сем тыдняў. *(З усмешкай.)* Але не ўсе вытрывалі.

М а р ы л я. Мама, то ж дзеці, падрастуць — вытрываюць.

Н а в у м *(да Марылі і бабулі)*. Дык што прыгатавалі, гаспадынькі, на свята?

М і х а с ь. Я дапамагаў маме грыбныя піражкі рыхтаваць.

В о л ь г а. А я — шчупачка. Такі халодны быў, рукі здзервянелі.

А г а ф' я. Не перажывайце, галадаць не будзеце, падрыхтаваліся добра. Будзе запечаная парасяціна, індык з рысам, клёцкі з цялячай пячонкі.

М і х а с ь. Ой, і салодкае будзе! Аладкі і пончыкі з яблыкамі бабуля абяцала.

А г а ф' я. Будуць, будуць. Таму хто разам са мною ўсяночную адстаіць.

Я к у б. Ой, не. Я ў той раз ледзь не заснуў.

В о л ь г а. Нічога не станецца. Гэта табе не па падворку лётаць.

М а р ы л я. Могуць дзеці і ў хаце памаліцца, бо людзей будзе шмат — не ўбіцца ў царкву.

Н а в у м. Памятаю, і мы дзецьмі заставаліся ў хаце. А старэнькія бабулі і дзядулі, што ўжо не маглі да храма дайсці, імкнуліся не спаць у гэту ноч, палілі свечкі перад абразамі, маліліся.

А г а ф' я. У нас таксама ўсю ноч гарэла ў хаце святло, старыя расказвалі біблейскія паданні. Цікава было.

Раптам у хату ўваходзіць д з е д Ц і ш к а, як заўсёды, вясёлы жартаўнік. Да яго бягуць унукі.

А г а ф' я. Ну, прыйшоў баюн. Можам, Марыля, пайсці з табой, яшчэ ёсць работа на сёння.

М а р ы л я. Так, я сыр, масла хацела паглядзець.

Н а в у м. Гляньце там кілбасы, што засталіся ад Каляд.

А г а ф' я *(смяецца)*. Калі дзед не пацягаў сваім конюхам. То за падковы нешта кавалям нясе, то за хамуты.

Ц і ш к а *(хітра)*. Хамутоў тут усім хопіць. А ў вас хіба пацягаеш? Нагатуюць, як на цэлую вёску. *(Далей Навуму.)* І шынку бачыў, і вяндліну, і смажаную цяляціну, кіндзюк, пірагі, кулічы.

М і х а с ь. І што, дзядуля, не скаштаваў?

Ц і ш к а *(жартуе)*. Не, унучак, але кругоў дзесяць даў вакол мяса.

М а р ы л я. Пойдзем, мама, я ж забыла, што трэба яшчэ мак натаўчы і хрэн пацерці.

А г а ф' я. Пойдзем. *(Далей да дзеда.)* А ты, баюн, пасядзі з унукамі, гэта табе не з конямі.

А г а ф' я і М а р ы л я выходзяць з хаты.

Ц і ш к а. Ну што, унучкі, стаміліся?

Н а в у м. От, цяжка пісанкі рабіць?

Ц і ш к а. Памалюй, зяцюхна, яшчэ, а я з унукамі пагуляю.

Н а в у м. Добра, а то ад коней цябе не адагнаць.

Ц і ш к а *(сядае сярод дзяцей)*. Ой, дзеткі, люблю я сваіх конікаў. А прыгожыя, а моцныя! А які жарэбчык!

М і х а с ь. Рыжык? Я яго таксама люблю.

Ц і ш к а. Можа, унучак, і ты будзеш конюхам?

В о л ь г а. Хутчэй там, дзе цукар, увесь сцягаў.

Н а в у м. Зноў, Цішка, з царквы будзеш, як бура, ляцець?

Ц і ш к а. Буду. І дзед мой, і бацька так рабілі.

М і х а с ь. Нашто?

В о л ь г а. Ехаў бы паціху.

Ц і ш к а. Калі я, Міхась і Волечка, пераганю іншых, то мой конь будзе крэпак цэлы год і будзе пераганяць усіх суседскіх.

Н а в у м. Так, як ты іх даглядаеш, то яны заўсёды будуць лепшыя. Вучыцеся ад дзеда, дзеткі.

Ц і ш к а. Так, хто памятае мае «навукі»? Зараз пабачым. *(Гаворыць лічылку.)* Ішоў казёл па лавачках, усім даваў буханачкі, каму — раз, каму — два, выходзі на букву «А». *(Выходзіць Вольга, якой дзед загадвае загадку.)* Так, унучачка, згадай: усе яго любяць, чакаюць, убачаць — адразу заплачуць, а?

В о л ь г а *(здзіўлена)*. О, сёння зноў другая? Заўсёды мне цяжэйшыя, не, каб Якубу. Не ведаю.



Ц і ш к а. А падумай. *(Вольга і ўсе астатнія думаюць.)*

Я к у б. Відаць, сонца?

Ц і ш к а. Так, хадзі сюды. *(Бярэ за руку Якуба.)* А прыгавор памятаеш?

Я к у б. Так, сонейка, узыдзі на горку, адчыні каморку, там паны б'юцца, за чубы дзяруцца.

Ц і ш к а. А дожджык, хто памятае?

Л і з а в е т а. Я. Ідзі, ідзі, дожджыку, звару табе боршчыку, цэбарам, вядром, дайніцаю, над усякаю пашніцаю. І загадку памятаю: мяне ўсе просяць, чакаюць, як толькі з'яўляюся — хавацца пачынаюць.

Ц і ш к а. Ну, малайцы, унучкі мае. *(Абдымае.)*

В о л ь г а. Дзядуля, а ты абяцаў нас у гэтым годзе на званіцу ўзяць.

Н а в у м. Ага, каб зваліліся. Глядзі, яшчэ і сам не залезеш.

Ц і ш к а. Не перажывай, ужо не маленькія. *(Далей унукам.)* Пойдзем, пойдзем. Але вечарам і на ўсяночнай звоніць толькі званар. Ён выбівае гукі, накшталт: «к нам», «к н-нам», «к нам», «к н-нам», «ідзіце».

Н а в у м. От, выдумшчык. *(Устае з-за стала.)* Пайду, гляну авечкі і каровы. *(Ідзе з хаты.)*

Ц і ш к а. Які я выдумшчык? Трэба ўсё чуць, трэба больш прыглядацца да ўсяго. То ж жывем!

Л і з а в е т а. Раскажы нам, дзядуля, байку.

Ц і ш к а. Сядайце і слухайце. Ідзе Бай па сцяне ў чырвоным каптане. Сямёра лапцяў нясе, крывую ногу валачэ. Баіць ці не?

М і х а с ь і Л і з а в е т а. Бай!

Ц і ш к а. І ты кажаш «бай», і я кажу «бай». Ідзе Бай па сцяне ў чырвоным каптане. Сямёра лапцяў нясе, крывую ногу валачэ. Баіць ці не?

В о л ь г а і Я к у б. Не, не!

Ц і ш к а. І ты кажаш «не», і я кажу «не». Ідзе Бай... *(Але дзедаву байку шумам і крыкам перапыняюць унукі.)* Добра, добра, унучкі, позна ўжо. Пойдзем спаць, то я вам калыханачку паспяваю.

М і х а с ь. Спадзяюся, не такую як твая байка?

Ц і ш к а. Не, карацейшую. *(Усе смяюцца.)*

Д з е д з у н у к а м і сыходзіць са сцэны. Праз хвіліну вяртаецца б а б у л я А г а ф' я, запальвае свечы ля абразоў (або лампадку), моліцца.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Ваколіца. Пяюць птушкі. Недзе далёка чуваць сабачы брэх. У полі асобна стаіць старэнькая хатка. Да яе (на сцэну) з песняй выходзяць в а л а ч о б н і к і (1-ы гурт).

**Песня «Ай, ішлі-пайшлі добры молайцы»**




Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 30—31. (Зап. Г. Кунчэўская ў 1988 г. у в. Уцеха Барысаўскага раёна Мінскай вобласці ад А. Я. Сыцік 1928 г. н.)

Ай, ішлі-пайшлі добры молайцы.
Хрыстосваскрэс, Сын Божы![1]
А ішлі яны, усё шаталіся,
Багатырскі двор усё пыталіся.
Дзень добры таму, хто ў гэтам даму!
А ці спіш-ляжыш, ці адпачываеш?
А калі спіш, дык бог з табою,
А калі ня спіш — гукай са мною.
А мы госцейкі ды не частыя,
Круглы гадочак — адзін разочак.

Пасля песні хлопцы вызначаюць, каму кім быць.

Г а л о ў н ы, або с т а р э й ш ы. Так, ты будзеш Асвісты, ты — Падсвісты, ты, больш дужы, будзеш кашэль насіць, і, глядзі, не згубі нічога. А бабыль няхай на скрыпачцы «пілуе». Згодны?

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч. Так, а ты Вастраслоў будзеш. Бо надта ж язык востры, як у змяі. І вось наша першая хатка. Хадзем, паспрабуем.

В а с т р а с л о ў *(падышоўшы пад акно).* Гэй, гаспадар, слухай, песня спета проціў лета!

А с в і с т ы. Проціў лета цёплага.

П а д с в і с т ы. Велікоднага! *(Да хлопцаў.)* Маўчыць? *(Далей крычыць у бок хаткі.)* Спіш?

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч *(працягвае).* Велікоднага, усім нам лагоднага.

П а д с в і с т ы. Гэй, спадар! Кашаношу — чырвон злоты!

К а ш а н о ш а. Вастраслову — паўзалатога!

[1] Паўтараецца пасля кожнай страфы.



В а с т р а с л о ў. Асвістаму — нямнога.

А с в і с т ы. Ха-ха-ха! Каня варанога! *(Свішча.)*

П а д с в і с т ы. Скрыпцы-бабылю — мерку жыта!

В а с т р а с л о ў. А наш Кашаноша кашэль нося.

К а ш а н о ш а *(басам).* Сала прося.

А с в і с т ы. Прасі лепш бараніны з цыбуляй. От, я яе люблю.

П а д с в і с т ы. Карася, як парася, цягні, спадар, валачобнічкам.

В а с т р а с л о ў. У смятане, у цэбары!

К а ш а н о ш а. Ой, пончыкаў з яблыкамі!

А с в і с т ы. Яшчэ скажы — крамбамбулі. Ці не бачыш, ніхто нават не піскнуў у хаце.

В а с т р а с л о ў. Можа, воцату духмянага? Яму, гаспадару.

П а д с в і с т ы. Ага, барбарысу соленага.

К а ш а н о ш а *(жаласна).* Ну што, на нашу браццю па капе яец недзе ўзяці?

А с в і с т ы. Ну, хоць па дзесятачку можна даці?

В а с т р а с л о ў. Так, скрыпка, відаць, тут горка наша доля?

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч. Ой, нам бы кварта гарэлкі і сыр на талерцы. І далей яшчэ столькі двароў, вёсачак.

В а с т р а с л о ў. Давай, яшчэ спяём!

Валачобнікі пачынаюць спяваць песню, але да іх ніхто не выходзіць.

**Песня «А на моры гібка кладка»**







Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 32. (Зап. Г. Кутырова, В. Астрэйка ў в. Стругалапы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці ад С. М. Ліпніцкай 1912 г. н.)

А на моры гібка кладка,
Там хадзіла Божа матка.

Хрыстос васкрэс, Хрыстос васкрэс,
Хрыстос васкрэс![1]

Ішла яна, хілялася,
Свайго сына пыталася.

Прайшла яна адно поля,
Прайшла яна і другоя.

На трэцяя ступаючы,
Свайго сынка пытаючы.

Напаткала трох ангелаў,
Трох ангелаў-храніцеляў.

Раптам здалёк чуецца іншая песня і на сцэну выходзіць 2-і гурт (л а л о ў н і к і). Яны імкнуцца пераспяваць адзін аднаго.

**Песня «Чэраз канапельку чорная сцежка»**







Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 33—34. (Зап. Г. Р. Кутырова ў 1983 г. у г. Мінску ад ураджэнкі в. Баброва Лагойскага раёна Мінскай вобласці М. В. Яцэвіч 1910 г. н.)

Чэраз канапельку чорная сцежка.
Вітам вінам зялёным.[1]
Туды ішла красна паненка.
Туды ішла — мёд несла.

[1] Паўтараецца пасля кожнай страфы.



Аддтуль ішла — ваду несла.
Спаткалася з трыма панічамі.
— Куды ідзеш, а што нясеш?
Дай вады ўмыцца, а мёду напіцца.

Нарэшце, стаміўшыся, усе змаўкаюць.

В а с т р а с л о ў. Дазвольце прадставіцца: Вастраслоў, Асвісты, Падсвісты, Кашаноша і Бабыль-скрыпач. *(Кожны з хлопцаў, калі яго называюць, робіць смешныя «выхады», «выкрунтасы».)*

Г а л а с і с т ы. Так, а ў нас: Галасісты, Бойкі, Арцельшчык, Казнахвальнік і Дудар. Ну, то што? *(Глядзіць у кошык валачобнікаў.)* Хіба толькі пачалі? Як і мы. Паспрабуем разам разуць гаспадара?

В а с т р а с л о ў. Ужо спрабавалі. Столькі тут настараліся.

Г а л а с і с т ы. Маўчаць?

В а с т р а с л о ў. Маўчаць. Каб іх прарвала.

Б о й к і. Не ўмееце, глядзіце, як трэба. *(Крычыць.)* Гас-па-дар! Не тамі гасцей!

Валачобнікі смяюцца, а лалоўнікі працягваюць выкрыкваць.

А р ц е л ь ш ч ы к. Дай нам дзве саракоўкі — на падкоўкі!

А с в і с т ы. Ага, бо лалоўнікі ўсе свае новыя боты стапталі.

П а д с в і с т ы. Пакуль твайго двара дапыталі.

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч *(валачобнікам, смеючыся.)* Сонейка на елі, а яны яшчэ не елі. Схудалі, а Божа!

Б о й к і *(падышоўшы да дзвярэй)*. Уставайце, хлеб даядайце!

Г а л а с і с т ы. А то вы спіце, а хлеб цвіце.

К а з н а х в а л ь н і к. Што хлеб, там, відаць, і паляндвіца нас зачакалася. Стаіць і рукамі махае.

А р ц е л ь ш ч ы к. Ага, зразы з хрэнам. Не вастры зубоў — хіба есці сёння не будзем.

В а с т р а с л о ў. Хлопцы! Відаць, гаспадар вельмі любіць песні слухаць.

Б о й к і. Спяём разам — і збіцень, і вішнёвая налівачка нашы! Вось убачыце.

К а ш а н о ш а. Спяем, а калі не будзе налівачкі, атрымаеш ад нас пстрычачкі.

Два гурты спяваюць песню і прытанцоўваюць разам. Хутка разумеюць, што пяюць дарэмна.

### Песня «Лятала пава саду, па саду»




Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 34—35. (Зап. Г. Кунчэўская ў 1988 г. у в. Уцеха Барысаўскага раёна Мінскай вобласці ад А. Я. Сыцік 1928 г. н.)

Лятала пава саду, па саду,
Хрыстос васкрэс, Сын Божы![1]
Раняла пер'е ў зялёну траву.
А там Ніначка кароў пасціла,
Кароў пасціла, пер'е збірала.
Пер'е збірала, у падалок клала,
З падала брала, вяночак віла.
Звіўшы вяночак, пайшла ў таночак,
Пахілілася ды пахвалілася.

Д у д а р. Так, гаспадар, выходзь!

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч. Пачакаем!

Б о й к і. То будзе на цэлы фальварак дзіва!

А с в і с т ы. Так, толькі смерць пакажа, што ён мае.

А р ц е л ь ш ч ы к. Хіба, як паехаў на кірмаш, то і сёння няма?

В а с т р а с л о ў. Які кірмаш? Тут жыве дзед Кандрат.

Г а л а с і с т ы. Во, гэта ж пра яго кажуць: «У Кандрата заўсёды хата абадрата».

П а д с в і с т ы. Жыве і свеціць голымі скабамі.

Д у д а р. Жыве весела, ды есці нечага. Ду-ду, ду-ду — усё ў трубу.

П а д с в і с т ы. Так, дудар, праўда твая: былі ў яго грошыкі, і тыя прашышкаліся.

Б о й к і. Ды ў яго сораму, як у пеўня мяса на шпорах!

П а д с в і с т ы *(крычыць)*. Кандрат! Колькі не хавай — усё роўна босага і голага пахаваюць!

[1] Паўтараецца пасля кожнай страфы.



А с в і с т ы. Цьфу! І праўда, у дзеда Кандрата заўсёды хата абадрата.

К а ш а н о ш а. Але, слухай, Асвісты! Затое, кажуць, яго ботам зносу няма.

К а з н а х в а л ь н і к. Ага, гадоў дзесяць у руках носіць.

В а с т р а с л о ў. Так, валачобнікі, так, лалоўнікі, які тут ядзўш, такі будзе і рабатзўш.

Б о й к і. Не даў Кандрат кока — вылезе заўтра вока!

Г а л а с і с т ы. Не даў нам ніводнага яечка? Здохне ў цябе авечка.

П а д с в і с т ы. Не даў лалоўнікам сыроў, то хутка палупіш кароў.

А р ц е л ь ш ч ы к. Не даў нават шкуркі — палупіш куркі!

К а ш а н о ш а *(глянуўшы ў пусты кошык)*. А не даў каўбасы — павесь сабе з бабай на насы!

Г а л а с і с т ы. Хоць бы якога квасу. *(Плача.)*

В а с т р а с л о ў. Хлебнага воцату.

А с в і с т ы. Я думаў, цялячыя ножкі ў цесце пакаштуем.

Б о й к і. Не, сваімі ножкамі далей павандруем.

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч. Ага, мяса лася з цытрынамі недзе за вёскай гуляе.

В а с т р а с л о ў. Ану, лалоўнікі, не ляніцеся. Ану, валачобнікі, пакланіцеся.

А с в і с т ы. Вастраслоў, за што? За яго сталы цясовыя?

Г а л а с і с т ы. За яго абрусы шаўковыя, што мы не бачылі?

Б о й к і. За яго хлябы пытляваныя, некаштаваныя?

П а д с в і с т ы. За яго лыжкі пасрэбраныя, што нават у руках не патрымалі.

А р ц е л ь ш ч ы к. За талеркі фарфуровыя, што нават не пабачылі.

К а ш а н о ш а. За кілішкі крышталёвыя. А маглі і па кропельцы хлябнуць. Цьфу!

К а з н а х в а л ь н і к. Цьфу!!!

В а с т р а с л о ў. Пойдзем далей?

У с е. Пойдзем.

Бабыль-скрыпач і дудар іграюць разам. Гурты сыходзяць са сцэны без песні.

### Найгрыш



Выкарыстана мелодыя песні «Дзень добры таму, да хто ў гэтым даму». Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 35—36. (Зап. Г. Кутырова ў 1988 г. у г. Мінску ад ураджэнкі в. Азярыцкая Слабада Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці К. В. Бакуновіч 1903 г. н.)

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Звоняць званы. У зале або на сцэне сыходзяцца два велікодныя гурты з поўнымі карабамі дароў: яйкі, пірагі і іншыя прысмакі. Адбываюцца розныя гульні, жарты. Хлопцы робяць горку, наладжваюць дарожку (на роўным месцы ставіцца лубок пад схіл), кожны па чарзе пускае сваё яйка. Чыё далей закочваецца, той і выйграе. Некаторыя сядзяць і размаўляюць, паглядаюць на гульцоў-катальшчыкаў. Хтосьці, выйграўшы, прыпявае і прытанцоўвае.

### Найгрыш




Выкарыстана мелодыя песні «Ляцелі гусёлкі». Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка — М.: Советский композитор, 1958. — С. 21. (Зап. Р. Шырма ў 1928 г. у в. Шакуны Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці ад З. Хвораст 1863 г. н.)

Пачынальнік. Ну-ця, братцы кукольнікі!

Услаўляльнік. Давай, давай, лалымшчыкі!

Механоша. Ой, ну ваш назойлівы пяе, як салавей.

Валхоўнік. Дзярэ глотку!

Назойлівы. Зараз табе раздзяру!

Лалымшчык. Слухай, валхоўнік, кажуць, ён знайшоў яйкі салаўя і выпіў.

Батрак. Цяпер голас мае, во!

Назойлівы. А што, салавей — ета наймілейшая Богу птушачка.

Павадыр. Я чуў, салавей перш за ўсіх кажа: «Хрыстос уваскрэс!»

Назойлівы. І забіць яго — вялікі грэх.

Лалымшчык. Як забіць чалавека.

Валхоўнік. Забіць не, але памалаціць, каб не зазанаваўся, можна.



Музыка. Што ты? Біцца на Вялікдзень няможна.

Батрак. Ой, што будзе, калі трохі і патузаемся?

Музыка. Дзед казаў, што той, хто распачне бойку на Вялікдзень, будзе задзірацца цэлы год.

Механоша. А то яшчэ кажуць, што ў той вёсцы, дзе бойка была, град выб'е пасевы.

Батрак. Можам біцца яйкамі, будзеш?

Пачынальнік. Буду.

Яны мяняюцца яйкамі і спрабуюць іх асцярожна на зубы.

Батрак. Нешта, брат, тваё дужа крэпкае.

Назойлівы. А можа, фальшывае?

Пачынальнік. А тваё крапчэй, давай мяняцца.

Батрак. Не, не хачу, будзеш біцца?

Пачынальнік. Ну, трымай!

Батрак. Не, ты трымай! *(Вакол збіраюцца зацікаўленыя, крычаць, шумяць: «Давай, бі! Бі!»)*

Нарэшце, адзін згаджаецца, а другі б'е. Чыё яйка разбіваецца, той прайграе і павінен аддаць яго таму, хто пабіў. Выйграў Батрак.

Назойлівы. Відаць, яйкі цясарскіх кур?

Павадыр. Глянь, можа «наліванка»?

Пачынальнік. Можа, воск ці волава ўліў?

Назойлівы. Ага, і грабе яйкі шапкамі.

Лалымшчык *(да Музыкі)*. Чуў? Ён ужо паўкапы яек выбраў!

Батрак. Што вы, хлопцы, сапраўднае!

Пачынальнік. Глядзі, а то да смерці паб'ем.

Назойлівы. Але, цікава, пра смерць: хто ў Вялікдзень памрэ, таму — светлы рай.

Павадыр. Ага, убачыш там: светлы ці цёмны.

Назойлівы. Таму ўсе смяротныя грахі даруюцца.

Валхоўнік. Якія смяротныя? Што пасля смерці?

Батрак. А то не ведаеш. Пыха.

Павадыр. Гнеў.

Лалымшчык. Зайздрасць.

Падхватнічак. Няшчырасць.

Музыка. Нават абжорства.

Пачынальнік. От, хіба сёння, хлопцы, грэшнікаў прыбавіцца шмат.

Батрак. Так, пасля посту стрымацца?

М е х а н о ш а *(паказваючы на мех)*. Як не набяром, зноў пасціць будзем.

Музыка пачынае ціхенька іграць велікодныя найгрышы. Хто слухае, а хто і працягвае гаворку. Некалькі хлопцаў усё яшчэ качаюць з горкі яйкі, гуляюць.

**Найгрыш**




Выкарыстана мелодыя песні «Ой, на віры вада грае». Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка — М.: Советский композитор, 1958. — С. 23. (Зап. Р. Шырма ў 1935 г. у в. Пагора Навагрудскага ўезда ад В. Путрыч 1906 г. н.)

П а ч ы н а л ь н і к. А хто бачыў сёння, як сонца йграе?

У с л а ў л я л ь н і к. Як гэта йграе, маніш?

П а ч ы н а л ь н і к. Не, бабуля казала, што яны ўзбіраліся на ўзгорак, званіцы і сачылі за ўсходам сонца.

Б а т р а к. Ну, якраз бабулі і залезуць на званіцу. То што?

П а ч ы н а л ь н і к. А тое, што сонца ў гэты час «танцуе».

Н а з о й л і в ы. Ага, польку! Ля-ля, ля-ля. *(Танцуе.)*

П а ч ы н а л ь н і к. Яно пераліваецца бляскам, расцягваецца то ўдоўж, то ўшырыню, то распадаецца на некалькі сонейкаў.

М у з ы к а *(перастае іграць)*. Так, пляці-пляці, сам бачыў?

П а ч ы н а л ь н і к. Па-праўдзе, не. То і бабуля казала, што не кожнаму гэта ўдаецца пабачыць.

М у з ы к а. Як не кожнаму? Пляцеш тут.

П а ч ы н а л ь н і к. А вось так, трэба быць вельмі набожным.

Н а з о й л і в ы. Ой, відаць, я ніколі не ўбачу. Грахоў — мяхі. *(Смяецца.)*

В а л х о ў н і к. Яшчэ ўсё ў тваім жыцці можа здарыцца. Паспавядаешся і сонца ўбачыш.

Н а з о й л і в ы. Хіба, бацюшка ў царкве засне, пакуль усё ўспомню. *(Пяе.)* Сонейка, сонейка, прыйдзі пад ваконнейка, там лалымшчыкі сядзяць, па яечку ядзяць.



П а ч ы н а л ь н і к. Ну то што, гульцы-катальшчыкі! *(Дастае чырвоныя яйкі з торбы.)*

У с л а ў л я л ь н і к. Пакажы.

П а ч ы н а л ь н і к. Так, хто разаб'е асвечанае яйка пстрычкай?

Н а з о й л і в ы *(падыходзіць бліжэй)*. Нашто?

П а ч ы н а л ь н і к. Лічыцца, той за свята многа пераб'е яек.

Б а т р а к. Ой, я і так пераб'ю, абы былі. Трэба яшчэ па хатах павалачыцца, а?

П а в а д ы р. А хадзем да дзеда Цімоха?

У с л а ў л я л ь н і к. Пайшлі! От ён жартаўнік!

П а д х в а т н і ч а к. Так, у той год тыдзень ад яго жартаў жывот балеў.

Н а з о й л і в ы. Можа, ад абжорства? Столькі яек праглынуў!

П а д х в а т н і ч а к. Ай, ідзі ты. Ты менш пірагоў з'еў?

Н а з о й л і в ы. А каб не такія смачныя, то і адзін не ўпёр бы. *(Смяюцца.)*

У с л а ў л я л ь н і к. То, стройсь, гурты!

Наперад выступаюць кукольнікі са скрыняй, за імі — лалымшчыкі. Гэтая вясёлая працэсія з песнямі і скокамі накіроўваецца на падворак Навума і Марылі.

**Песня «Лужком, лужком ды далінкаю»**







Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка — М.: Советский композитор, 1958. — С. 25. (Зап. Р. Шырма ў 1944 г. у в. Дуброва Радашковіцкага раёна Маладзечненскай вобласці ад С. Мацэральніка 1909 г. н.)

Лужком, лужком ды далінкаю,
Зялён явар, вінаград![1]

[1] Паўтараецца пасля кожнай страфы.

Сцежачкамі дратаванымі
Тудой ішлі валачобнікі,
Спяваючы, іграючы,
Малойчыка шукаючы:
— А ці ў дома, дома слічны панічык,
Слічны панічык, малады Іванька?
Піша лісты ў тры землі:
У першую — у Турэцкую,
У другую — у Шведскую,
У трэцюю — у Валынскую.
У Турэцкую — па коніка,
У Шведскую — па золата,
У Валынскую — па валыначку.
На коніку паязджаць будзе,
А золатам шафаць будзе,
І з валынкаю векаваць будзе!

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Гурты падыходзяць да плота.

У с л а ў л я л ь н і к. Гэй, Марылька-журавінка, падстаўляй драбінку, лезь па саланінку!

П а ч ы н а л ь н і к. Гэй, Навум, вісіць абод — калясо будзе, а пазавеш на падворак — харашо будзе.

Да гуртоў насустрач выходзяць г а с п а д а р ы.

Н а в у м. Праходзьце.

М а р ы л я. О, то неяк шмат іх сёння.

Н а в у м. Нічога, Марылька, хай «пажупяць», паскачуць дый баек раскажуць.

Н а з о й л і в ы. Дазвольце, гаспадынька, ваш дом звесяліці?

М а р ы л я. Весяліце, весяліце. *(Навуму.)* Глянь, зноў Назойлівы прыцягнуўся.

Н а в у м. Бачу, тут шмат старых знаёмых. Вытрасуць усё з каморы.

М а р ы л я. Весяліце, весяліце.

Н а в у м. Глядзіце, толькі ж хату не разваліце.

П а в а д ы р. Нічога, як гэту развалім, нову паставім.

Гурты спяваюць песню гаспадарам. Пачуўшы спевы, на падворак выходзяць д з е ц і, д з е д і б а б а.



**Песня «У гародзе на пагодзе»**




Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка — М.: Советский композитор, 1958. — С. 27. (Зап. Р. Шырма ў 1932 г. у в. Яцкава Валожынскага раёна Маладзечанскай вобласці ад П. Барысіхі 1862 г. н.)

У гародзе на пагодзе,
Зялён явар, малады![1]
Там хадзіла курапат стада,
Між тых курапат сіня вутачка.
Скуль жа ўзяўся селязень сівенькі,
Усе курапаткі паразганяў,
Сіню вутачку к сабе ўзяў,
Узяў яе, павёў яе,
Павёў яе ў нову клетачку.
— Сядзі, сядзі, сіня вутачка,
Я да цябе прылятаць буду,
Я ды цябе карміць буду,
Я ды цябе паіць буду.
Карміць буду пшанічанькай,
Паіць буду расіцінкай.

Ц і ш к а. Во, прыляцелі ўжо пташачкі. То ўжо будуць зноў прасіць у мяне шыпучага мёду.

В а л х о ў н і к. О, то, можа, і чаго смачнейшага?

А г а ф' я. Пабачым, што ўмееце.

Хлопцы падыходзяць да дзеда з бабай.

[1] Паўтараецца пасля кожнай страфы.

Услаўляльнік. Ой, дзядулька Цішка, вазьмі запалі свечачку.
Пачынальнік. Дай ідзі ў клетачку.
Назойлівы. Не забудзь і сваю бабулю-кветачку.
Павадыр. Ідзіце ў клетачку з Агаф'яй.
Лалымшчык. Памаленечку.
Валхоўнік. Па гарэлачку.
Музыка. Гарэлачку на стол.
Механоша. А госцейкаў за стол.

Дзед з бабай неахвотна ідуць у хату, за імі настойліва, іграючы, музыкі.

Услаўляльнік. А каб вы ж ведалі, які смачны чароўны напой у дзеда.
Пачынальнік. Чым жа ён такі смачны, а?
Услаўляльнік. Дзед бярэ скарынкі ад асвечаных булак, сушыць іх і таўчэ.
Назойлівы. А потым сыпле ў гарэлку.
Услаўляльнік. І частуе ўсіх у сямейныя святы: вяселле, хрэсьбіны.
Батрак. Кажуць, што такая гарэлка атрымлівае здольнасць усыпляць ведзьмаў.
Музыка *(вярнуўшыся ад дзвярэй хаты)*. Яны засынаюць, робяцца няшкоднымі.
Услаўляльнік. Нікому, нават дзецям.
Валхоўнік. Так, а дзе вашы дзеткі? Цётка Марыля, дзядзька Навум?
Марыля. А вось. *(Выводзіць наперад дзяцей.)*
Валхоўнік. А Божа, павырасталі — не пазнаць.
Павадыр. А знаеш, гаспадынька, маеш Волечку-дачку, май і гарэлачку ў глячку.
Навум. То як жа.
Вольга. А татава хата ўсім багата. *(Выводзіць наперад Лізавету з сітам.)*
Лізавета. Вось, Кашаношу жыта сіта.
Якуб. Хай ён нясець-надрываецца, у зямлю носам наківаецца.
Батрак. От, дзеткі-жартаўнікі. Ану, кукольнікі, урэжам дзецям!

Кукольнікі спяваюць і танцуюць вакол дзяцей. Разам з імі пачынаюць танцаваць і ўсе жадаючыя.



**Песня «Ой, на моры, на сінім Дунаі»**




Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка — М.: Советский композитор, 1958. — С. 28. (Зап. Р. Шырма ў 1932 г. у в. Яцкава Валожынскага раёна Маладзечанскай вобласці ад П. Барысіхі 1862 г. н.)

Ой, на моры, на сінім Дунаі,
Явар, явар зеляны![1]
Ляжыць кладка брусаваная,
А масточкі ўсё каваныя.
Тудой ішло сямсот коней,
Усе кладачкі пагібаліся,
А масточкі паламаліся,
Сямсот коней утапіліся.
— Вот не жаль жа мне сямсот каней,
Вот жаль жа мне аднаго каня.
З яго рота цякло злота,
Ён капыцікам камень разбівае,
Ён хвосцікам вулку падмятае,
Ён вушкамі неба падпірае,
Ён вочкамі зорачкі шчытае,
Ён мне паненку шукае.

Нарэшце, з хаты выходзяць дзед, які трымае нешта пад кажушком, і бабуля, якая выносіць кукольнікам збаночак мёду.

Агаф'я. Вось вам, хлопцы, мядок, ні горкі, ні салодкі.
Цішка *(дадае)*. Салодкі пражаруць, а горкі праплююць, але, выплюнуўшы, не падымеш.

---

[1] Паўтараецца пасля кожнай страфы.

М у з ы к а. Слухай, дзядок-галубок, і ты б што пашукаў лалоўнікам, ці толькі язычком малаціць?

М е х а н о ш а *(трасе мяшком)*. А і праўда, дзеду, песня ж спета.

Л а л ы м ш ч ы к. Ну, песня спета проціў лета, Цішка.

П а в а д ы р. Проціў лета цёплага, урадлівага, Агаф'я.

П а ч ы н а л ь н і к. Новага, здаровага.

Б а т р а к. Не хочаш нас частаваць — дары, Цішка, грошы!

Ц і ш к а. За грошы і любы харошы.

В а л х о ў н і к. Дары, дары, мы іх пералічым.

Н а з о й л і в ы. І вас зноў павялічым.

Ц і ш к а. Ой, хлопцы, дзе ж старэнькаму грошы знайсці?

П а в а д ы р. От, хітры ліс! Дай два-тры злоты.

Б а т р а к. Ну, а і праўда, нам на боты.

П а в а д ы р. Бо, каб ты ведаў, колькі мы стаптаці, пакуль твайго двара дапыталі.

Ц і ш к а. Добра. Прынясу я вам цецерука запечанага, але не цэлага, а толькі пакаштаваць. Гэта няхай вам мая старая піражкоў цэлых дасць.

А г а ф' я. Так, якая я табе старая?

Ц і ш к а. Ой, не, не, малодачка мая. Не крычы, кветачка, бо налета за пастуха згодзяць.

П а ч ы н а л ь н і к. Цішка, не хітры, не трэба нікуды ісці.

Ц і ш к а. Чаму, дзеткі мае?

П а ч ы н а л ь н і к. А таму, што ўжо нешта зачапіў і пад кажушком хаваеш, так?

Ц і ш к а. Ну, так, хіба вас абдурыш? *(Дастае цукерку.)* Гудзіце, як бабы на сварлівым балоце.

П а ч ы н а л ь н і к. Якім балоце?

Ц і ш к а. А то не ведаеце, слухайце, можа, ціха будзе на падворку. Байка.

Л а л ы м ш ч ы к. Нарэшце, а я ўжо думаў не парагочам.

Ц і ш к а. Зараз, аж слёзы пацякуць. *(Смешна кашляе.)* Дык вось, за нашым лесам балота. Прыйшлі неяк на сенакос бабы, вось такія сама языкатыя, як і вы.

Б а т р а к. Глядзі, Цімох, нажартуешся ў нас.

Ц і ш к а *(не звяртаючы ўвагу на пагрозу)*. І як пачалі спрачацца, аж да бойкі дайшло. Убачылі гэта чэрці, што жылі ў балоце, выскачылі і давай дапамагаць сварыцца. Паднялі такі лямант, вісг аж пацямнела. Пачуў гэта Бог і паслаў свайго анёла навесці парадак.

Л а л ы м ш ч ы к. І што анёл?

Ц і ш к а. Той узяў і паадсякаў галовы.

Б а т р а к. Каму?



Ц і ш к а. І бабам, і чарцям. Кажа: «Ну вось, ціха будзе».

П а ч ы н а л ь н і к. Ой, што за байка? Нейкі старадаўні страх.

Ц і ш к а. Слухай, што далей было. Глянуў Бог і кажа: «Не, браток, так рабіць нельга. Пасадзі ўсе галавы на месца». Пачаў анёл прыкладаць галовы к душам, але заблытаўся, і не ўсе галовы трапілі да сваіх гаспадароў.

Б а т р а к. То што?

Ц і ш к а. А тое, што з таго часу і лічыцца, калі баба сварлівая, то ёй папала чортава галава.

Л а л ы м ш ч ы к. А мы тут пры чым, дзеду?

Ц і ш к а. А мне здаецца, што сярод вас ёсць тыя, што бабам на балоце дапамагалі.

Б а т р а к. Касіць?

Ц і ш к а *(смяецца)*. Сварыцца. Але добра, пачастую, пакуль зноў не пачалі сваю «смаргонскую палітыку».

Дзед частуе кукольнікаў і лалымшчыкаў мёдам, бабуля ўсіх — пірагамі. Пасля д з е д і б а б а зноў ідуць у хату, за імі — Н а в у м. У гэты час лалымшчыкі і кукольнікі спяваюць і танцуюць.

**Песня «У агародпічку на тычыльнічку»**




Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 29. (Зап. Р. Шырма ў 1933 г. у в. Пагора Навагрудскага ўезда ад В. Путрыч, Н. Дубовік.)

Ў агародцічку на тычыльнічку,
Зеляны явар, зеляны![1]
Там мак-ружа расцвітала,
Там дзеванька пахаджала,
Тую мак-ружу сашчыпала,
Сашчыпала, у рукавец клала,
К свайму ліцу прыкладала:
— Каб маё ліцо такаво было,
Як мак-ружа, прыгожае.

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

Нечакана здалёк чуецца іншая музыка. На падворак прыходзяць яшчэ два гурты: лалымшчыкі і кукольнікі лалоўнікі і валачобнікі. Лалымшчыкі і кукольнікі разыходзяцца па баках і пачынаюць гуляць «у біткі», качаць яйкі з горак — даюць сваім сябрам таксама зарабіць велікодныя дары.

### Песня «На кладачцы, на гібенькай»




Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 30. (Зап. Р. Шырма ў 1946 г. у в. Мінкі Смаргонскага раёна Маладзечанскай вобласці ад П. Шчыдлоўскага 1901 г. н.)

На кладачцы, на гібенькай,
Зялён явар, зеляны![1]
Там дзяўчына бель бяліла,
Бель бяліла, персцень ураніла.

[1] Паўтараецца пасля кожнай страфы.



Ішлі малойцы, тры рыбалоўцы:
— Ах, вы, рыбалоўцы, красны малойцы,
Вы закіньце шоўкаў невад,
Ды злавіце залаты персцень.
— Што ты нам, дзяўчынка, за дар дасі?
— За першага аддам суседачку,
За другога — швагерачку,
За трэцяга — сама пайду.

Вастраслоў. Ой, гаспадынька, а ў тваім таку ўсё прыкладзіста.
Галасісты. А ў тваім млыне ўсё прымолiста.
Асвісты. А ў тваёй дзяжы ўсё падыходзіста.
Бойкі. А на тваім стале ўсё прыкроіста.
Падсвісты. Давай капу яец!
Арцэльшчык. Бо быў песні канец.
Марыля *(жартуе)*. Ой, хлопчыкі, засталася я адна ў хаце, не дам рады і кацяняці.
Бабыль-скрыпач. Во, Марыля гаворыць, як з кніжкі бярэ.
Марыля. А і праўда, што маю? Адна сарочка на мне, а другая ў кубле на дне. Самі ведаеце: вясна не мясная, а восень не малочная.
Кашаноша. Ай, што з ёй гаварыць, паклічам лепш гаспадара.

Гучыць песня гаспадару. Ён выходзіць з дарамі. Здзіўляецца, але працягвае жартаваць.

### Песня «Добры вечар, паненачка»




Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 29. (Зап. Р. Шырма ў 1933 г. у в. Пагора Навагрудскага ўезда ад В. Путрыч, Н. Дубовік.)

Добры вечар, паненачка,
Ой, лалым, лалым, дай лалым![1]
Адчыні нам акеначка,

[1] Паўтараецца пасля кожнай страфы.

Чаму ў ваконца не выглядаеш,
Той прыйдзе, каго чакаеш,
Не тутэйшы, загранічны,
Паніч вельмі палітычны:
Сам з Кракова, конь з Вельбова,
Сам прыбраны, конь асядланы,
Сядло біта аксамітам.

Н а в у м *(жартуе да жонкі)*. О, і ты тут, і я тут, а сабакі гаршкі ў доме б'юць.

К а з н а х в а л ь н і к. Ой, бяда ў тым доме, дзе куры пяюць, а пеўням волі не даюць.

Д у д а р. Ой, не, тут гаспадар і жонка — адна кішонка.

М а р ы л я *(жартуе)*. От, такі-сякі целяпей, а ўдваіх усё ж ляпей.

Н а в у м. Між дзвярэй палец не садзі. *(Далей валачобнікам і лалоўнікам.)* А гэта што за людзі?

Б о й к і *(выходзіць наперад)*. А на першы дзень, на Вялікдзень.

Д у д а р. А збіраліся маладыя малайцы-лалоўнічкі.

В а с т р а с л о ў *(таксама выходзіць наперад)*. А збіраліся валачобнічкі.

А с в і с т ы. Сабраўшыся, рахаваліся.

К а з н а х в а л ь н і к. Дай пайшлі дарогаю шырокаю.

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч. Убачылі двор прыгожы. Твой, Навум, твой.

Д у д а р. А пасярод двара стаіць дубок-гаспадар Навум.

В а с т р а с л о ў. А з-пад таго дубка выйшла зорачка Марылечка.

Б о й к і. А з-пад той зорачкі высыпалі звёздачкі — малы дзетачкі.

Н а в у м *(да Марылі)*. О, як прыгожа, ужо можна частаваць такіх.

М а р ы л я. Давай дамо хлопцам сыр на талерку, а закусіць — дзедаву гарэлку.

К а з н а х в а л ь н і к. І парасё з хвастом валачы на стол!

Н а в у м. Ого!

Г а л а с і с т ы. Слаўныя гаспадары, будзьце здаровыя!

К а ш а н о ш а *(жаласна)*. Калі ласка, яшчэ б віна пляшка.

М а р ы л я. А не зашкодзіць?

К а ш а н о ш а. Не, мамачка.

А р ц е л ь ш ч ы к. Калі змога, Навум, хоць пірога. *(Навум зноў ідзе ў хату.)*

Хлопцы з двух гуртоў акружаюць Вольгу, штурхаюцца.

В а с т р а с л о ў. Хочаш, Вольга, я да цябе прыязджаць буду?

Г а л а с і с т ы. Не, я! Карміць буду пірагамі.



П а д с в і с т ы. Не, я! Вольга, я буду паіць цябе мёдам.

В о л ь г а *(жартоўна адбіваецца)*. У, франт! *(Другому.)* А ты? Галава стручком! *(Трэцяму.)* А ў цябе нос кручком. *(Далей сур'ёзна.)* Няхай мяне той чапаіць, хто каханне ў сэрцы маець.

В а с т р а с л о ў. Ага, а потым хоць за старца.

А р ц е л ь ш ч ы к. Абы ў дзеўках не застацца.

Б о й к і. Ну, хлопцы, папалася нам, відаць, старанная, як госці ў хату — дык венік шукае хату месці.

В о л ь г а. І шукаць не трэба, лепш не падкладай у агонь саломы.

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч. Волечка, душачка, не тамі гасцей.

Д у д а р. Надары барджэй.

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч. Карэц яец незлічоных.

Д у д а р. Тыя яйкі мы палічым.

Б о й к і. І цябе, красачка, павялічым.

В о л ь г а. Вось ласкавае слова — як дзень ясны. *(Да Лізаветы.)* Прынясі, сястрычка, дары хлопцам.

Пакуль Л і з а в е т а ідзе за дарамі, хлопцы спяваюць і танцуюць вакол Вольгі.

**Песня «Пасеяла лешку лёну»**




Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 32. (Зап. Р. Шырма ў 1932 г. у в. Вялікія Бераставічаны Гродзенскага ўезда ад П. Валейкі.)

Пасеяла лешку лёну.
Эй, лолам, пасеяла лешку лёну.
Лешка лёну не ўрадзіла,
Эй, лолам, лешка лёну не ўрадзіла.
Пасеяла руту-мяту,
Эй, лолам, пасеяла руту-мяту.
Наляцелі шугі-лугі,
Эй, лолам, наляцелі шугі-лугі.
Шугі-лугі, чорныя каўкі,
Эй, лолам, шугі-лугі, чорныя каўкі.
Не дзярыце чорну руту,
Эй, лолам, не дзярыце чорну руту.

Бо мне руты многа трэба,
Эй, лолам, бо мне руты многа трэба.
А мне маладой вянок звіці,
Эй, лолам, а мне маладой вянок звіці.

М а р ы л я *(Лізавеце)*. Куды ты ім нясеш? Яны і вала з'ядуць.

Б о й к і. І пылінкі ў роце не было!

М а р ы л я. Ды на вас трэба, каб аралі тры сахі!

В о л ь г а *(дадае)*. І кралі патрохі!

А с в і с т ы. Піццё-смяццё.

Д у д а р *(лезе абдымацца да Вольгі)*. Бяседа дарага.

В о л ь г а *(адбіваючыся ад дудара, дае дары Асвістаму)*. Брахаў бы каток, ды язык караток.

А с в і с т ы *(прымаючы дары, кажа дудару)*. Што, чужое дабро бярэ за рабро?

Гаспадары частуюць гурты, астатнія спяваюць і танцуюць. Пасля спеваў выходзяць дзед і баба.

**Песня «Добры вечар паненачка»**




Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 33. (Зап. Р. Шырма ў 1946 г. у в. Лаша Гродзенскага раёна ад Ж. Ліды 1920 г. н.)

Добры вечар, паненачка,
Кудравая, малада!
Просім цябе пад акеначка,
Ох ты, мілая мая!
Шлі здалёку, заблудзілі,
Кудравая, малада!
Да Ганначкі прыблудзілі,
Ох ты, мілая мая!
Добра Ганначка сказала,
Кудравая, малада!
Нам дарожку паказала,
Ох ты, мілая мая!



Ц і ш к а. А, Божа, Божа, а колькі ж вас тут? Вам тут што — намазана?

А г а ф' я. Супакойся, стары, дзякуй Богу, што дачакалі. Бо як ляжаш барадой даверху, то з такімі песнямі не прыйдуць.

Н а в у м. Ды ён жартуець, гэты хітры ліс, абы не частаваць.

Ц і ш к а. О, успомніў, чаго я дахаты пайшоў!

А г а ф' я. Няўжо?

Ц і ш к а. Я ж за цецеруком пайшоў.

Б о й к і. Хіба ў лес хадзіў лавіць? *(Убачыўшы дзеда, лалымшчыкі і кукольнікі перасталі гуляць і пацягнуліся бліжэй да яго паслухаць байкі.)*

Н а з о й л і в ы. Ага, Цішка, бачыў там, як заяц у смятане купаўся?

П а в а д ы р. Ну, ці не ліс, гэты Цімох? Баюн, ды і толькі.

Ц і ш к а. За далёкімі гарамі, за высокімі лясамі ёсць дзіўная краіна.

В а л х о ў н і к. Ну, пачаў ужо. Хлопцы, бліжэй.

Ц і ш к а. Дзе ніхто не працуе, ніхто нічога не робіць.

М у з ы к а. Я ведаю, дзе гэта.

Ц і ш к а. Акружана гэтая краіна гарамі... *(паўза)* з рысавай кашы.

К а ш а н о ш а. Лепш скажы — з золата, усё роўна не паверу.

Ц і ш к а. Я тую гару прайшоў.

Д у д а р. Як?

Ц і ш к а. А прагрыз, дзеткі, нару. Грызь-грызь! І вылез!

А р ц е л ь ш ч ы к. Вялікая мышка, гляньце!

Ц і ш к а. У той краіне рэкі цякуць... *(паўза)* малочныя.

Б а б ы л ь - с к р ы п а ч. Сербануць бы. А смятана была?

Ц і ш к а. Каля рэк растуць вербы, а на галінках вісяць... *(Паўза.)*

Д у д а р. Дзяды-баюны.

Ц і ш к а. Не перабівайце! Там вісяць кумпякі печаныя і абаранкі замест лісцяў.

Л а л ы м ш ч ы к. Во дае, як лапцем па вадзе.

Ц і ш к а. Абаранкі падаюць у раку, разбухаюць і становяцца такімі смачнымі, што прама ў рот просяцца.

Б о й к і. Ага, і самі скачуць! Толькі адкрывай.

Ц і ш к а. Замест камянёў ляжыць сыр. А плятні зроблены са свойскай каўбасы!

К а з н а х в а л ь н і к. Дзед, я з табой сябрую.

Ц і ш к а. Смажаныя качкі лётаюць у нябёсах. «Каму, каму? — крычаць. — Прыляцім».

П а в а д ы р. І смажаныя парасяты труцца каля плоту?

Ц і ш к а. Ціха. Таму, хто пазяхае ў той краіне... *(паўза)* штраф!

Б о й к і. Колькі?

Ц і ш к а. Ха! Тры чырвонцы давай, Бойкі. Стаіш, рот разявіўшы. Ха-ха, папаўся хоць адзін!

Б о й к і *(з перапалоху дастае грошы, дае дзеду).* Так, хлопцы, зараз ён так у нас усё паадбірае.

Б а т р а к. Ляпей давайце развітвацца.

Б о й к і *(спяшаючыся).* Дзед, дай табе Божа і ў каморы, і ў аборы.

П а в а д ы р. А на стайні — вараныя коні.

Ц і ш к а. О, коней я люблю! *(Далей убок.)* Трэба было вас так даўно паперці.

К а з н а х в а л ь н і к. Конікі табе касаты.

М е х а н о ш а. Цялушачкі рагаты Бабулі.

Л а л ы м ш ч ы к. Свіначкі віхраты. Дзеткам.

Д у д а р. Гусачкі храшчаты.

В а л х о ў н і к. Ды курачкі чубаты.

Ц і м о х. От, як смычком, так язычком. *(Далей Марылі і Навуму.)* Не скупіся ўжо, Марыля і Навум, частуй хлопцаў вараным языком ды калдунамі з грыбамі. Ды няхай дыбаюць адсюль сваімі нагамі. *(Частуюць.)*

Б а т р а к. Давай, бабулька, і ты! Ведаеш, курачка па зярнятку збірае і сытая бывае.

А г а ф' я. Відаць, відаць, вы сёння ўжо надзёўбаліся — цэлы дзень на нашым падворку.

В а л х о ў н і к. Не злуйце на нас, тут вельмі весела заўсёды, пасямейнаму. Шчаслівыя вы.

Л а л ы м ш ч ы к. Ой, бабулечка, колькі ў цябе на галаве валасоў, столькі няхай будзе і ўнукаў.

В а с т р а с л о ў. Усе будзьце вясёлы, як вясна красна.

Г а л а с і с т ы. Усе будзьце ціхія, як ціха лета.

У с л а ў л я л ь н і к. Будзьце багатыя, як багата восень у нашым краі.

Б а т р а к. Бо ў нашым краі, як у раі.

В а л х о ў н і к. Дзякуй вам, за добрыя дары.

К а ш а н о ш а. Каб дажыць да лета, ды ляпей за гэта.

М е х а н о ш а. А вы каб добра жылі і на другі год ляпей нас дарылі.

Л а л ы м ш ч ы к. А мы каб здаровы былі і на другі год зноў да вас прыйшлі.

Пад музыку гучыць развітальная песня, якую выконваюць усе ўдзельнікі свята.

**Песня «Гаспадынька-бабка, павярніся крутка»**






Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 39—40. (Зап. В. Сухая ў 1987 г. у в. Фалькі Вілейскага раёна Мінскай вобласці ад Я. С. Крывашэі 1927 г. н., А. П. Сухой 1937 г. н. Натацыя напеву У. Раговіча.)

Гаспадынька-бабка, павярніся крутка,
Вясна красна на ўвесь свет![1]
Масці кладку дай заві ў хатку.
Скавародку ў печ, па яечкі ў клець,
Кілбасы ў куточку вісяць на пруточку,
Падстаўляй драбінку, лезь па саланінку.
Мы вам часта ні дакучаім,
У гадочку ночку.

З а с л о н а

**Літаратура**

1. Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995.
2. Беларускі фальклор: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / склад. К. П. Кабашнікаў і інш. — Мінск: Выш. шк., 1996.
3. Веснавыя песні / склад. Г. А. Барташэвіч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1979.
4. Народны тэатр / склад. В. К. Бандарчык. — Мінск: Навука і тэхніка, 1983.
5. *Сысоў, У. М.* З крыніц спрадвечных. — Мінск: Выш. шк., 1997.
6. Тэатралізаваныя школьныя святы / А. Ю. Лозка, І. І. Кірчук. — Мінск: БелЭн, 2004.

## ЮР'Я, АБО ВЯЛІКІЯ ПАСТУХІ

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

**Дзеючыя асобы**

М а ц і.
Б а б у л я.
У н у ч к а.

Дзея адбываецца ў хаце. Б а б у л я і ў н у ч к а вышываюць ручнікі. У пакой заходзіць м а ц і і звяртаецца да бабулі.

М а ц і. Трэба думаць, мама, ці пара ўжо запасваць нашу скацінку.

Б а б у л я *(разважае)*. Ну, у панядзелак і ў пятніцу нельга. Яшчэ бацька мой казаў — дні нешчаслівыя. *(Праз хвіліну.)* Але трэба паглядзець і квадру месяца.

М а ц і. То мо, трэба пачынаць у дні, якія набліжаюцца да поўні?

Б а б у л я. Во, каб усё было поўна. Але трэба запасваць перад полуднем.

М а ц і *(глядзіць каляндар)*. Так, паглядзім, калі Юр'я. Во, выпадае на 17 тыдні ад Каляд.

Яны сядзяць, бабуля напявае веснавую песню.

**Песня «Вісна, хадзі ў двору»**

♪ = 144

1. Віс- на, ха-дзі у дво-ру, Віс - на, ха - дзі у дво - ру.

2. Ня-сі ключ за са - бо-ю, Ня-сі ключ за са - бо - ю.

Мажэйка З. Я. Песні Беларускага Паазер'я. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981. — С. 87. (Зап. у 1973 г. у в. Руткоўшчына Горацкага раёна Магілёўскай вобласці ад П. С. Ануфрыевай 1898 г. н. АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 73.)

Вісна, хадзі у двору,[1]
Нясі ключ за сабою.
Зіму замыкаці,
Вясну адмыкаці.
Зіму ў замочак,
Вясну ў чаўночак.

Б а б у л я *(узгадваючы)*. Але, памятаю, раней зімы былі карацейшыя, чым цяпер.

М а ц і. Я малая была, таксама памятаю. Цяпер не тое.

Б а б у л я. Думаю, трэба і па прыкметах глядзець.

Да размовы далучаецца ўнучка.

[1] Кожны радок паўтараецца.



У н у ч к а. А па якіх гэта прыкметах, бабулечка?

Б а б у л я *(да ўнучкі)*. А па розных, унучачка. Вось, б'ецца посуд у хаце.

У н у ч к а. То што, бабуля? Прыкмета?

Б а б у л я. То будзе блага.

М а ц і. Або пагасне агонь у загнеце.

Б а б у л я *(смяецца)*. Калі курыца заспявае па-петушынаму.

У н у ч к а. Ай, так не бывае, жартуеш, як заўсёды.

М а ц і. Прадзед у прамежак паміж Юр'ем і Міколам нават агароджы не выпраўляў.

У н у ч к а. А калі трэба?

Б а б у л я. Інакш развядуцца ваўкі.

М а ц і. А ў нас, дачушачка, і конікі, і кароўкі.

Б а б у л я. І асновы для кросен нельга рабіць у гэты час, і агню з печы не пазычаць у гэты дзень.

М а ц і. І на надвор'е трэба ўважліва паглядзець.

Б а б у л я. Так, вось, калі соль адсырэе ў хаце — можа быць дождж.

М а ц і. Твой дзед, дачушачка, шмат ведаў. З хутароў да яго прыходзілі.

Б а б у л я. Даўней, унучка, яшчэ надта баяліся чараўнікоў.

У н у ч к а. Якіх?

М а ц і. Што чаруюць.

Б а б у л я. Ну, не дарма ж людзі кажуць: «Бога хвалі, але і Ліхога не гняві, бо Ліхое і Бога перамагае. Бывае».

М а ц і. Чараўніка стараліся ўсёй грамадой задобрыць.

У н у ч к а. Чаму? Ён жа чаруе.

М а ц і. Каб не шкодзіў.

Б а б у л я. Чула, што даўным-даўно вадзілі па нашым хутары мядзведзя.

М а ц і. І, відаць, карысталіся поўсцю?

Б а б у л я. Так, прапанавалі паскубсці мішку. І гэтай поўсцю аберагаліся.

М а ц і. А яшчэ, бывае, гоняць статак да хаты позна-позна, у цемень. Каб ніхто не бачыў.

У н у ч к а. А як мая кароўка дарожку знойдзе?

Б а б у л я. Знойдзе, гэта ўсё рабілася, каб нячыстая сіла не разгледзела жывёлінку.

М а ц і. Чырвоныя стужачкі ўплталі ў грывы, аберагалі скацінку ўсяляк.

Б а б у л я. А яшчэ кожны пастух раней павінен быў абавязкова насіць з сабой кусок палатна.

М а ц і. Вытканы роднымі.

Б а б у л я. І, галоўнае, даглядаць каровак, конікаў.

М а ц і. Каб яны былі сытыя. Сам не з'еш, а скацінцы дай, бо яно нямое.

У н у ч к а. І не папросіць? Ніколі?

М а ц і. Так.

Б а б у л я. А як ляжыць і ўздыхае, то гэта яно Богу моліцца і дзякуе, што жыве.

М а ц і. Што ж, дачушачка, сёння трэба рана легчы спаць.

У н у ч к а. Не хачу, чаму рана?

Б а б у л я. Каб першай убачыць святога Юр'ю. *(Бярэ яе за руку.)* Пойдзем, я табе казачку раскажу.

Яны выходзяць з пакою, а маці чытае замову.

М а ц і *(ціха)*. Госпаду Богу і ўсім святым памалюся. Усе зверы збірайцеся, я вам зубы замкну жалезнымі замкамі, залатымі ключамі. Залатыя ключы ў мора занясу і ў мора апушчу, чур, чур! Амінь.

Пасля замовы яна выходзіць з пакоя. У гэты час паступова цямнее. Фонам ціха гучыць пастухоўскі найгрыш.

### Найгрыш




Выкарыстана мелодыя песні «Ой, вісна красна». Мажэйка З. Я. Песні Беларускага Паазер'я. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981. — С. 88. (Зап. у 1975 г. у в. Навасёлкі Талачынскага раёна Віцебскай вобласці ад М. П. Анікові ч 1909 г. н., А. Ф. Краўцовай 1920 г. н. АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 75.)

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Дзеючыя асобы

1-я д з я ў ч ы н а.
2-я д з я ў ч ы н а.
3-я д з я ў ч ы н а.
4-я д з я ў ч ы н а.



5-я д з я ў ч ы н а.
6-я д з я ў ч ы н а.

Луг. Устае сонца. Чуецца птушыны спеў. Дзяўчаты сустракаюць сваіх сябровак.

### Песня «Юр'я, устань рана»




Мажэйка З. Я. Песні Беларускага Паазер'я. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981. — С. 85. (Зап. у 1974 г. у в. Дуброва Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ад П. П. Лысёнак 1910 г. н., Ф. Ю. Нямірскай 1905 г. н., Ф. П. Нямірскай 1915 г. н. АФК, ф. 10, воп. 11, спр. 74.)

Юр'я, устань рана,
Устань рана, Юр'я!

Юр'я, умыйся бела,
Умыйся бела, Юр'я!

Юр'я, ідзі ў поля,
Ідзі ў поля, Юр'я!

Юр'я, вазьмі ключы,
Залатыя, Юр'я!

Юр'я, адамкні зямлю,
Адамкні зямлю, Юр'я!

1-я д з я ў ч ы н а. А вы куды?

3-я д з я ў ч ы н а. А хто рана ўстане, той убачыць святога Юр'ю на белым кані.

2-я д з я ў ч ы н а. І што, бачылі?

4-я д з я ў ч ы н а. Не. *(Смяюцца.)*

5-я д з я ў ч ы н а. А мы ідзём калаціць росу.

3-я д з я ў ч ы н а. Ну, і як гэта?

1-я д з я ў ч ы н а. А будзем бегаць босыя па жыце.

4-я д з я ў ч ы н а. Бабуля казала, што яны ў маладосці так рабілі.

6-я д з я ў ч ы н а. А яшчэ бралі з сабой ежу і пітво.

2-я д з я ў ч ы н а. А нашто бегалі?

5-я д з я ў ч ы н а. Эх ты, каб быць здаровымі.

6-я д з я ў ч ы н а. Вось як.

4-я д з я ў ч ы н а. Так яшчэ ахоўваліся ад русалак.

1-я д з я ў ч ы н а. Кінь ты!

4-я д з я ў ч ы н а. Не толькі бегалі, але і качаліся па траве.

6-я д з я ў ч ы н а. А бабуля гаварыла, што даўней кожная дзяўчына з іх вёскі выбірала сабе сяброўку на ўвесь год.

1-я д з я ў ч ы н а. Нашто выбіраць? Мы і так сяброўкі.

2-я д з я ў ч ы н а. А яшчэ яны абменьваліся хусткамі ці паясамі і гаварылі: «Мы з ёю паюрыліся».

3-я д з я ў ч ы н а. Давайце і мы «паюрымся».

Дзяўчаты пяюць песню, танцуюць. У гэты час яны абменьваюцца хусткамі або паясамі.

**Песня «У чыстым полі пад яваром»**




Мажэйка З. Я. Песні Беларускага Паазер'я. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981. — С. 83. (Зап. у 1971 г. у в. Аношкі Лепельскага раёна Віцебскай вобласці ад А. І. Крывец 1910 г. н., С. І. Гарбачовай 1904 г. н., З. П. Прускай 1910 г. н., Т. Ф. Прускай 1911 г. н. АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 71.)

У чыстым полі пад яваром
Разгуляўся Юр'іў конь.

Разуляўся Юр'іў конь,
Хвастом мора раскалыхаў.

Хвастом мора раскалыхаў,
Капытом камінь разбіваў.

2-я д з я ў ч ы н а. Я чула, што ў суседняй вёсцы на Юр'ю выбіраюць прыгожую дзяўчыну.

3-я д з я ў ч ы н а. У нас усе прыгожыя. Цяжка было б выбраць.

2-я д з я ў ч ы н а. Слухай, яе садзяць на лаву, спяваюць песні, а яна ўсіх частуе сырам, маслам, хлебам.

4-я д з я ў ч ы н а. А мы лепш сёння пастушкоў пачастуем.

2-я д з я ў ч ы н а. А дзе яны збіраюцца?

5-я д з я ў ч ы н а. Ля хаты дзядзькі Казіміра.

1-я д з я ў ч ы н а. Добра, і мы падыдзем. *(Чуюцца галасы птушак.)*



2-я д з я ў ч ы н а *(узіраючыся ў неба)*. Ведаеце, дзевачкі, што раней за ўсіх з птушак у нас з'яўляюцца жаваранкі?

4-я д з я ў ч ы н а. Чаму? Здаецца, вераб'і. *(Смяюцца.)*

2-я д з я ў ч ы н а. А таму, што яны не адлятаюць на зімоўку.

3-я д з я ў ч ы н а. А дзе зімуюць?

4-я д з я ў ч ы н а. А пад каменем.

1-я д з я ў ч ы н а. Ай, ідзі ты! Зноў маніш?

5-я д з я ў ч ы н а. І ластаўкі не адлятаюць.

3-я д з я ў ч ы н а. Маніш. Ніводнай не бачыла зімою.

1-я д з я ў ч ы н а. Яны заміраюць на дне ракі, ля берага.

6-я д з я ў ч ы н а. Байкі!

1-я д з я ў ч ы н а. Байкі? Але кажуць, рыбаловы выцягвалі іх такое мноства, што невад рваўся.

5-я д з я ў ч ы н а. Так, гэта такая ж байка, як зязюля не мае самца і заляцаецца да пеўня. *(Дзяўчаты смяюцца.)*

3-я д з я ў ч ы н а. А я ведаю, што зязюлька адзін раз куе на Юр'я.

Дзяўчаты пяюць песню, у якой узгадваецца зязюлька.

**Песня «Кукуй, зязюля шарэнькая»**




Мажэйка З. Я. Песні Беларускага Паазер'я. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981. — С. 148. (Зап. у 1971 г. у в. Аношкі Лепельскага раёна Віцебскай вобласці ад А. І. Крывец 1910 г. н., С. І. Гарбачовай 1904 г. н., Т. Ф. Прускай 1911 г. н. АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 71.)

Кукуй, зязюля шарэнькая,[1]
Твая праўданька шчырэнькая.

[1] Кожны радок паўтараецца.

Ты кукавала, праўду казала:
— Не йдзіце, дзеўкі, за старога,
А йдзіце, дзеўкі, за маладога.
А ў старога дзяцей многа,
А дзеці плачуць — есці хочуць.
А ў маладога коней многа,
А коні ірзуць — гуляць хочуць.

1-я д з я ў ч ы н а. Ляціце, ляціце, птушкі веснавыя.
2-я д з я ў ч ы н а. Нясіце ключы залатыя.
4-я д з я ў ч ы н а. Адмыкайце зямліцу.
5-я д з я ў ч ы н а. Выпускайце расіцу.
6-я д з я ў ч ы н а. Бо Юр'ева раса ад сурокі, ад сямі хвароб.

Зноў пяюць веснавую песню і водзяць карагод.

### Песня «Юр'я на дварочку»




Мажэйка З. Я. Песні Беларускага Паазер'я. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981. — С. 127. (Зап. у 1973 г. у в. Бікложы Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці ад В. А. Кухто 1905 г. н., Н. М. Жыгун 1912 г. н., М. М. Валуй 1914 г. н., В. П. Санько 1918 г. н., Г. С. Рысляк 1903 г. н. АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 73.)

Юр'я на дварочку,[1]
Усе дзеўкі ў таночку.
Аднэй Розы нету.
Маці Розу чэшаць,
Чэшаць, навучаіць:
— А стой, Роза, строжа,
Не стой з Кузьмой поплеч.
Кузьма дагадаўся,
Па-дзявоцку прыбраўся.
Роза не ўвазнала,
Поплеч з Кузьмой стала.
Схваціў Кузьма Розу
На белую ложу.

[1] Кожны радок паўтараецца.



6-я д з я ў ч ы н а. Не плач, трава.
5-я д з я ў ч ы н а. Не рыдай, шаўкова.
3-я д з я ў ч ы н а. Што мы цябе яшчэ трохі патопчам.
4-я д з я ў ч ы н а. А як напусціць на цябе Бог дажджы гайныя і росы сільныя, то адрасцеш ты, трава.
2-я д з я ў ч ы н а. Будзеш высока, зелена.

Пасля танцаў здалёк чуюцца пастухоўскія найгрышы на духавых народных інструментах (дуда, сурма, жалейкі).

### Найгрыш




Выкарыстана мелодыя песні «У Кузьмовам дварочку». Мажэйка З. Я. Песні Беларускага Паазер'я. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981. — С. 126. (Зап. у 1972 г. у в. Шпакоўшчына Полацкага раёна Віцебскай вобласці ад Д. Ф. Цялушкі 1908 г. н., М. П. Прышчапёнак 1916 г. н. АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 72.)

1-я д з я ў ч ы н а. Дай божа на травіцу расіцу.
2-я д з я ў ч ы н а. На быдлейка — пастушка.
3-я д з я ў ч ы н а. А на пастушка — свістушка.
4-я д з я ў ч ы н а. Святы Юрый, пастыр Гасподні, вазьмі залатыя трубы.
5-я д з я ў ч ы н а. Зайграй і пакліч ваўкоў і ваўчыц.
1-я д з я ў ч ы н а. Замкні ім губы і зубы.
3-я д з я ў ч ы н а. А пастушкі няхай калёнай сцяной загародзяць нашых каровак.

Д з я ў ч а т ы сыходзяць са сцэны. Музыка чуецца ўсё мацней, і на сцэну выходзіць п а с т у х о ў с к і г у р т. Хлопцы ўдала іграюць на інструментах, некаторыя танцуюць.

### Найгрыш




Выкарыстана мелодыя песні «Арол — Бож'я пціца». Мажэйка З. Я. Песні Беларускага Паазер'я. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981. — С. 128. (Зап. у 1974 г. у г. п. Шуміліна Віцебскай вобласці ад Т. Я. Волкавай 1909 г. н., М. Я. Болавай 1914 г. н., Е. В. Градоўкінай 1907 г. н., К. Л. Алісевіч 1908 г. н. АІМЭФ, ф. 2, воп. 11, спр. 74.)

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### Дзеючыя асобы

Д з я д з ь к а К а з і м і р.
Ц ё т к а К а ц я р ы н а.

Пастухоўскі гурт:
Д з е д Т а м а ш.
1-ы х л о п е ц.
2-і х л о п е ц.
3-і х л о п е ц.
4-ы х л о п е ц.
5-ы х л о п е ц.
6-ы х л о п е ц.

1-я д з я ў ч ы н а.
2-я д з я ў ч ы н а.
3-я д з я ў ч ы н а.
4-я д з я ў ч ы н а.
5-я д з я ў ч ы н а.
6-я д з я ў ч ы н а.

Падворак Казіміра і Кацярыны. На ім — пастухоўскі гурт. Д з я ў ч а т ы жартуюць з х л о п ц а м і.

1-я д з я ў ч ы н а. Дзе ж вы, хлопцы, валачыліся?
2-я д з я ў ч ы н а. Дзе так умачыліся?
1-ы х л о п е ц. А па палях, па росах ходзячы.
2-і х л о п е ц. Лапці топчачы.
3-я д з я ў ч ы н а. Бо лапці і аборы — гэта якраз вашы прыборы.
3-і х л о п е ц *(перадражніваючы)*. А сукні і саболі — дзявоцкія прыборы.

Пакуль хлопцы жартуюць з дзяўчатамі, на падворак выходзяць г а с п а д а р ы і да іх падыходзіць д з е д Т а м а ш.

Т а м а ш. Добры дзень, гаспадарочкі. Сёння Юрай Бога клікаў, каб падаў яму Бог ключыкі зямліцу адамкнуці.

Гаспадыня быццам бы і не чуе, што гаворыць Тамаш.

К а ц я р ы н а. Ой, і што тут сёння на нашым падворку?
Т а м а ш *(пастушкам)*. О, як наймалі, сала давалі, а як нанялі, то і хлеба не далі.



К а з і м і р *(жонцы)*. Што ты, Кацярынка, гэта ж нас з Юр’ем віншуюць. Так што, родная, скавародачку ў печ, а сама па яечкі ў клець.

Г а с п а д ы н я ідзе ў хату за дарамі, хлопцы іграюць, дзяўчаты танцуюць вакол гаспадара.

**Песня «Ой ты, каваль, каваль, каваленьку»**

𝅗𝅥 = 84
Сола
Хор
Ой ты, ка - валь, ка - валь, ка - ва - лень - ку,
Ча - му ку - еш ці - ха, па - ма - лень - ку?

Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 297. (Зап. У. Раговіч у 1987 г. у в. Мелкавічы Салігорскага раёна Мінскай вобласці ад Н. С. Тройніч 1918 г. н., Л. І. Герасіменкі 1928 г. н., М. В. Тройніч 1937 г. н. Натацыя напеву У. Раговіча.)

— Ой ты, каваль, каваль, каваленьку,
Чаму куеш ціха, памаленьку?

Ці ў цябе сталі не хватае,
Ці ты сабе дзяўчыны не маеш?

— Ой, нашто ж мне тая дзяўчына,
Ёсць у мяне душа-Кацярына.

Некалькі дзяўчат жартуюць з хлопцамі.

4-я д з я ў ч ы н а. Ой, дзевачкі, давайце дамо вось гэтаму хлапчуку канапель.
5-я д з я ў ч ы н а. Ага! Хай лушчыць, як верабей.
6-я д з я ў ч ы н а. А таму, што скача ўсіх вышэй?
5-я д з я ў ч ы н а. Як белка?
6-я д з я ў ч ы н а. Нічога.
4-я д з я ў ч ы н а. Хай галосіць, як дзеўка. *(Смяюцца.)*

4-ы хлопец *(падыходзіць да дзяўчат)*. Ой, слаўнае наша сяло, Манастырскае! У ім дзевачкі харошыя *(хоча прыабняць адну, але тая адварочваецца)* і вулачкі шырокія.

5-ы хлопец. У іх галоўкі, як макаўкі. *(Зрывае хустку з галавы адной дзяўчыны і ўцякае, тая даганяе яго.)*

6-ы хлопец. А яны шчабечуць, як ластаўкі.

Выходзіць гаспадыня, выносіць дары.

Кацярына. Вось вам, пастушкі. *(Дае дары.)* Вялікую справу пачынаеце. Дамо вам яшчэ і грошай, і вось гэты кусок сала. *(Накрывае ручніком.)*

Тамаш *(пастушкам)*. Глядзіце, хлопцы, як пільнуе гаспадарку, то ёсць у гаршку і скварка. Дзякуй.

Казімір. А вам, хлопцы, яец карабец.

3-я дзяўчына *(гаспадыні)*. Ой, цётачка, вясёлыя ў гэтым годзе хлопцы да вас прыйшлі, дайце ім ваш смачны сыр на талерку.

Тамаш. Не пашкадуйце і старому, бо якая скібка, такая і сілка.

Пакуль гаспадары частуюць Тамаша, дзяўчаты пачынаюць абліваць пастушкоў вадой.

1-ы хлопец. Ой, нашто вы, дзевачкі?

3-і хлопец. От шкада, што сёння нельга насіць пугу, а то ўрэзаў бы каторай.

4-я дзяўчына. А каб не спалі на полі.

5-я дзяўчына. А то згубіце што. *(Усе смяюцца.)*

Тамаш. Не хвалюйцеся, дзяўчаты, спаць не будуць, бо я сёння слаўцо загавару.

Казімір. Просім, просім.

Усе ўважліва слухаюць. Тамаш выходзіць наперад.

Тамаш *(перахрысціўшыся)*. Святы Юрый-Ягорый, сабірай дзікіх звяроў і загані іх за сцяну камяную. Замкні ім зявы і раты на ўсё лета. Амінь.

Казімір. Няхай нашаму статку не будзе ўпадку.

Кацярына. Ні ад мядзведзя, ні ад ваўка.

Казімір. Ні ад гада бягучага.

Кацярына. Ні ад змея лятучага.

Тамаш. Памагай, Божа.

Пачынаецца пастухоўскае шэсце: першымі ідуць пастушкі з дарамі, замыкае шэсце Тамаш. Гучаць пастухоўскія найгрышы. Тамаш размаўляе з хлопцамі.



**Найгрыш**

Умерана 𝅗𝅥 = 88



Выкарыстана мелодыя песні «Зялёны дубочак на бор пахіліўся». Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 307. (Зап. У. Раговіч у 1987 г. у в. Мелкавічы Салігорскага раёна Мінскай вобласці ад Н. С. Тройніч 1918 г. н., Л. І. Герасіменкі 1928 г. н., М. В. Тройніч 1937 г. н. Натацыя напеву У. Раговіча.)

Тамаш. Хлопцы, а хто ведае, чаму пастух пугу носіць? *(Хлопцы маўчаць, думаюць.)*

Тамаш. Бо сама не ходзіць. *(Смяюцца.)*

Тамаш. І яшчэ, хлопцы, Казімір і Кацярына — добрыя гаспадары. Так што, дзе любяць — бывайце рэдка, а дзе не любяць — ніколі.

Шэсце сыходзіць са сцэны, знікаюць і дзяўчаты. Гаспадары застаюцца адны.

Казімір. От, і пачалося свята.

Кацярына. Пайшла наша скацінка ў поле.

Казімір. Ешце, кароўкі, травіцу.

Кацярына. Піце, конікі, вадзіцу.

Казімір. А Божанька дапаможа.

Гаспадары таксама сыходзяць са сцэны.

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

### Дзеючыя асобы

Пастухоўскі гурт:

Дзед Тамаш.
1-ы хлопец.
2-і хлопец.
3-і хлопец.
4-ы хлопец.

5-ы хлопец.
6-ы хлопец.

Пастухоўскі гурт прыходзіць на паляну. Хлопцы ладзяць яечню. Тамаш вызначае, каму кім быць, расстаўляе ўсіх, частуе.

Тамаш. Заяц, ці горка асіна?
1-ы хлопец. Горка.
Тамаш. Дай божа, каб і наша скацінка для звяроў была горка. *(Падыходзіць да другога.)*
Тамаш. Сляпы, ці бачыш ты мяне?
2-і хлопец. Не, не бачу.
Тамаш. Дай божа, каб нашу скацінку не бачыла звярынка. *(Падыходзіць да наступнага і зноў пытае.)*
Тамаш. Кульгавы, ці дойдзеш ты?
3-і хлопец. Не, не дайду.
Тамаш. Дай божа, каб звярынка не дайшла да нашай скацінкі. *(Падыходзіць да наступнага.)*
Тамаш. Замок, ці размыкаешся ты?
4-ы хлопец. Не.
Тамаш. Дай божа, каб у звера не разамкнуліся зубы. *(Падыходзіць да наступнага.)*
Тамаш. Калода, ці павернешся ты?
5-ы хлопец. Не.
Тамаш. Дай божа, каб і звер не павярнуўся да нашай скацінкі. *(Падыходзіць да наступнага.)*
Тамаш. Асіна, ці гнілая ты?
6-ы хлопец. Гнілая.
Тамаш. Няхай жа ў ваўкоў зубы будуць гнілыя. *(Падыходзіць зноў да першага.)*
Тамаш. Зязюля, ці ты прыкукуеш?
1-ы хлопец. Прыкукую.
Тамаш. Прыкукуй нашу скацінку, каб яна не разбягалася.

Пасля гэтай гульні пастушкі спяваюць або танцуюць пад музыку. Потым з'ядаюць яечню і падкідваюць лыжкі ўгору.

**Песня «Каліна, возерная зялёная, каліна!»**

Скора, але спакойна ♩ = 132






Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 63. (Зап. В. Ліцвінка ў 1988 г. у в. Гайна Лагойскага раёна Мінскай вобласці ад І. Г. Крывіцкай 1896 г. н. Натацыя напеву У. Раговіча.)

Каліна, возерная зялёная, каліна![1]
Свякроўка мая шалёная,
Загадала мне ў нядзельку рабіць,
У нядзельку рабіць, адзёжку жлукціць,
Адзёжку жлукціць, на моры вяліць.
— Я ні татарка ў нядзелю рабіць,
У нядзелю рабіць, адзёжку жлукціць,
Я ні качачка па моры плаваць.

Тамаш. Каб наша скацінка так высока ўгору скакала.
1-ы хлопец. Дзядуля, а што вы рабілі ў пастухах у маладосці?
Тамаш. І спявалі і гулялі.

Чуецца голас зязюлі.

Тамаш. О, ведаеце, хлопчыкі, зязюля да нас прылятае з выраю апошняя, а адлятае першая.
2-і хлопец. Хітрая, я чуў, што яна жыве 20 год.
Тамаш. Не ведаю, я ёй не кукаваў. *(Зноў усе смяюцца.)*
3-і хлопец. Кажуць, зязюля з чортам знаецца?
Тамаш. Хто знае, але я ведаю, што зязюля першы раз кукуе, як у царкве спяваюць першы раз «Хрыстос уваскрэс».
4-ы хлопец. Аднойчы мяне ляснік з фальварка навучаў: «Калі хочаш, каб зязюля больш накукавала, трэба дрэва, на якім яна сядзіць, перавязаць поясам».
5-ы хлопец. Ага, ідзі шукай тое дрэва.
6-ы хлопец. Яшчэ і заблудзіш.
Тамаш. Кукуй, зязюлька, да Яна, бо па Яне не будзеш. Выспее ячменны каласок, завяжа зязюльцы галасок.

Хлопцы пачынаюць іграць на музычных інструментах, усё гэта пераходзіць у спаборніцтва. Пасля гэтага зноў сядаюць вакол Тамаша.

---

[1] Прыпеў «Каліна» абрамляе кожны радок.

**Найгрыш**




Выкарыстана мелодыя песні «Юрай, падай ключы!». Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 42. (Зап. В. Трайкоўская ў 1988 г. у в. Варанцы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці ад В. П. Лапцік 1909 г. н. Натацыя напеву У. Раговіча.)

Т а м а ш. Слухайце ўважліва навокал, хлопцы. Бо ўсё размаўляе паміж сабой, нават расліны. І ёсць такія людзі, што разумеюць іх гаворку.

2-і х л о п е ц. А ты, дзядуля, разумееш?

Т а м а ш *(хітра ўсміхаецца)*. Трошкі магу, бо ведаю, якая сіла ў якой кветцы. І ў даўнія часы шмат было такіх людзей, а цяпер то вельмі мала.

2-і х л о п е ц. А нас навучыш?

Т а м а ш. Чаму не.

1-ы х л о п е ц. А вось наготкі заўсёды раслі ў маёй бабулі на гародзе.

2-і х л о п е ц. І што?

1-ы х л о п е ц. Яна размаўляла з імі, гаварыла, што яны не дапускаюць перуноў і перад бурай сярод кветак з'яўляюцца агеньчыкі-бліскавіцы.

3-і х л о п е ц. Вось бы пабачыць, можа, чары якія?

Т а м а ш. Не, але кожны месяц два дні перад маладзіком і два дні пасля яго — дні чараўнікоў.

4-ы х л о п е ц. А што яны рабілі?

Т а м а ш. Псоту. Лічыцца, нячыстая сіла можа шкодзіць коням толькі ў гэту ноч.

5-ы х л о п е ц. Дзядуля, а што рабілі, калі кароўка не вярталася з пашы нанач?

Т а м а ш. Маліліся святому Юрыю, а, бывала, тая прыходзіла зранку стомленая, то старыя людзі гаварылі, што яе нячысты мучыў.

6-ы х л о п е ц. А былі засцярогі?

Т а м а ш. Былі. У першы дзень пастухі перакідвалі праз увесь статак сякеркі «крыж-накрыж» або закопвалі ў варотах замок, бязмен.

1-ы х л о п е ц. А я ведаю, што конь не падыдзе да таго чалавека, на якога навялі псоту.

Т а м а ш. Так.

1-ы х л о п е ц. І наш сусед пасадзіў ля хаты каліну і казаў, што гэтае дрэва адводзіць дурное вока.



2-і х л о п е ц. Дзядуля, а калі ачаруюць коніка?

Т а м а ш. То проста, вазьмі падкову, пакладзі ў гаршчок і вары.

2-і х л о п е ц. І што будзе?

Т а м а ш. Як пячэ кіпень, так будзе пячы ў грудзях чараўніка.

3-і х л о п е ц. І хвароба адступіць?

Т а м а ш. Так. Юрый, засцерагальнік наш, вясною закрывае зяпы ваўкам, а восенню адмыкае, і яны тады ходзяць зграямі.

Пастушкі зноў сядзяць, моўчкі глядзяць на вогнішча, нешта наігрываюць на інструментах.

**Найгрыш**




Выкарыстана мелодыя песні «Жана мужа прадала». Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 387. (Зап. А. Празецкая ў 1988 г. у в. Павуссе Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці ад Т. Л. Гарэлік 1906 г. н. Натацыя напеву У. Раговіча.)

Т а м а ш. Хлопцы, каторы конь суджаны ваўку, то ў яго на баках і паміж ног... *(Смяецца.)*

2-і х л о п е ц. Што?

Т а м а ш. Ёсць сівая шэрсць, воўчая. І не станавіцеся на тое месца, дзе качаўся конь.

3-і х л о п е ц. Чаму?

Т а м а ш. Таму што галава будзе балець.

4-ы х л о п е ц. А я бачыў, як абкурвалі кароўку.

Т а м а ш. І бацька мой так рабіў, абкурваў з усіх бакоў і казаў, што яго дзед падразаў коням канцы вушэй.

5-ы х л о п е ц. Ага, да самага хваста. *(Пастушкі зноў смяюцца.)*

Т а м а ш. Яшчэ глядзелі, калі ў жарабяці хвост дарос да каленяў, дык воўк ужо не зловіць яго.

3-і х л о п е ц. Давайце, дзеду, вогнішча больш распалім, цямнее ўжо.

Хлопцы рыхтуюць вогнішча, а дзед працягвае сваю пастухоўскую «навуку».

Т а м а ш. Закон наш першы — не разбураць пастухоўскага вогнішча без асаблівай неабходнасці, інакш конікі, кароўкі могуць разыходзіцца і знікаць.

2-і х л о п е ц. Не гані каня дубцом, а гані аўсом.

4-ы х л о п е ц. Кармі каня не пугай, а сенам з луга.

Т а м а ш. Так, і нельга біць жывёлку, асабліва сухой палкай, бо пабіты пачне сохнуць і зробіцца сухі, як тая палка. Слухайце, хлопцы, байку. Аднойчы чорт зляпіў з гліны ваўка. Ідзе Бог, а чорт кажа: «Кусі, кусі, воўк яго, кусі!» Але гліняны воўк не крануўся з месца. Тады Бог цюкнуў на чорта: «Кусі, кусі чорта, воўк!» І воўк ухапіў чорта за нагу.

5-ы х л о п е ц. Так яму, так!

Т а м а ш. Ратуючыся, чорт залез на першае дрэва.

6-ы х л о п е ц. Якое першае?

Т а м а ш. Асіна, таму яна горкая.

6-ы х л о п е ц. Відаць, ад смаку чортавай крыві.

Т а м а ш. І самае галоўнае *(усе ўважліва слухаюць)*, калі пастушок — навічок, то старэйшы пастух павінен адлупцаваць ці пабіць яго.

1-ы х л о п е ц. Яшчэ чаго?

2-і х л о п е ц. І я не хачу.

3-і х л о п е ц *(устае)*. Уцячом!

Т а м а ш. А лічыцца, што пасля гэтага пастушок не будзе баяцца ваўкоў.

4-ы х л о п е ц. А хто іх баіцца? *(Іншыя азіраюцца.)*

Т а м а ш. Добра, жартую. Лепш яшчэ паслухайце. Аднаго разу святы Юрый забіў вялізнага змея. Бог паклікаў яго і кажа: «Калі ты пабароў такое страшэннае ўродзішча, дык я цябе пастаўлю начальнікам над ваўкамі. Бо яны, чортава тварэнне, так рассваволіліся, а мне за імі некалі наглядаць». Вось з таго часу і лічыцца Юр'я апекуном жывёлы.

3-і х л о п е ц. А я чуў, што, як бяжыць воўк і мае раззяўленае горла, то яго не трэба баяцца, бо на ім едзе святы Юр'я.

Т а м а ш. Ёсць і простыя засцярогі: кладуць пояс, каб скацінка не адыходзіла далёка, або патэльню.

4-ы х л о п е ц. Нашто, дзеду?

Т а м а ш. Дык жалеза не ўкусіш. І ножык сёння вастрыць нельга.

2-і х л о п е ц. Зноў нельга.

Т а м а ш. Гэта значыць — вастрыць ваўку зубы.

6-ы х л о п е ц. Хіба ўсё запомніш?

Т а м а ш. Чаму не, маладыя галавы. І на камень не сядайце.

5-ы х л о п е ц. То што, ноч стаяць?

Т а м а ш. Чаму, трэба адпачываць на пні, на калодзе.

5-ы х л о п е ц. А на камяні чаму нельга?



Т а м а ш. Інакш закамянее прыплод у скаціны.

Некаторыя пастушкі стаміліся і паснулі, але дзед не звяртае на гэта асаблівай увагі.

Т а м а ш. Можаце адпачываць лежачы бокам, нічком. *(Працягвае.)* А яшчэ маладыя пастухі павінны штодня выразаць свежы дубец.

1-ы х л о п е ц. А як шкада нішчыць усё жывое!

Т а м а ш. Тады кладзі дубец у ваду.

Нагуляўшыся, нагаварыўшыся ўволю, пастушкі засынаюць вакол дзеда.

Т а м а ш *(сядзіць, глядзіць на вогнішча і гаворыць сам з сабою)*. Вось так вясною травіца кажа кароўкам: «Ешце мяне, ешце, потым ідзіце дамоў, а калі заўтра раненька прыйдзеце, дык я больш падрасту». А ўвосень кажа: «Ешце, ешце, адпачніце і зноў ежце, бо заўтра мяне можа і не быць».

Т а м а ш *(устае, аглядае хлопцаў, што паснулі)*. Эх, вялікія вы мае пастухі. *(Чытае замову.)* Святы Юрай, закрыў ты неба зёздамі, зямлю — травой, дрэва — ліствою, рыбу — лускою, закрый нашу скацінку рызай сваёй. Любі мой дух. *(Выдых.)* Хух. Хух.

Пачынае днець.

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

### Дзеючыя асобы

К а з і м і р.
К а ц я р ы н а.
Х л о п ц ы.
Д з я ў ч а т ы.

Зноў падворак Казіміра і Кацярыны. Ранак. Абое на двары.

К а з і м і р *(кладзе сякеру на зямлю)*. Як сякеры ў печы не ляжаці, так шэраму зверу скацінкі не відаці. *(Потым кладзе пілу на зямлю і працягвае.)* З утрашняю зарою загаварваю скацінку, чорную шарсцінку. Як гэту пілу нікому не ўзняць і адгэтуль не падняць, так маю скацінку вачамі нікому не браць. *(Потым бярэ замок, кладзе на зямлю.)* Усе зверы збірайцеся, я замок замкну, а ключ знясу на кіян-мора, пад Латыр-камень. Маім словам ключ і замок. Амінь.

Недалёка ад гаспадара стаіць К а ц я р ы н а, таксама чытае замовы. Тэксты і дзеянні могуць адбывацца адначасова.

К а ц я р ы н а *(трымае яйка)*. Як гэта яйка цэленькае і кругленькае, так каб і мая скацінка была сытая, поўная і круглая. *(Бярэ ў рукі сухі мак, дзядоўнік, крапіву.)* Дай жа, Божа, ад чар і ведзьмаў, людзям — на здароўе, а ворагам — на безгалоўе.

Да яе падыходзіць Казімір, які ў адной руце трымае запаленую свечку, а ў другой — акраец хлеба на талерцы.

К а з і м і р. Стой, кароўка, у табуне, як агонь, у яме.

К а ц я р ы н а. А як печ стаіць на месцы, каб і скацінка хадзіла на месца.

Пасля гэтага яны ідуць у хату, па дарозе размаўляюць аб надвор'і.

К а з і м і р. А ці памятаеш, жоначка, як вясною вада прыбывала?

К а ц я р ы н а. Не. Дзе ж за працай усё ўбачыш.

К а з і м і р. А я памятаю — прыбывала. Добра — гарачае будзе лета.

К а ц я р ы н а. Калі сонца добра грэе — то колас добра спее, а дождж быў, памятаю.

К а з і м і р. Трошкі мокры май — то жыта будзе як гай і каровы будуць прыносіць поўнае вымя малака.

К а ц я р ы н а. Усяляк бывае. Як на Юр'ю пагода, то на грэчку няўрода. Усё ў Божых руках.

Чуецца музыка, на падворак прыходзяць д з я ў ч а т ы і х л о п ц ы. Д з е д Т а м а ш, як заўсёды, вясёлы, жартуе, загадвае загадкі.

**Найгрыш**






Выкарыстана мелодыя песні «Цераз гай, цераз гай, цераз Бандароўку». Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 415. (Зап. Г. Кутырова, Л. Замула ў 1987 г. у г. п. Бараўляны ад ураджэнкі в. Звіняты Барысаўскага раёна Мінскай вобласці Г. М. Ліцвіновай 1925 г. н.)



Т а м а ш. Слухайце, дзяўчаткі, загадаю вам загадку: закіну за градку, у адзін год пушчу, а ў другі выпушчу? *(Усе маўчаць, думаюць.)*

Т а м а ш *(смяецца)*. То ж азімае жыта. Паслухайце старога. Аднойчы Бог склікаў усю жывёлу пад вялікі дуб. Прыйшлі ўсе святыя, акрамя Юр'і. Бог прызначыў кожнаму асобную ежу. Д'ябал выпрасіў авёс, каб быць панам над конъмі. А Юр'ю дастаўся асот. Бог і кажа Юр'ю: «Адбярэш у д'ябла — твой авёс будзе». Сеў Юр'я каля пекла і чакае. Ідзе д'ябал і, каб не забыцца, пастаянна гаворыць: «Авёс, авёс, авёс». А тут Юр'я як выскачыць, як крыкне: «Асот!» Д'ябал спалохаўся, кажа: «Цьфу, а што я гаварыў?» Юр'я кажа: «Асот». І паспяшаў да Бога, дзе і быў прызначаны апекуном жывёлы.

З хаты выходзяць г а с п а д а р ы, вітаюцца з усімі. Кацярына трымае ў руках збанок. Хлопцы пытаюцца.

1-ы х л о п е ц. Што, цётка, што-небудзь смачнае?

1-я д з я ў ч ы н а. Зараз, ласыя на чужыя кілбасы.

2-і х л о п е ц. То што тут?

2-я д з я ў ч ы н а. От, нецярплівы.

К а ц я р ы н а *(аддае збанок дзяўчатам)*. Гэта парашок з касцей.

1-ы х л о п е ц. Чыіх?

1-я д з я ў ч ы н а *(жартуе)*. Можа, тваіх?

К а ц я р ы н а. Тут не жарты, дзеткі. Гэта попел з касцей, што засталіся з велікоднага стала.

2-і х л о п е ц. І куды яго?

2-я д з я ў ч ы н а *(жартуе)*. Есці. *(Усе смяюцца.)*

К а з і м і р. Будзем поле абсыпаць.

Т а м а ш. О, гэта надта ж даўні звычай.

К а ц я р ы н а. Цяпер больш запрашаюць свяшчэнніка.

3-і х л о п е ц. На поле?

К а ц я р ы н а. Так, спраўляюць малебен.

На падворку ўсе рыхтуюцца да шэсця на поле. Хлопцы іграюць, дзяўчаты пяюць. Г а с п а д а р ы ідуць у хату за караваем.

**Песня «Ду-ду-ду, ду-ду-ду!»**



Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 441. (Зап. Г. Кутырова ў 1987 г. у в. Мал. Гарадзяцічы Любанскага раёна Мінскай вобласці ад В. К. Цішкі 1913 г. н.)

Ду-ду-ду, ду-ду-ду!
Добра будзе на лугу
С сваім статкам пагуляць,
Краснай траўкі пашчыпаць.

Т а м а ш. Кажуць, у гэты дзень можна паслухаць, што гаворыць жыта.

3-я д з я ў ч ы н а. От, Тамаш, усё баіць.

5-я д з я ў ч ы н а. То раскажы як?

Т а м а ш. А прыпасці да зямлі вухам.

5-я д з я ў ч ы н а. Дзядуля, жартуеш хіба?

Т а м а ш. Не, не жартую. І паглядзець трэба, як каравай схаваецца ў жыце, то добры будзе ўраджай.

Гаспадары выносяць з хаты каравай, даюць дзяўчатам палатно. Гучаць пастухоўскія трубы. Пачынаецца шэсце. Першы ідзе Казімір, трымаючы на галаве каравай. За ім — Кацярына і дзяўчаты, што нясуць палатно. Замыкаюць шэсце Тамаш з пастушкамі. З песняй яны падыходзяць да поля. Дзяўчаты накрываюць усходы жыта палатном і пасыпаюць поле «парашком». Казімір ставіць каравай у жыта.

### Найгрыш




Выкарыстана мелодыя песні «Ох ты, дзедка мой». Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 440. (Зап. А. Хацяновіч, Ю. Навіцкая ў 1991 г. у в. Сервеч Вілейскага раёна Мінскай вобласці ад Т. В. Лыкі 1894 г. н.)

К а з і м і р. Добры дзень, ніва святая!

К а ц я р ы н а. З Святым Юр'ем цябе!



2-я д з я ў ч ы н а. Юрай, Божа пташачка, ляці на неба.

3-я д з я ў ч ы н а. Да самаго Бога.

4-я д з я ў ч ы н а. Няхай ён паглядзіць.

5-я д з я ў ч ы н а. Дзе наша Юр'я хадзіла.

К а ц я р ы н а. Дзе Юр'я хадзіла, там наша жыта ўрадзіла.

Усе спяваюць і танцуюць каля поля. Тамаш чытае замову.

### Песня «А ты, Юр'я, Мікола!»




Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 41. (Зап. С. Паўлоўскі ў 1988 г. у в. Запруддзе Валожынскага раёна Мінскай вобласці ад В. С. Лявіцкай 1915 г. н.)

А ты, Юр'я, Мікола,
Абыдзі жыта наўкола!
Юр'я кажа: каранiста,
Мікола кажа: каласіста!
Разгуляўся Юр'яў конь,
Разбіў гарэх капытом.
Ідзіце, дзевачкі, тушыце,
Рэшытам воду насіце.
Як у рэшаце вада ёсць,
Так у хлопчыкаў праўда ёсць.

Т а м а ш. Святое Благавешчанне, святое Хрышчэнне, Бацюшка-Цудатворац, Дух, Тройца, усе святыя, памажыце. Ісус Хрыстос, Багародзіца, святы Міхаіл-архангел, выратуйце нас ад бяды, ад усялякай хваробы. Станьце, Ангелы-ахоўнікі, сцяною ад нячыстай сілы, ліхіх людзей, варажбітаў і чараўніц, калдуноў і калдуніц. Абараніце. Будзьце словы нашыя моцныя і магутныя. Амінь.

Пасля гэтага дзяўчаты бяруць каравай і палатно. З песняй усе накіроўваюцца ў вёску.

**Песня «Ва лугах, ва лугах»**




Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 401. (Зап. М. Мыслівец у 1988 г. у в. Мал. Укропавічы Лагойскага раёна Мінскай вобласці ад К. С. Жызнеўскай 1911 г. н.)

Ва лугах, ва лугах,
Уж ва этых ва зеленых лугах
Ва этых ва зялёных лугах[1]

Вырастала, вырастала,
Вырастала трава шолкавая.

Расцвялі, расцвялі,
Расцвялі цвяты ўзорлівыя.

Ва лугах, ва лугах
Уж ва этых ва зялёных лугах.

З а с л о н а

**Літаратура**

1. *Аляхновіч, А. М.* і інш. Беларускі музычны фальклор. — Мінск: Універсітэцкае, 1996.

2. Беларуская міфалогія: дапаможнік / Склад. У. Васілевіч. — Мінск: Універсітэцкае, 2002.

3. Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995.

4. Беларускі фальклор: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / склад. К. П. Кабашнікаў і інш. — Мінск: Выш. шк., 1996.

5. Жыцця адвечны лад: Беларускія народныя прыкметы і павер'і / склад. У. Васілевіч. — Мінск: Маст. літ., 1998.

6. *Мажэйка, З. Я.* Песні Беларускага Паазер'я. — Мінск: Навука і тэхніка, 1981.

[1] Другі і трэці радкі паўтараюцца.



# НЕБА І ЗЯМЛЯ

На аснове беларускай міфалогіі

## Дзеючыя асобы

С т а р а ц.
Я р ы л а.
Ч у р.
Ж ы ц е н ь.
П я р у н.
В я с ё л к а.
Т а л а к а.
Р а й.
З н і ч, або Ж ы ж.
П а л я в і к.
А с і л к і, іх двое.
Я г і н я.
Л е ш ы.
Д а м а в і к.
Ч о р т.
В а д з я н і к.
1-я р у с а л к а.
2-я р у с а л к а.

М у з ы к а - в а р а ж б і т.
Д у д а р ы.

## ПРАЛОГ

На сцэну выходзіць С т а р а ц у белым адзенні, з белай барадой і доўгімі белымі валасамі. Разам з ім па баках выходзяць д в а х л о п ц ы з дудамі або сурмамі, пачынаюць іграць мелодыю-гімн.

**Марш**





Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 71. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК[1] у Лідскім раёне Гродзенскай вобласці.)

С т а р а ц. Слухайце мяне, дзетачкі, людочкі мае добрыя, слухайце, што раскажу я вам. Спачатку нічога не было: ні зямлі, ні неба, ні сонца, а так сабе было — пуста і цёмна. Але надаела Богу жыць у поцемках, і ён сатварыў Свет і ўсё, што на ём. Яшчэ, старыя людзі кажуць, што наш Свет стаіць на вялізнай рыбіне. А як яна страпянецца, ці хвастом, ці крыламі варухне, то і Зямля наша затрасецца. Мы, людзі, даўно жывём на Зямлі. Старыя людзі кажуць, што разам з намі жывуць... *(Крыху маўчыць.)* Але, людцы, хопіць байкі баіць, бо што гэта за свята, калі няма гасцей? Будуць, будуць у вас сёння незвычайныя госцейкі. Прашу музыкаў зайграці, пара гасцей сустракаці.

Музыкі іграюць. На сцэну выходзяць міфалагічныя постаці: Я р ы л а, Ж ы ц е н ь, Ч у р, П я р у н, Р а й, П а л я в і к, З н і ч, А с і л к і, В я с ё л к а і Т а л а к а.

**Найгрыш «Гусачок»**

Хутка



[1] Галіновая навукова-даследчая лабараторыя беларускай танцавальнай творчасці Мінскага інстытута культуры.



Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 29. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Глускім раёне Магілёўскай вобласці.)

С т а р а ц. Дазвольце мне, людцы, прадставіць вам гасцей нашага свята. Ярыла!

Наперад выходзіць малады прыгожы юнак у белым плашчы. На галаве яго вянок, сам босы. Кланяецца.

С т а р а ц. Гэта бог урадлівасці і кахання. Нашы продкі шанавалі яго. Ездзіў Ярыла на белым кані, а вакол яго — карагод, не толькі дзяўчат. Усе, усе жыхары паселішчаў выходзілі, і ў кожнага з прысутных быў вянок з кветак.

Я р ы л а. Так, дзядуля, дзе я нагою — там жыта капою, а дзе зірну — колас зацвіце.

С т а р а ц. А гэта Чур!

Наперад выходзіць Чур, кланяецца.

С т а р а ц. Гэта радавое бажаство. Чур, «шчур» паходзіць ад слова «прашчур». Ён ахоўвае Род, адганяе дэманаў змроку, аберагае межы, хаты.

Ч у р. Чур-чурамы.

С т а р а ц. Чур Неба, чур Зямля, чур Звёзды, чур Луна.

Ч у р *(да Старца)*. Чур, разам, папалам. *(Падыходзіць да Ярылы.)*

С т а р а ц. Знаёмцеся, дзетачкі, — Жыцень!

Наперад выходзіць хлопец невысокага росту, грозны, кланяецца.

С т а р а ц. Гэта бог восені. Кажуць старыя людзі: «Жыцень хлеба даў» або «Жыцень з кобзай — голад на дварэ». Гэта значыць, што ён можа папярэдзіць пра надыход неўраджаю.

Ж ы ц е н ь. Не хвалюйцеся, не ў гэтым годзе.

С т а р а ц. Што ж, давайце далей знаёміцца. Вось Пярун!

На сцэну выходзіць вялізны, статны хлопец высокага росту з чорнымі валасамі і доўгай залатой барадой.

С т а р а ц. Гэта бог нябеснага агню. І калі ён пускае свае стрэлы-маланкі з неба, то знішчае ўсю нечысць на зямлі. Кажуць людзі: «Ай, Пярун б'е!» А грамавыя стрэлы людзі захоўваюць у доме, каб шчасце было. І вось, цікава, кажуць, што чэрці ў час навальніц хаваюцца ў ваду і ператвараюцца ў рыб.

Ж ы ц е н ь. Таму рыбакі ніколі не елі рыбу, у якой былі чырвоныя вочы.

С т а р а ц. А вось прыгажуня — «вутка ў моры, хвост угоры».

На сцэну выходзіць вельмі прыгожая дзяўчына з доўгімі валасамі, у рознакаляровым адзенні, з вялікім вянком на галаве.

С т а р а ц *(працягвае)*. Калі Вясёлка паявіцца на небе, людзі кажуць: «Госпадзі, зноў Вясёлка воду бярэ, зноў будзе дождж».

В я с ё л к а. Бо вераць, што Вясёлка з рэчак і азёр ваду набірае.

С т а р а ц. Сяброўка яе, Талака, — апякунка жніва і ўрадлівасці.

На край сцэны ў залатым адзенні выходзіць высокая і пекная дзяўчына, упрыгожаная кветкамі. У руках яе сноп, на галаве — талаковы вянок з кветак і каласоў і доўгім белым пакрывалам накшталт шаля.

Т а л а к а. І ты, Рай, ідзі к нам.

Наперад выходзіць Рай, кланяецца.

С т а р а ц. Так, Рай — дэман, які таксама клапоціцца аб зжатым збожжы.

Р а й. Хлеба нават стыхія баіцца. *(Да хлопца, які апрануты ў чырвонае адзенне.)* А-ёй, прыліп, як Жыж?

С т а р а ц. Яшчэ адзін госць — Зніч, або Жыж, — бог агню.

Наперад выходзіць хлопец у чырвоным адзенні, таксама кланяецца ўсім.

С т а р а ц *(працягвае)*. Ён ходзіць пад зямлёй і саграе яе, але гэта — калі паціху, а калі ж хутка, то выклікае пажары.

Ж ы ж. «Жыж унадзіўся», — кажуць.

П а л я в і к. А пра мяне не забыліся?

Выходзіць хлопец Палявік, кланяецца.

С т а р а ц. Не. Гэта, дзетачкі, — Палявік, які вартуе палявыя скарбы і таксама клапоціцца аб ураджаі. Ён як махне правай рукою — расце і таўсцее сцябло.

В я с ё л к а. Махне левай рукою — наліваецца колас.

Р а й. Страсяне галавою — уся ніва ўсцілаецца залатымі снапамі.

С т а р а ц. А вось два браты Асілкі.

Выходзяць два хлопцы: дужыя, моцныя, замест адзення яны апранутыя ў шкуры лясных звяроў, у руках трымаюць булавы.

С т а р а ц *(працягвае)*. Некалі толькі маці ведала пра іх чароўную сілу — яны больш нікому яе не паказвалі. Цяпер жа ўсе ведаюць, бо кожны дзень, каб выпрабаваць яе, яны ідуць на раку і, размясціўшыся па берагах, перакідваюць адзін аднаму млынавыя жорны. Ну што, ні пра каго не забыліся? Так, запрашаю вас, мае госцейкі, на карагод і святочнае шэсце па нашым свеце, як кажуць, сябе паказаць і людзей паглядзець. Войска мае Белае, сцягі і харугвы — на сцэну!



На сярэдзіну сцэны выходзяць музыкі і дзеці, апранутыя ў белае адзенне, са сцягамі і харугвамі, на якіх намаляваны Зніч, Чур і іншыя. Пасля агульнага карагода пачынаецца святочнае шэсце міфалагічных постацей Белай Русі па ўсіх пляцоўках тэатралізаванага свята.

**Найгрыш «Падаляначка»**




Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 82—83. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці.)

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Пакуль «Белае войска» ходзіць, пад крыкі і рогат на сцэну выходзіць «Чорнае войска». У ім Л е ш ы, Д а м а в і к, В а д з я н і к, Я г і н я, р у с а л к і і Ч о р т. Да іх выходзіць С т а р а ц.

С т а р а ц. Відаць, сёння рабінавая ноч, калі ўсё злое з пекла на свет павылазіла. А гэта што за гвалт? Што вас так разбірае?

Я г і н я. Нас на свята чаму не запрасілі?

В а д з я н і к. Мельніца меліць — мука будзіць.

Д а м а в і к. Глядзіш, і бяда будзіць.

Л е ш ы. Так, губа ні ў кога не замкнёна.

Я г і н я. Па што нас забыліся?

С т а р а ц. Што ж, дзетачкі, трэба і іх неяк уважыць дай вам прадставіць. Пачнем з гэтай найпрыгажэйшай пані. Ягіня!

На край сцэны выходзіць страшна размаляваная дзяўчына ў чорным адзенні з доўгімі чорнымі раскудлачанымі валасамі. У руках яна трымае мятлу.

С т а р а ц *(працягвае)*. Гэта гаспадыня ўсіх ведзьмаў. Уночы яна робіць розныя паскудствы. Ездзіць у ступе, таўкачом паганяе, а памялом след замятае.

Я г і н я. Я магу лятаць на мятле, качарзе, лапаце і граблях.

Ч о р т *(дадае)*. Харчуецца Яга душамі людзей.

Я г і н я. Ад таго я такая лёгкая, як душа. *(Бегае па сцэне, ганяе чарцей.)*

С т а р а ц *(падыходзіць да Дамавіка)*. Расказвалі старыя людзі, што ў Вялікі чацвер, калі пасля службы ўзяць свечку, прыйсці дадому і падняцца на гарышча, то там абавязкова будзе Дамавік. Будзе ляжаць ён голы, у выглядзе чалавека. Ну што, дзядзішча, шырокая барадзішча, кучаравая галавішча?

Д а м а в і к *(выходзіць наперад)*. Ну, не заўсёды голы. *(Працягвае.)* І калі мяне чым-небудзь накрыць у гэты час, то паспрыяю ва ўсім, абяцаю.

С т а р а ц. Праўда, ён любіць дружную сям'ю.

Ч о р т *(дадае)*. Але не любіць сварлівых баб.

Я г і н я. Ой, ён сам часта жартуе, мой старэйшы браток.

Ч о р т. Ага, падкідвае гаспадарам у пітво раздорнае зелле. *(Рагоча.)*

С т а р а ц. Як кажуць: ад чарцей адстаў, а да людзей не прыстаў.

Ч о р т. Хто нас дагоніць?

С т а р а ц. А гэтага старычка можна пазнаць сярод людзей.

Выходзіць Лешы — стары з белым, як бяроста або як воск, тварам. Вочы колеру свінцовага снегу, у лапцях, з доўгай пугай.

Л е ш ы. Стракаю звера, на звера саджуся і зверам паганяю. *(Б'е пугай па сцэне.)*

С т а р а ц *(працягвае)*. Левае крысо яго адзення пакрывае правае — зусім інакш, чым у хрысціянскіх людзей. І правае вока заўсёды нерухомае. Гэта цар, «звярыны пастух».

Ч о р т. Ага, які з надыходам маразоў хаваецца ў пекле.

С т а р а ц. У час абходу сваіх уладанняў ён робіць дзікія гукі.

Я г і н я. То ён свішча, то рагоча. *(Лешы паказвае.)*

С т а р а ц. То пляскае ў далоні. *(Лешы пляскае ў далоні.)*

Ч о р т. То свішча, як камар. *(Паказвае.)*

Я г і н я. То мычыць, як карова. *(Паказвае.)*

Ч о р т. То іржэ, як конь. *(Паказвае.)*



Л е ш ы. Хто пачуе мае прымудрасці, людзі, той становіцца знахарам.

С т а р а ц. Але, калі ўбачыце ў лесе ламачча або паласу паваленых дрэў, ведайце, гэта праехаў вясельны поезд Лешага.

Я г і н я. Хто папросіць у Лешага грошай — дасць.

Ч о р т. Але пры выхадзе з лесу ўсё ператворыцца ў вуголле. *(Рагоча.)*

С т а р а ц. Ніхто не ведае, дзе дакладна ён жыве. Толькі звяры і птушкі ідуць да яго паміраць.

Л е ш ы. Бо толькі яны ведаюць патаемныя сцежкі.

Ч о р т. А пра мяне, дзядок, што-небудзь нашчабячы.

С т а р а ц. Ну, а зараз гэтая кульгавая і гарбатая пачварынка, якую вы ведаеце.

На край сцэны выходзіць Чорт, скача і крыўляецца.

Ч о р т. Я магу прымаць розныя аблічча, магу ператварацца ў жывёл: у чорнага барана, у ката, у саву.

Я г і н я. Нават у чалавека.

С т а р а ц. Але яго можна пазнаць па рагах, хвасту і кіпцюрах.

Ч о р т. Не заўсёды, бо бываю я ў капелюшы і пальчатках. Але ніколі не апранаюся ў жаночыя адзежы. Фу!

С т а р а ц. Ён любіць збіваць падарожных са шляху, скідваць колы з вазоў у час язды — шкодны.

Я г і н я. Заводзіць людзей у балота.

С т а р а ц. Часта коціцца як бочка ці кола. Але баіцца крыжа і малітвы. *(Пачуўшы гэтыя словы, Чорт з віскам уцякае.)*

С т а р а ц *(працягвае)*. Слухайце, аднаго разу бег чорт ля возера. Зірнуў у ваду і вельмі спужаўся, бо ўбачыў сваю паганую чортаву морду. Тады давай ён каламуціць ваду. Каламуціў, каламуціў, пакуль возера не зрабілася балотам. І тут напаўзло туды жаб, змей, яшчарыц, бо й акурат пад той час у бусла паўцякалі з мяшка ўсе гэтыя гады.

Выходзіць наперад Вадзянік — стары з доўгай лапацістай барадой, доўгімі валасамі ў форме кліна на галаве, з гладкай, бліскучай скурай, пузам, доўгімі нагамі, на якіх паміж пальцаў перапонкі. Замест валасоў могуць быць водарасці.

В а д з я н і к. Ну, нарэшце і маё «царства» спамянулі.

Я г і н я. Балота?

В а д з я н і к. Ды не, вадзіцу-чараўніцу — маю памачніцу.

С т а р а ц. Знаёмцеся, гэта Вадзянік. Часам уначы пры ціхім надвор'і ён раз'язджае на соме або пляскае далонямі па паверхні вады.

1-я р у с а л к а. Кракае, быццам крачка. *(Вадзяны паказвае.)*

2-я р у с а л к а. Раве, нібы карова.

Я г і н я. Вішчыць і бляе. *(Вадзянік паказвае, потым выбягае наперад.)*

Вадзянік *(крычыць)*. Рот ёсць, ды няма каго есці! А ў мяне 77 жонак: голых, босых, праставалосых — чым карміць?

Старац. Але, ведайце, Вадзянік баіцца попелу, яго можна выжываць свістам, як і Лешага.

Вадзянік *(спалохана)*. Ой, я зараз каму-небудзь свісну.

Старац. Напярэдадні св. Вадохрышча сяляне адной вёскі пераварочвалі вазы і сані, бо ў гэты час па іх прыходзіў Вадзянік, каб вывезці сваіх дзяцей.

Вадзянік. А як жа — яны ж маглі загінуць.

1-я русалка. Ага, бо людзі на Вадохрышча апускаюць у ваду крыж.

2-я русалка. А ў наступны дзень асвячоную ваду можа знесці плынь.

Старац. Так, а перавёрнутыя сані Вадзянік чамусьці ўзяць не асмельваецца.

1-я русалка. Нічога, ёсць час калі і людзі не асмельваюцца.

Старац *(да русалак)*. Так, хадзіце бліжэй.

Наперад выходзяць русалкі. У іх хвалістыя валасы русага колеру і ласкавыя блакітныя вочы. Апранутыя яны ў блакітна-зялёнае адзенне.

Старац. Жыта — гэта косы русалак. І калі парэжашся на полі, то яны рагочуць.

Вадзянік. Бо людская кроў ім толькі на здароўе.

Ягіня. А ў час скокаў русалачак у жытнёвым полі ніхто, ніхто, нават з хлопцаў, не асмеліцца праходзіць міма.

Вадзянік. Заказычуць да смерці, мае дзетачкі.

Чорт. А як хто падыдзе да русальнага карагода, то спачатку завядуць у танец, а потым заманяць у раку.

Вадзянік. І пацягнуць у самы вір.

Старац. Нічога, можна выратавацца іголкаю ці шпількаю. І не лавіць рыбу ў гэты дзень.

Дамавік. Што там рыба, аднойчы вылезла русалка на бераг, села на камень і пачала шчупаковым грабянём расчэсваць свае валасы. За гадзіну столькі вычасала — чуць вёска не патанула.

Старац. Дзетачкі, убачыўшы русалку, трэба сказаць: «Чур мяне!» — то яна будзе бясшкодная.

Вадзянік. Хто шкодны? Тут яшчэ трэба падумаць, хто больш шкодны. Вось я з даўніх часоў павінен разбураць плаціны і млыны, а іх няма. Дзе яны?

1-я русалка. Так, наш гаспадар павінен муціць ваду, а яна ў вашых азёрах і рэках даўно мутная.



Дамавік. А я некалі ахоўваў дамы, свойскую жывёлу. На Святую Варвару мне пяклі з цеста галовы, рогі, ногі, капыты і вушы, кармілі імі скацінку, каб лепей пладзіліся. Няма гэтага. Што вам зрабіць за гэта?

Старац. Ну, і дзе тыя вёсачкі? Куды ўсё знікла, а? Цягнеце лямачку, пакуль не ў ямачку. Памятайце: як гукнеш, так і адгукнецца.

Нечысць акружае Старца, але яго вызваляюць два асілкі.

Старац. Трыма крыжамі вас, чатырма ангеламі. *(Грозна.)* Да пары жбан ваду носіць.

Русалка. Усе пацягнуліся ў павярховыя дамы. Забыліся пра бацькоўскія хаты.

Ягіня. Дык хто і што знішчыў? На Новы год ужо не паляць старых мётлаў, няма столькі малака, як было раней. Страцілі дзядоўскую мудрасць.

Лешы. А мне цяпер што рабіць? Дзе пушчы-бары са звярамі ці птушкамі? Дзе дары на скрыжаваннях дарог, а?

Вадзянік. Гэты свет і плачучы пераплачаце, а той і скачучы не пераскачаце.

Ягіня. Усё загубіў, знішчыў чалавек.

Старац. Думаю, яшчэ не ўсё.

Ягіня. Слухай, Старац, выклікаем цябе з тваім войскам на вялікую бойку.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

На сцэну выходзяць музыкі з дудамі або сурмамі, іграюць марш. Пад гэтую музыку вяртаецца «Белае войска» (Ярыла, Талака, Зніч, Жыцень, Палявік, Чур, Вясёлка, Пярун і дзеці).





Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 71. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Лідскім раёне Гродзенскай вобласці.)

С т а р а ц. Так, тут сіла не возьме — будзем розумам ваяваць. Станавіцеся!

Старац становіцца ў цэнтры, справа ад яго — «Белае войска», злева — «Чорнае войска», дзеці са сцягамі і харугвамі — па баках. Гучаць барабаны.

С т а р а ц *(працягвае)*. Хто з вас *(звяртаецца да ўсіх)* ведае, дзе вырай?

Л е ш ы. Гэта птушыны рай.

В я с ё л к а. Як ліхія людзі ніколі не трапляюць у рай, так і ліхія птушкі сланяюцца па зямлі, пакуль не загінуць.

Я г і н я. Вырай дзесь на поўдні.

Ч у р. За марамі, за гарамі, дзе перш былі людзі.

Я р ы л а. Пакуль не саграшылі Богу.

С т а р а ц. Так. Справіліся. А, вісіць сіта залатое, навітое? *(Усе думаюць.)* А яшчэ кажуць: «Глянеш — заплачаш, а ўсе яму рады?» Што такое?

З н і ч. Гэта Божае вогнішча.

Д а м а в і к. Па небу ходзіць, ды не ўсім угодзіць.

Ч о р т. А як зайшло, так усё к чорту пайшло.

П я р у н. Гэта той агонь, што грэе неба, каб там цёпла было.

Р у с а л к а *(паказвае на неба)*. Вось яно.

В я с ё л к а. Не тыкай на сонца, бо рука адсохне.

Т а л а к а. Сонейка ніколі не злуе, яно заўжды ласкава пазірае ды хукае на ўсіх, як матка на сваіх дзетак.

Я г і н я. Соль табе ў вочы!

Л е ш ы. Дзяркач табе ў зубы!

Ж ы ц е н ь. Таўкач табе, Яга, пад бокі.

Я г і н я. Зараз за чубы вазьмемся ды паб'емся.

С т а р а ц. Не, не, працягваем спаборніцтва. Сто коней, сто валоў яйка не пацягнуць. Або, усіх нас корміць, а сама есці не просіць.



Я р ы л а. Зямелька наша, яна багацей за ўсіх.

Я г і н я. Ага, чалавек створаны з зямлі і ў зямлю пойдзе.

Ч у р. Зямля, наша маці, усіх корміць, поіць.

Ч о р т. Ага, а пасля смерці да сябе прыхіляе. *(Рагоча.)*

Ч у р *(Чорту)*. Касы заяц нанёс яец, вывеў дзяцей — касых чарцей.

Ж ы ц е н ь. Сабакі дагналі і хвост адарвалі.

Ч о р т. Колькі на свеце не лікаваць, а смерці нікому не мінаваць.

С т а р а ц. Кажуць старыя людзі: не бойся смерці ані сваёй, ані чужой, бо кожнага свая стрэне.

Я г і н я. Ад смерці нідзе не схаваешся.

С т а р а ц. Але жывы ў зямлю не палезеш.

Я р ы л а. Бо жывы пра жывое думаець.

Л е ш ы. Усе, усе прайшлі праз той ложак, дзе на горачцы гаёчак.

Ж ы ж. А табе што? Ты які ў люльцы — такі і ў магілцы.

Л е ш ы. Ой, з воч іскры сыплюцца, а з языка мёд цячэ.

С т а р а ц. Ціха-ціха! Супакойцеся. Бо зараз спыню «бойку»! Далей. Бяжыць без пугі, без повада?

В а д з я н і к. Вада. І скажу, што пад зямлёй ёсць рэкі, азёры, і так шмат, што каб вышла, то зноў быў бы патоп.

Ч у р. За гарамі, за лясамі, недзе на краю света ёсць такія крыніцы, дзе жывая вада бяжыць, нават памёрлага можа ажывіць.

Л е ш ы. Аб такіх крыніцах ведаюць птушкі.

Д а м а в і к. І некаторыя звяры.

В я с ё л к а. А як такой вады чалавек нап'ецца, то будзе дужы і здаровы.

Л е ш ы. Ага, як дуб.

Ч о р т. З аднаго дрэва і крыж, і лапата, толькі такія крыніцы трэба знайсці.

С т а р а ц. Ціхія воды глыбокія.

Ч о р т. Але, што ў ваду ўпала, то пішы прапала.

В а д з я н і к. Вада і мельніцу ламае, і камень прабівае.

Ж ы ж. Вады бойся, як і агню.

С т а р а ц. О, добра, што нагадалі. Прапаную скончыць нашу «бойку» ведамі аб агні.

1-я р у с а л к а. З агнём не жартуй і вадзе не вер.

Ж ы ц е н ь. З агнём жартаў няма.

Л е ш ы. Не бойся ваўка, а бойся агня. *(Усе крыху задумаліся.)*

Я р ы л а. Выгнаў Бог Адама з Раю і ўгледзеў, што ён з голаду трасецца. Кажа тады: «Вазьмі два сухія паленцы і тры імі адзін аб другі». Адам цёр-цёр, цёр-цёр, і паказаўся агонь.

Ягіня. А чорт падгледзеў, як чалавек грэецца, украў агонь і занёс у пекла, каб тым агнём мучыць грэшныя душы.

Старац. Так, хопіць. Што завязалася — развяжыся, што шылася — расшыйся, што паролася — распарыся, што рабілася — адрабіся, а што гаварылася — разгаварылася. Так, ёсць у мяне прапанова. У дрымучых пушчах жыве адзін вельмі стары і мудры Музыка-варажбіт. Няхай ён нас рассудзіць. Схадзіце, дзеткі, паклічце Музыку. *(Дзеці ідуць за сцэну.)*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Пакуль дзеці пайшлі па Музыку-варажбіта, гаворка працягваецца.

Дамавік. Ага, зараз прыйдзе гаспадар з дудою, а яго жонка з сумою.

Талака. Калі няма музыкі, то і пад язык скачуць.

Ягіня. Скокам чорт навучыў людзей.

Пярун. Адкасніцеся вы, трыдзевяць-ідалы.

Лешы. Хто скача, той толькі чарцей цешыць. Бо скокі і гулі — ад беса.

Ягіня. Каб я ведала, што маё дзіця народзіцца музыкаю, пахавала б маленькім.

Ярыла. Музыка ўжо такі родзіцца, бо не кожны можа навучыца іграць, а музыка сам навучыцца.

Вадзянік. Лічыцца, што калі музыка ірае, то ён чарцей весяліць, а?

Дамавік. Ага, іграць ёсць час, а на полі працаваць — няма.

Чорт. Купіў дзед дуду на сваю бяду. *(Рагоча.)*

Лешы. Хлеў ракам, хата бокам і музыка з адным вокам. *(Смяюцца разам.)*

Нарэшце дзеці прыводзяць Музыку-варажбіта.

Старац. Выйдзі, Музыка-варажбіт, зайграй у сваю залатую сямігаласную трубу.

Пад гукі найгрышу Музыка-варажбіт выходзіць на сярэдзіну сцэны. Усе расступаюцца.

Старац. Вось Музыка-варажбіт, які добрых людзей весяліць, а ліхім без нажа сэрца рэжа. Сваім граннем зачароўвае нежывую прыроду так, што яна і лісточкам не варухне. Звяры, птушкі, жывёла зачаравана слухаюць. Як ты так навучыўся дванаццаццю салаўямі іграць-спяваць?

Музыка-варажбіт *(спакойна)*. Божухна-Бацюхна, Прачыстая Матухна, Зара-зараніца, Божая Памачніца, Праведнае Сонца, Святыя, Вясёлыя Зоркі — я не знаю. Гасподзь знае і мне памагае.



Старац. Добра, рассудзі нас, даўно ідзе гэтая бойка. Хто з нас сільнейшы? Хто з нас мудрэйшы?

Музыка-варажбіт *(павучальна)*. Што ж, яшчэ прашчуры нашы верылі, што паміж Небам, Зямлёй і Падземным светам ёсць нябачная сувязь. Яна існуе і сёння. Багі, дэманы, нячыстая сіла — усё гэта і цяпер уплывае на людзей. Не намі заведзена, не нам і адмяняць. Усё, што існавала і існуе сёння — памяць стагоддзяў. Аднясіцеся з павагай, з пашанай, зберажыце гэты скарб, кожнае слова. І трэба, каб старыя малым пераказвалі, каб і тыя ведалі. У гэтым будзе веліч ваша.

Старац *(усміхаецца)*. Вось як, хітрасцю хітрыся, мудрасцю мудрыся.

Музыка-варажбіт. Абаронена Зямля Небам.

Старац. А мы — харошым словам. *(Удзельнікі згаджаюцца, ківаюць галовамі, радасна ўсміхаюцца.)*

Музыка-варажбіт. Цяпер, і заўсёды, і на векі вякоў.

Пачынаюць гучаць дуды або сурмы. Удзельнікі свята выходзяць на край сцэны, кланяюцца і сыходзяць праз залу, між гледачоў.

**Найгрыш «Кола»**




Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 52. (Зап. М. Чуркін у Горацкім раёне Магілёўскай вобласці.)

Заслона

**Літаратура**


1. *Арлова, Г. П.* Беларуская народная педагогіка. — Мінск: Нар. асвета, 1993.
2. Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўн. / склад. С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. — Мінск: Беларусь, 2004.
3. Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. В. С. Семянякоў. — Мінск, 1989.
4. Зямля стаіць пасярод свету... Беларускія народныя прыкметы і павер'і / склад. У. Васілевіч. — Мінск: Маст. літ., 1996.
5. Міфалогія. Духоўныя вершы / склад. А. М. Ненадавец. — Мінск: Бел. Навука, 2003.
6. Тэатралізаваныя школьныя святы / А. Ю. Лозка, І. І. Кірчук. — Мінск: БелЭн, 2004.
7. *Чурко, Ю. М.* Вянок беларускіх танцаў / Ю. М. Чурко. — Мінск: Беларусь, 1994.






# СЦЭНАРЫІ ТЭАТРАЛІЗАВАНЫХ ПРАДСТАЎЛЕННЯЎ ДЛЯ СТАРШАКЛАСНІКАЎ



## ВОСЕНЬСКІ КІРМАШ

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Скамарохі-зазывалы

**Дзеючыя асобы**

1-ы скамарох.
2-і скамарох.
3-і скамарох.
4-ы скамарох.
Музыкі.

Па баках ад уваходу на кірмаш (плошчу) пабудаваны дзве дазорна-сігнальныя вышкі або драўляныя абарончыя вежы. На кожнай размясціліся скамарохі і музыкі. Скамарохі трымаюць у руках «берасцяныя» граматы з тэкстамі. Музыкі іграюць вясёлыя найгрышы. Скамарохі зазываюць.

**Найгрыш «Юрачка»**



Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 128. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Шклоўскім раёне Магілёўскай вобласці.)

1-ы скамарох. Гэй, гандляры, купцы і сябры!

2-і скамарох. Скамарохі, штукары!

3-і скамарох. Іншаземныя госці! Цёткі, дзядзькі!

4-ы скамарох. Люд просты з маёнткаў, фальваркаў, млыноў!

1-ы скамарох. Буйныя магнаты, шляхта, пісары і малыя рабята!

2-і скамарох. Хлопчыкі і дзяўчаткі! Збірайцеся на кірмашовыя банкеты, забавы!

3-і скамарох. На сустрэчы, знаёмства і гульні.

4-ы скамарох. Вас чакаюць сёння незвычайныя відовішчы, турніры і танцы.

1-ы скамарох. Карчомкі, балаганы, атракцыёны.

2-і скамарох. Мядзведжыя пацехі, лялечнікі, дудары, гусляры.

3-і скамарох. Камедыянты, акрабаты, цыганы і варажбіты.

4-ы скамарох. Асілкі: Кацігарошак і Каваль-Вернідуб здзівяць сілай сваёй.

1-ы скамарох. Збірайцеся! Сястрыцы-заловачкі, шукайце залатовачкі.

2-і скамарох. Спяшайцеся! Дарагія браткі, патрасіце кашалькі.

3-і скамарох. Мамы і таты! Чакае гандлёвая плошча! І кірмашовае свята.

4-ы скамарох. Свята чакае і зяця, і цёшчу! Наваліся, не скупіся!

1-ы скамарох. Цётачкі, дзядзечкі! Дываны, люстэркі, фарбы, заморскія тавары — усім па пары!

2-і скамарох. Брацейка-брахнейка! Соль — купі, тытунь — плюнь, дунь!

3-і скамарох. Баваўняныя, шаўковыя тканіны з Масквы.

4-ы скамарох. Скураныя, дывановыя вырабы з Казані.

1-ы скамарох. Фарфоравы і фаянсавы посуд са Смаленска, не з Менска.

2-і скамарох. Жалезныя, медныя вырабы тульскіх заводаў.

3-і скамарох. Шурпатыя сіняўскія місачкі — вось для гэтай дзяўчынкі-кісачкі.

4-ы скамарох. Дзяўчатачкі-канфетачкі! Шаўковыя паясы Слуцкай мануфактуры для рознай «хвігуры».

1-ы скамарох. Працавітыя бабачкі! Вілы, цапы, граблі і лапаты да вашай хаты.

2-і скамарох. Ручныя ступы для крупы — каб не былі скупы.



3-і скамарох. Сявенькі з тонкай дранкі — шклоўскай — для сялянкі.

4-ы скамарох. Тарантас выяздны, чатырохколавы, сядайце, панове, каштуе не дарага.

1-ы скамарох. Ага! Торба старца для жабрацтва і чатыры талеры на кожнае кола.

2-і скамарох. Фарбаваная пража ў жалезным купарвасе або квасе.

3-і скамарох. Фіранкі з фальбонамі для акон, ад цікавых гаспод-варон.

4-ы скамарох. Пустацелыя бразготкі — вось для гэтай цёткі. Пастараніся! Бараніся!

1-ы скамарох. Кляновы цэбар, каму трэба?

2-і скамарох. Ручнікі Чачэрскія.

3-і скамарох. Шархуны-шалестуны, вось для гэтай дзетвары.

4-ы скамарох. Кашалі для ягад і грыбоў, для гэтых тоўстых паноў. Самі, як грыбы!

1-ы скамарох. Бешанковіцкія глякі — не пацягнуць і сабакі.

2-і скамарох. Кераміка з зялёнай палівай са Шклова — будзь, цётка, здарова.

3-і скамарох. Саламяныя брылі з кутасамі — сам схаваешся з вусамі.

4-ы скамарох. Капялюшы з мятліцы — для хлапца, не маладзіцы.

1-ы скамарох. Каламажка, лёгкі вазок, тарантас — для вас, павязе ў любы час.

2-і скамарох. Абы грош — любы харош. Верхнедзвінскія льняныя посцілкі.

4-ы скамарох. Авечая воўна, чэсана на грабнях поўна!

1-ы скамарох. Плеценыя саламяныя вуллі.

2-і скамарох. Выдзеўбаны посуд для мёду, масла — каб не згасла.

3-і скамарох. Выцінанкі-маляванкі — дзецям забаўлянкі.

4-ы скамарох. Вярэнькі-сявенькі з бяросты, вельмі простыя.

1-ы скамарох. Дзяўчатачкі-канфетачкі! Футра собаля, куніцы, бабра, і лісіцы — толькі для гэтай прыгажуні-маладзіцы.

2-і скамарох. Гараднянскія вазонніцы, і цёрлы, і па збанку на нашым рынку.

3-і скамарох. Дзіцячыя цацкі ганчарных арцелей!

4-ы скамарох. Дзяўчатачкі-размалёвачкі, даставайце рублёвачкі! Гарсеты малінавыя.

1-ы скамарох. Гэй, хто любіць чыста мыцца, добра ўбірацца? Рукамыйнікі глыбоцкія.

2-і с к а м а р о х. Глянь, дзед, — збан, улівай алей, піва або квас, глядзі, каб сам не згас.

3-і с к а м а р о х. Стрыжаныя і голеныя! Сюды! Грабяні з асіны, бярозы — каб хадзілі прыгожы і некаторыя цвярозы.

Гучыць інструментальны найгрыш.

**Найгрыш «Полька»**

Энергічна



Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семеняко. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 93. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Пінскім раёне Брэсцкай вобласці.)

4-ы с к а м а р о х. А калі стаміліся — чакае вас наша карчомачка — родная мамачка.

1-ы с к а м а р о х. А ў ёй — дзяржыся, не паваліся! Бульбяная бабка з настоем брусніц і журавін.

2-і с к а м а р о х. Халадзец, руляда, зельц са свініны.

3-і с к а м а р о х. Шчупак запечаны з хрэнам, з бульбай, са смятанай.

4-ы с к а м а р о х. Торт бульбяны з міндаламі дзецям і падлеткам.

1-ы с к а м а р о х. Карп у смятане.

2-і с к а м а р о х. А якія ракі! Як коні! З грэцкай кашаю, з грыбным соусам.

3-і с к а м а р о х. Марынад кляштарны са шчупачка.

4-ы с к а м а р о х. Калдуны з маслам графа Тышкевіча.

1-ы с к а м а р о х. Фаршыраваная капуста па-літоўску.



2-і с к а м а р о х. Клёцкі з шынкаю. Калі яшчэ ёсць сілы, зазірніце сюды!

3-і с к а м а р о х. Гарбузовая каша і страва з васількоў.

4-ы с к а м а р о х. Кулага з мёдам.

1-ы с к а м а р о х. Саладуха вам будзе ад бруха да самага вуха.

2-і с к а м а р о х. Тушаныя баравікі, смажаныя рыжыкі.

3-і с к а м а р о х. З рабчыкаў паштэт — для худых кабет.

4-ы с к а м а р о х. Хвост бычыны ў паштэце з майранам — простаму люду, не панам.

1-ы с к а м а р о х. Амлет па-вясковаму з цукрам і цынамонам.

2-і с к а м а р о х. Тоўстыя, посныя, дасканалыя бліны з дзядоўскай даўніны.

3-і с к а м а р о х. Цёткі, дзядзькі! Не штурхайцеся, падграбайцеся!

4-ы с к а м а р о х. Талерамі адбівайцеся!

1-ы с к а м а р о х. Настольнікі льняныя: 4—8-нітовыя.

2-і с к а м а р о х. Сеткавыя з Віцебшчыны.

3-і с к а м а р о х. Тураўскія, вышытыя крыжыкам.

4-ы с к а м а р о х. Калінкавіцкія, Лоеўскія, Нараўлянскія! Налятай! Разграбай!

1-ы с к а м а р о х. Поршні, чаравікі, боты вельмі харошай работы.

2-і с к а м а р о х. А вось гэтыя берасцянкі? Для мёду берасцянкі — для простай сялянкі.

3-і с к а м а р о х. Чарнец, карэц — купі, важны маладзец.

4-ы с к а м а р о х. Цэбар, біклага, конаўка, дзяжа, хто вып'е — заляжа!

1-ы с к а м а р о х. Вышыты абутак з бантамі, спражкамі.

2-і с к а м а р о х. Бабруйскія сінія збаны, глякі, слаі, макатры, вазоны, хіба не для гэтай важнай персоны?

3-і с к а м а р о х. Агоўскія куфры, размаляваныя букетамі, вянкамі, ластаўкамі, галубамі.

4-ы с к а м а р о х. Сярмяга, кобрынскі кажух, кафтан, адзенеш — будзеш, як пан.

1-ы с к а м а р о х. Андарак, гарсеты з аксаміту, парчы, шоўку.

2-і с к а м а р о х. Гэй, хлопец! Боцікі, шнуроўкі — для тваёй сяброўкі.

3-і с к а м а р о х. Дзеравяшкі, лапці-шчарбакі. Купіў? Вандруй на чатыры бакі!

4-ы с к а м а р о х. Боты з яловай скуры з Турава — давядуць да Мурама!

1-ы с к а м а р о х. Шнуроўкі з пушных звяроў і аўчынкі, купі, тата, малой дзяўчынкі!

2-і скамарох. Старажытная ладдзя на 40 чалавек, хопіць на наш век.

3-і скамарох. Магілёўскія макотры, міскі і талеркі, купі, дзядзька, для сваёй швагеркі.

4-ы скамарох. Гэй, не пазяхай, купляй!

1-ы скамарох. Паўптушка, паўконь, паўрыба, паўчалавек — за пяць талераў!

2-і скамарох. Размалёўкі мануфактур Урэчча і Налібак не для разявак.

3-і скамарох. Палескія бортнікі дадуць воску і мёду.

4-ы скамарох. Не праходзьце міма! Пружанскія ганчары — выдатныя майстры!

1-ы скамарох. Гэй, барыня! Прасніцы, калаўроты — не для лянівай работы.

2-і скамарох. Фаянс з роспісам Свержанскай мануфактуры.

3-і скамарох. Не ўстаіш, паненачка? Каралі з бурштыну, каменю, шкла, каб прыгожаю была.

4-ы скамарох. Пасталы з свіной, сырамянай скуры — адзявай, разграбай зямлю, як куры!

1-ы скамарох. Паляўнічая зброя, сама не страляе, часу чакае! Ба-бах!

2-і скамарох. Не палохайся, цяцера! Мірская кафля вядомая з XV стагоддзя — і так грэе, аж душа млее.

Гучыць інструментальны найгрыш.

**Найгрыш «Мікіта»**

Хутка



Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 74. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці.)

3-і скамарох. Траўнікі, знахары вытапчуць, выцісну́ць шэптамі-замовамі ўсе хваробы з вашай галавы.

4-ы скамарох. Дзядуля, бабуля! Даёнкі хваёвыя, купіце, каб жылі здаровыя.



1-ы скамарох. Карыты з асіны, з ліпы кадоўбы.

2-і скамарох. Бойкі, сальніцы — для гэтага вербаванца і маладзіцы.

3-і скамарох. А ў гэтую дугу я любога запрагу! У-гу-гу!

4-ы скамарох. Хлопец, не стой, трасі кішэні! Вышываныя дываны з бабулінай даўніны.

1-ы скамарох. Не цікава? Гарадская галыцьба і жабракі, кыш! На чатыры бакі.

2-і скамарох. А ў нас — заслаўскія міскі і накрыўкі для баршчу з крапіўкі.

3-і скамарох. Тэракотавы посуд з Івянца, купі, дзеўка, да вянца, спатрэбіцца.

4-ы скамарох. Прыбывае народ! Кавалі выкуюць з азёрнай руды зброю, завесы, шпоры і краты — для любой «хаты».

1-ы скамарох. Кадушкі для капусты і грыбоў — для гэтых цікавых польскіх паноў.

2-і скамарох. Чачэрскія кублы рукамі не чапаць! Толькі дзеўкам блох хаваць.

3-і скамарох. Куфры драўляныя з акоўкай, Давыд-Гарадоцкія.

4-ы скамарох. На свята купі ў хату! Светлагорскія тканыя рушнікі.

1-ы скамарох. Кубкі драўляныя, не толькі мёдам наліваныя.

2-і скамарох. Бабуліны кашы з лазы, бярозавай кары.

3-і скамарох. Крычаўскія львы, бараны з керамікі — дзеткам маленькім і бабкам старэнькім.

4-ы скамарох. Канапа з падлакотнікамі і спінкай майстроў-саматужнікаў.

1-ы скамарох. Капыльскія дываны-дзівосы.

Гучыць інструментальны найгрыш.

**Найгрыш «Крыжачок»**

Весела



Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 56. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Мсціслаўскім раёне Магілёўскай вобласці.)

2-і с к а м а р о х. Дзеці, спяшайцеся, моцна не штурхайцеся!

3-і с к а м а р о х. Марцыпаны хатнія.

4-ы с к а м а р о х. Торт з лясных арэхаў і бліноў.

1-ы с к а м а р о х. Пернікі вясковыя, з макам.

2-і с к а м а р о х. «Цэдр» з цытры да гарачай гарбаты — змерзлі, рабяты? Пагрэйцеся.

3-і с к а м а р о х. Варэнне з барбарысу, з ажыны, з журавін.

4-ы с к а м а р о х. Паспяшайце! Пасціла з яблыкаў.

1-ы с к а м а р о х. Грушы сушаныя з мёдам.

2-і с к а м а р о х. А падлеткам і кабеткам — мядовы квас і шыпучы мёд з каляндрай.

3-і с к а м а р о х. Дзядулям і бабулям — збіцень і сальцісоны літоўскія.

4-ы с к а м а р о х. Заможным людзям — мяды з рознымі каранямі і травамі.

1-ы с к а м а р о х. Хутка пачнецца знакаміты конны кірмаш! На тарзе кожны конь у нас танцуе.

2-і с к а м а р о х. Але яшчэ ў вас ёсць час! Бручка, гарох і боб! Мала ўкусіш — лягчэй праглынеш.

3-і с к а м а р о х. Рыба шукае дзе глыбей, а чалавек — дзе весялей? Да нас, сюды!

4-ы с к а м а р о х. Зусім недалёка ад нас — кірмашовы тэатр і мясцовыя прыгонныя з Зельвы, Ружан павесяляць вас. Абхахочашся!

1-ы с к а м а р о х. Гэй, магнат, ці купіў пасталы, аборы з пянькі і конскага воласу? Не скупіся!

2-і с к а м а р о х. Распляціся, павярніся, пакажыся! Пазнаем адразу пана па халявах.

3-і с к а м а р о х. Гамоняць крамы Высокага рынка, адказваюць гоманам Нізкага.

4-ы с к а м а р о х. Толькі каза не рада торгу! А народ менскі рады! Гэй!

1-ы с к а м а р о х. Бондары з рачных прыстаней Нямігі, Буга вязуць сёння тавары ў Германію, Францыю. Нашто нам столькі? Хай валакуць «хранзузам» і «нямчузам».

2-і с к а м а р о х. Многія нашы майстры вучыліся ў панскіх маёнтках, манастырах.

3-і с к а м а р о х. У замках Літоўскага княства. Знай нашых! Нягоршыя за «іншаземцаў».



4-ы с к а м а р о х. Увага! Арэнды фальваркаў, млыноў, лясоў *(праз паўзу)* у гэтым годзе не будзе. Ха-ха, яшчэ чаго!

1-ы с к а м а р о х. Во! Старадаўнія царскія граматы дазваляюць нашым купцам свабодны праезд для гандлю ў Расію і на Украіну. Няхай едуць з богам!

2-і с к а м а р о х. Дабіраліся нашы купцы ў Макар'ева, бліз Ноўгарада, і ў Бранск.

3-і с к а м а р о х. І ў Архангельск. Даедуць усюды тоўстыя купчыхі менскія.

4-ы с к а м а р о х. Цягнуцца тракты ў Слуцк, у Тураў, у Крычаў, у Навагрудак і яшчэ туды, дзе сам бог ведае куды.

1-ы с к а м а р о х. Што прымёрз, прыстаў? Хто яшчэ не спрабаваў?

3-і с к а м а р о х. Крамбамбуля — для бабулі, сіпатых і глухаватых дзядуляў, што стаяць ля бочкі, паціраюць жываточкі.

4-ы с к а м а р о х. Частуйся, шляхта з дваравымі людзьмі! Весяліся!

1-ы с к а м а р о х. Кухары-іншаземцы чакаюць вас! Хутчэй да нас!

2-і с к а м а р о х. Сакрэты кухарскія з шляхецкай кухні Рэчы Паспалітай, глянь ты, не забыты!

3-і с к а м а р о х. Сакрэты кухні матросаў радзівілаўскага флоту каля Нясвіжа. Частуйцеся! Рыбіца!

4-ы с к а м а р о х. Толькі, відаць, паснулі нашы ігрулі.

1-ы с к а м а р о х. Адзін «туруе», бубніст паддае — «такцікі» адбівае.

2-і с к а м а р о х. А басэтля зарыпіць — і стары не ўстаіць.

3-і с к а м а р о х. «Крыжачок», «Таўкачыкі», «Лянок» — затанцуе Тэкля і Пятрок.

Гучыць інструментальны найгрыш.

**Найгрыш «Качан»**

Хутка



Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 51. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці.)

4-ы скамарох. Барані вас бог, людзі, ад ліхога!
1-ы скамарох. Ад шаленства з роскашы.
2-і скамарох. Ад хлусні і крыўды.
3-і скамарох. Ад варожасці і грубіянства.
4-ы скамарох. Ад распусты і непакою.
1-ы скамарох. Ад зайздрасці.
2-і скамарох. Ад грубіянства. Жывіце, як дзяды-прадзеды жылі.
3-і скамарох. Шчасця вам, дабрабыту.
4-ы скамарох. Здароўя і кахання. Чакаем вас у наступным годзе! Бывайце!
1-ы скамарох. Каб усе былі, як дуб, найздароўшы.
2-і скамарох. І вы, птушаняткі, маленькія, будзьце мацненькія і дужанькія.
3-і скамарох. Ну, і нам тое самае.
4-ы скамарох. І Зямлі нашай святой — усяго найлепшага!

Гучыць інструментальны найгрыш.

**Найгрыш «Грачанікі»**




Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / склад. і адказ. за вып. В. С. Семенякоў. — Мінск: БелСЭ, 1989. — С. 28. (Зап. экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласці.)



## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Кірмашовы мядзведзь, або Смаргонская акадэмія

**Дзеючыя асобы**

Павадыр.
Мядзведзь.
1-ы скамарох.
2-і скамарох.
1-я дзяўчына.
2-я дзяўчына.
Музыка.

На сцэну выходзяць скамарохі. Адзін трымае ў руках вядро, у якім вялікі драўляны палоўнік, другі — бочачку мёду. Яны сустракаюцца і вітаюцца.

1-ы скамарох *(весела)*. Ой, вітаю цябе!
2-і скамарох. І я цябе. Куды ты з вядром?
1-ы скамарох. Хутка ўбачыш, а ў цябе што ў руках?
2-і скамарох. І ты хутка даведаешся, *(звяртаецца да гледачоў)* і вы таксама. Але спачатку паслухайце. Шмат хадзім мы па зямлі, многа бачым, многа чуем.
1-ы скамарох. Жыў сярод людзей адзін гультаяваты мужык. Яму самому не хацелася шукаць пчол.
2-і скамарох *(працягвае)*. Дык ён прымудрыўся выдзіраць чужыя.
1-ы скамарох. Але аднойчы гэта ўбачыў чараўнік, зірнуў ён на сытага чалавека і кажа: «Раз пакваціўся на чужое, дык і ты, і дзеці твае, і ўсё тваё кодла будзеце пчол драць». І абярнуў чараўнік таго гультая ў мядзведзя.
2-і скамарох. От, усё ты ведаеш. *(Далей гледачам.)* Так што цяпер вы будзеце ведаць, скуль узяліся мядзведзі. Але слухайце, што гэта за музыка?

Пад музыку на сцэну выходзіць спеўны гурт, музыка, павадыр і мядзведзь.

**Найгрыш «Мяцеліца»**





Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 32.

1-ы скамарох *(выходзіць наперад)*. А зараз, паважаная публіка, перад вамі адбудзецца прадстаўленне Зенькі-скамароха.

2-і скамарох *(дадае)*. Зенька скончыў калегію пры менскіх манастырах і кляштарах.

1-ы скамарох *(крычыць)*. І ў Вялікім княстве Літоўскім вывучыў свайго мядзведзя.

2-і скамарох *(весела)*. Ён быў частым госцем на кірмашах у Шлезвіі, Баварыі, Эльзасе, і вось цяпер — у вас, людочкі. Не пужайцеся, падбірайцеся пабліжэй.

1-ы скамарох. І так, пад выстралы з самаробнай гарматы *(чуецца стрэл)*, музыку менскага шаўца Дэмбіцкага *(музыка іграе гамму)*...

2-і скамарох. І вашы крыкі: «Віват, віват!» — на сцэне госці.

Усе крычаць: «Віват!» У цэнтр сцэны выходзіць павадыр з мядзведзем. Каля яго круцяцца скамарохі.

Павадыр. Добры дзень, мае пекныя! Мы, відаць, з такога хітрага мястэчка, як Смаргоні.

1-ы скамарох *(таксама выходзіць наперад)*. Была там школа для мядзведзяў, але не было для людзей.

2-і скамарох. І вось, калі лясы павырубалі, то і мядзведзі паўцякалі, а разам з імі і розум уцёк. Вось як, ха-ха! *(Смяецца.)* То я бачу ў людзей цяпер зусім мала розуму.

Павадыр *(выводзіць наперад мядзведзя, які не вельмі слухаецца павадыра)*. Вось я вам аднаго злавіў. *(Б'е ў бубен — мядзведзь слухае.)*

1-ы скамарох. Няхай ён, людочкі мілыя, вучыць вас вуму-розуму.

2-і скамарох *(смеючыся)*. А калі не, дык няхай ідзе туды, дзе грыбы растуць.

Павадыр *(сур'ёзна)*. А я баранкаў напяку і буду крычаць: «Смаргонскія! Смаргонскія!», хоць яны і ў Ходарцах будуць спечаны. Але калі вы ад мядзведзя розуму не набярэцеся, то і не пазнаеце. *(Спакойна.)* Так што кланяйся ўсім, Мішка, нізенька, адным вочкам плач, а другім — дару прасі.

Павадыр б'е ў бубен і спявае прыпеўку, а мядзведзь пачынае кланяцца. Гучыць інструментальны найгрыш.



## Найгрыш «Заяц»

Жвава



Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 60.

1-я дзяўчына *(асцярожна падыходзіць да мядзведзя)*. Можа, мядзведзь ваш пацешыць і нас, і паважаную публіку? Ці так толькі пастаіць?

2-я дзяўчына *(таксама падыходзіць да мядзведзя)*. А ці ён у вас, спадарочку, паслухмяны? *(Кранае мядзведзя.)* Не кусачы, лахматы?

Павадыр. Спакойна, маладзіцы, глядзіце! А пакажы нам, Міхаіл, як па кірмашу дзяўчаты ходзяць.

Павадыр б'е ў бубен (або пяе імправізавана песеньку), а мядзведзь паказвае — ходзіць, смешна круцячы задам.

Павадыр. Вось, я вам казаў, паслухмяны. А пакажы нам, Міша, як дзяўчаты перад люстэркам упрыгожваюцца.

Мядзведзь хапае вядро ў скамароха, які ўцякае, і пачынае пасыпаць сябе і ўсіх пудрай-мукой. Усе з гэтага смяюцца.

1-я дзяўчына *(адбіваючыся ад мядзведзя з мукой)*. Добра, прыгажун, а пакажы, як дзеці панскі гарох крадуць.

Мядзведзь становіцца на калені, адной рукой заграбае «гарох», потым хаваецца за павадыра і пачынае есці.

Павадыр. Не бойся, Міша, я тут, ніхто цябе не будзе чапаць. *(Далей да публікі.)* Можа, у каго, публіка, спіна баліць? Мішка — вядомы лекар, не адну душачку «залячыў».

1-ы скамарох *(выводзіць каго-небудзь з публікі)*. Паночак! Прапаную легчы, няхай Мішка патопча — гэта дужа памагае. Павер, мне дзве бабкі расказвалі, але *(далей да публікі)* я іх тут ужо не бачу. Відаць, перастараўся.

Адзін са скамарохаў дапамагае гледачу, той кладзецца, а мядзведзь пачынае гладзіць па плячах.

П а в а д ы р. Ну, гэта, Мішка, толькі малым дзецям так рабіць. А пакажы, як гаспадыня цеста месіць. Не бойся, ты ж лекар лясны.

Тут мядзведзь залазіць на спіну і пачынае скакаць. Усе смяюцца. Музыка пачынае іграць вясёлую музыку, Мішка злазіць з «хворага» і пачынае прытанцоўваць, павадыр б'е ў бубен.

**Найгрыш «Жабка»**




Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 49.

М у з ы к а. Паварочвайся, Міша, старайся харашэнька, слухай брата мядзведніка, хто цябе корміць, поіць, ад ліхіх сабак абараняе, пуць-дарожку паказвае.

1-я д з я ў ч ы н а *(здзіўлена).* І праўда, шмат чаго ўмее ваш мядзведзь.

П а в а д ы р. Гэта ж не ўсё, кабетачкі! *(Далей мядзведзю.)* А пакажы, Мішка, як бабы ядуць.

Мядзведзь бярэ ў скамароха вялікі палонік і чэрпае з вядра.

П а в а д ы р. А каб вы бачылі, як бабы ядуць! Яны ж поўную лыжку кашы бяруць.

1-ы с к а м а р о х *(падыходзіць да мядзведзя).* А пакажы, Мішка, як бабы плачуць.

Мядзведзь раве, трэ вочы.

П а в а д ы р *(перадражніваючы).* Бабы плачуць, не ўсміхаюцца, хвартушкамі ўціраюцца.

2-і с к а м а р о х *(моцна дзівіцца).* А пакажы нам, як бабы на поле жаць ідуць.

Мядзведзь паказвае.



П а в а д ы р *(сонна, лянiва).* Бабы на поле жаць ідуць, нага церaз нагу цягнуць. Стануць і паслухаюць: ісці ці не. Не вельмі то лятуць на поле.

1-ы с к а м а р о х *(задаволена).* Добра, Міша, добра! А цяпер — як з поля ідуць?

Мядзведзь бегае або танцуе з дзяўчатамі.

**Найгрыш «Галубец»**




Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 56.

П а в а д ы р *(у захапленні).* А як з поля ідуць, тут іх і на кані не дагоніш. А пакажы нам, Міхайла, як кум Гаўрыла сваю жонку любіць, цалуе і абдымае.

Мядзведзь хапае каго-небудзь з прысутных, валіць, мацае, абнімае. Усе смяюцца.

1-я д з я ў ч ы н а. Але не час яму — не Камаедзіца, не сакавік. Як вы яго пабудзілі?

П а в а д ы р. То ёсць сакрэт, мае козачкі. А згатавалі яго ўлюбёныя стравы: аўсяны кісель, далі сушонага рэпніку, гарохавых камоў. Дзе ж засне ад такіх страў? *(Далей мядзведзю.)* Пакажы, Мішка, як Янка з кірмашу вяртаецца.

Мядзведзь пацíху пачынае хістацца.

1-ы с к а м а р о х *(падыходзіць бліжэй).* Не, Мішка, не. Гэта мужык мядку-саладку «ўкінуў» і ног пад сабой не адчувае.

2-і с к а м а р о х. Давай-давай, яшчэ раз, весялей, гэта табе не пчолак драць.

Мядзведзь хістаецца яшчэ больш і, нарэшце, падае, дрыгае нагою.

1-я д з я ў ч ы н а *(падыходзіць да мядзведзя).* Ой, стаміўся, касалапенькі? А за старанне трымай мядовы траецкі пернік. *(Частуе.)*

2-я дзяўчына. Бач, як галавой трасе. Ну, калі любіш, то і навуку павінен паважаць.

1-ы скамарох *(частуе мядзведзя)*. Вось табе, Мішка, мядок-саладок.

Мядзведзь пачынае есці мёд. Музыка іграе, дзяўчаты танцуюць вакол мядзведзя, які пасля прытанцоўвае з пустой бочачкай мёду.

**Полька «Шалёная»**




Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 77.

Пасля танца павадыр, мядзведзь і скамарохі сыходзяць са сцэны на кірмаш, дзе працягваюць паказваць «Смаргонскую акадэмію».

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### Жывая батлея і цыганы

**Дзеючыя асобы**

Барыня.
Дохтар.
Купец.
Вербаванец.
Чорт.
Смерць.
Цыганскі гурт:
  Барон.
  Салоха, яго жонка.
  1-я цыганка.
  2-я цыганка.
  Конь.
  Музыка.

На сцэну да гледачоў выходзіць Барыня.

Барыня *(круціць галавою)*. А мае ж вы людочкі! Учора была я на пірушцы, ды як налопалася там юшкі, дык і цяпер не магу сапці *(стогне)*. І крапіву, і адвары клала, і жывот у бані расцірала. Нічога не памагло, яшчэ больш прылягло. *(Ходзіць сярод гледачоў.)* А-ёй, каб знайшоўся дахтарочак, палячыў бы мой жываточак, то аддала б я яму гэту торбачку і мяшочак. *(Паказвае падраную торбу і маленькі мяшочак.)*



Праз зал ідзе (або ўстае з гледачоў) важны Дохтар з куфэркам.

Дохтар *(спакойна)*. А бабулечка-прыгажулечка... *(Яго перабівае Барыня.)*

Барыня *(пагражаючы)*. Што? Якая я табе бабулечка? Я — барыня чэсных кравей.

Дохтар *(супакойвае)*. Добра, Барыня, я ўмею лячыць, ведаю дзе лякарства добрага дабыць. *(Падыходзіць бліжэй.)* Я магу лячыць *(дастае з торбы крапіву, дзядоўнік)* агародным зеллем. Магу і ў лазні маладзецкім хмелем. *(Падступае бліжэй.)* Дык што там у вас, мая вы прыгажуня, з жываточкам. *(Мацае Барыню за жывот, тая адбіваецца, але Дохтар не звяртае ўвагі.)* Так, я раю вам яблычнага квасу *(важна думае)*, свежага моху і чартапалоху, усё гэта зелле трэба скалаціць і, заплюшчыўшы вочы, праглаціць. *(Дастае з-за пазухі вялікую бутэльку і дае выпіць квасу.)*

Барыня *(бярэ ў рукі буталь і са страхам гаворыць)*. Добра, Дахтарочак, а калі баліць галава?

Дохтар ходзіць вакол Барыні, паглядае на яе твар, хоча дацягнуцца да галавы, але яна становіцца на дыбачкі, каб Дохтар не дастаў.

Дохтар. Так, пабрыць яе дагала, тры разы паленам ударыць і гарачай вадой ашпарыць, *(думае)* і ваш галоў, здаецца, будзе здароў. *(Бярэ Барыню за руку.)* А-ёй, пульс так моцна б'ецца, як мне ў пекле гарэць. *(Да гледачоў.)* Хворая, дзеткі мае, ой, хворая кабета. *(Далей да Барыні.)* Трэба сала дубовага. *(Дае цукерку.)* Во, прайшло, як па масле праз горла і не запёрла? *(Адкрывае невялічкі куфэрак і нешта там шукае.)* Каб вам яшчэ больш палягчала, больш нельга вам, мілая, сала, трэба капу шалфея *(далей убок)* і даць пяць разоў па шэе, *(зноў да Барыні)* саўсім будзеце, дзевушка, здаровы.

Барыня *(расправіўшы плечы, ходзіць важна па сцэне)*. Ой, людочкі, бачыце, які цудоўны лекар! *(Далей гледачам.)* Сабака, цукеркамі закарміў. *(Крычыць моцна.)* От, толькі цяпер разбаленіся зубы. Ай-я-яй! *(Стогне балесна.)*

Дохтар *(мякка)*. Ну, тут вельмі проста: трэба пабіць шчокі і губы, лішку крові пусціць, яловую шышку ў рот забіць. *(Дастае з торбы шышку, але Барыня ўцякае ад такога лякарства.)*

Барыня *(злосна)*. Ах, ты, пілюля, хрант, боты ў рант, жылетка піке, нос у табаке, бот рыпіць... *(праз хвіліну плача)* а зуб усё роўна баліць. Ой-ё-ёй!

Дохтар *(тузаючы Барыню)*. Не плакаць, мадам! Апошняе «намашчэне» — танец. Ану-ка, музыка, *(выходзіць дудар або скрыпач)* удар нам «Свінню кузанаю»!

Музыка іграе, Барыня і Дохтар вельмі смешна танцуюць. У танцы Барыня трымаецца то за шчаку, то за бок, то за галаву, то плача моцна, то смяецца ад казытання, калі Дохтар яе мацае. Пасля танца да іх выходзіць знатны Купец.

**Найгрыш «Таўкачыкі»**




Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 36.

Купец *(важна)*. І што за музыка «заморская»? Добры дзень, гаспада! Знаеце вы меня?

Дохтар *(весела падбягае, кінуўшы Барыню)*. Хто такой, можа бальной?

Купец. Сяйчас бальной. *(Ганарыста.)* Я — купец слаўны.

Барыня *(падыходзіць бліжэй)*. Ага! З слабодушкі Карманнай.

Купец *(махае рукамі)*. Знаеце, чым я ў прэжнія ўрэмена заніма̀уся?

Дохтар *(да Барыні)*. Здаецца мне, ён очэнь бальной.

Купец *(быццам бы не чуе)*. Я ж усё прадаваў *(крычыць)*: шыдлы, мыдлы, шмаравідлы, атосы, калёсы, абмоткі, махоркі і тытунь горкі! *(Далей спакойна.)* Хадзіў, галасіў *(зноў крычыць)*: пярсцёначкі, брульянцікі, магерачкі, табашныя ражкі, талерачкі! *(Потым спакойна.)* Па вуліцам насіў і лучыну, а па красным дзевушкам пячаль да кручыну. *(Падае на калені перад Барыняй.)*

Дохтар *(весела крычыць)*. Ой, саўсім слабой, людзі, дажэ ногі не дзержаць. *(Хоча «лячыць» Купца, але той устае і працягвае гаворку.)*

Купец *(адпіхнуўшы Дохтара)*. І пакуль я эцім таварам таргаваў, усягда сыт прабываў. Аднажды, народ, са мной случылася вялікая бяда.

Барыня *(у здзіўленні)*. Якая?

Дохтар *(задаволена)*. Забалеў?

Купец *(злосна Дохтару)*. Ды не! *(Далей ціха.)* Вялікалуцкі купец маю руку ў сваім кармане захваціў.



Барыня *(весела)*. От, шальмец!

Дохтар *(снуючы вакол Купца)*. Так, і, відаць, цябе шчодра наградзіў?

Купец *(паказваючы рукою на свае бакі)*. Што ты! Усе бакі адмалаціў.

Дохтар *(зноў важна дастае буталь з лякарствам)*. Што ж, бальной, будзем лячыць.

Купец *(плача)*. А маленькія рыбяцішкі раскавыралі ўвесь нос ражком, а старыя бабы — гаршком, *(стогне)* пастух — трубой, а музыка — дудой *(падае на калені, да яго падыходзяць Дохтар і Барыня)*.

Чуецца музыка, і, стукаючы ў барабан, выходзіць Вербаванец.

**Найгрыш «Ляцелі дзве пцічкі»**




Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 20.

Купец *(стоячы на каленях)*. Адкуль ты, хлопча?

Вербаванец *(стукаючы ў барабан)*. З-пад абозу.

Барыня *(у захапленні здзіўлена крычыць)*. З-пад якога навозу?

Дохтар *(спакойна, гледачам)*. Пацыентаў у мяне не менш, а ўсё прыбывае.

Купец *(хоча перакрычаць барабан)*. А ў нас пад навозам не такія растуць.

Вербаванец моцна стукае ў барабан, усе хапаюцца хто за галаву, хто за вушы. Нарэшце Вербаванец перастае барабаніць.

Вербаванец. Ух, сам стаміўся. *(Далей убок.)* Вольна, гаспада, вольна. Слухайце, учора страляў я ў варону *(імітуе:* «Бах!»), не папаў я ў варону («Цюў!»), а папаў я ў карову («Му-му!»). *(Барыня пачынае душыцца са смеху.)*

Дохтар *(падыходзіць да Вербаванца)*. Так, вочы трэба падлячыць вось гэтым чароўным каменем. *(Дастае з торбы цэглу, але Вербаванец выкручваецца ад Дохтара.)*

Вербаванец. Адыдзісь, пастараніся! *(Працягвае да гледачоў.)* Стоіла мне мая бяда золатам паўтара рубля.

Купец *(пачуўшы пра грошы, хапаецца за галаву)*. Агромны капітал!

Вербаванец. Так, суд-перасуд, яшчэ сорак палцін.

Купец. Адурэць! Ой, можна астацца без штанін.

Вербаванец. І не гавары. І я не сплю, не ляжу, усё лісточкі пішу, ды сваёй паненцы шлю.

Дохтар *(здзіўлена)*. З такімі хворымі вачыма? Нічога, памагу, служывы. Ёсць у мяне акуляры. *(Дае акуляры без шкла.)*

Вербаванец. Слухай, не трэба мне ніякія акуляры! *(Далей гледачам.)* А маю паненку ў палон забралі.

Барыня *(трывожна)*. Ой, хто эта пасмел? *(Вербаванец здымае барабан і надзявае на Барыню.)*

Вербаванец *(сярдуючы)*. Ды туркі з татарамі, баяры з баярамі. *(Раптам апомніўшыся.)* Ды я тых баяр мячом парублю. *(Махае драўлянай шабляй.)* Ды я тых туркаў канём патапчу. *(Ганяе Купца і Дохтара драўлянай шабляй.)* А калі сваёй паненачкі не вазьму, *(астанавіўся)* пайду новаю знайду. *(Далей весела да гледачоў.)* Так што падвадзіце дзяўчат, розных баб.

Барыня. Служывый. Эта зачэм?

Вербаванец. Я ім буду верацёны тачыць.

Купец *(абдымае Барыню і адводзіць убок)*. Перайдзі ты ў другую вёску, патачы ты другім бабам...

Вербаванец *(хваліцца)*. Ой, быў я на том свеце і на гэтым, быў я і ў другіх вёсках, быў я і ў другіх фальварках, меў каханак незлічона.

Дохтар *(падыходзіць бліжэй)*. Цікава, падзяліся вопытам. Я да баб ахвоч.

Вербаванец *(абдымае Дохтара і ціхім голасам гаворыць)*. Ага, меў адну панну з Украіны, прыехаў у госці...

Дохтар *(раззявіўшы рот)*. Так, далей, не цягні.

Вербаванец *(адводзіць Дохтара на край сцэны, бліжэй да гледачоў)*. Павяла яна мяне ў зялёную рошчу...

Дохтар *(аблізвае вусны)*. А-ёй, давай, давай хутчэй расказвай!

Барыня *(плюе)*. Можа, мне адысці? А то непрылічнае пачую.

Вербаванец *(апамятаўшыся)*. Ды не, прыгажуня, яна мяне прывязала да белай бярозы, а сама пайшла пір піраваць.

Купец. От, дай сэрцу волю, то завядзе ў няволю.

Вербаванец *(жаласна)*. Роўна дзевяць дзянёчкаў яна не бывала.

Дохтар *(ходзіць вакол Вербаванца)*. Відаць, саўсім аташчаў, падлечым.

Вербаванец *(жаліцца Барыні)*. Мне мурашачкі ножкі стачылі.

Барыня. Ой! Мурашачкі? Надта ж я іх баюся.



Вербаванец. Камарочкі плечыкі скусалі, а саловушкі галоўку склявалі.

Дохтар. Не бядуй, усе дзірачкі зашыю. *(Дастае вялікі ржавы цвік.)*

Барыня. Во, бядняга, саўсім кахання не знаў.

Вербаванец *(падае на калені)*. На сэрцы — як кот пацарапаў.

Купец *(здзекліва смяецца)*. Трэба, браток, так жыць, як набяжыць. Кінуўся ў каханне?

Дохтар *(Купцу)*. Ну, табе так набяжала, што бакі сінія. Маўчы, ірад! Бач, перажывае чалавеча.

Барыня. А людочкі, аб чым вы? Жывеш на гэтым свеце і не ведаеш, чаго чакаць.

Вербаванец. О, прарок ведае!

Барыня *(азіраючыся)*. Дзе яго шукаць?

Купец *(у захапленні)*. Калі сапраўдны — залатога дам. Далібог!

Вербаванец *(важна)*. Ён тут. *(Цягне руку, каб узяць грошы.)*

Дохтар. Ой! Я таксама магу тры бочкі нагарадзіць. І грошыкі люблю!

Барыня. Цікава! Не, няхай пакажа, што ўмее.

Вербаванец *(страшным голасам «прарока»)*. Пачынаю!

Вербаванец стаіць пасярод сцэны, Барыня накрывае яму галаву хусткай. Барыня, Дохтар, Купец і Музыка ходзяць вакол Вербаванца. Па чарзе кожны кладзе руку яму на галаву, той «вяшчае». Першая кладзе руку Барыня.

Вербаванец *(адгадвае)*. Ева! *(Усе здзіўляюцца.)* Слухай, трэба табе так жыць, як набяжыць. *(Дадае ціха.)* Ой, недзе я ўжо гэта чуў. *(Басам.)* Але на старасць будзе табе ліха, як будзе без дзяцей у хаце ціха.

Барыня *(радасна)*. Во, маленькі гаршчок, а сем дзірак мае. *(Прытанцоўвае вакол Вербаванца і адыходзіць.)* А як гаворыць, як з кніжкі бярэ. Цудоўна!

Вербаванец *(смяецца)*. Так, галоўнае — умець танчыць, а работку — і гора навучыць.

Купец *(дадае)*. Ага, як нажывеш, так і праслывеш. *(Падыходзіць бліжэй і кладзе руку на галаву Вербаванца.)*

Вербаванец *(нізкім голасам адгадвае)*. Адам! Сам ты — мужычок з кулачок, а зла, як у казла. *(Дохтар і Барыня душацца са смеху.)* У царкву ходзіш і людзям шкодзіш. Купец адыходзіць злы. Да Вербаванца ізноў паціху ідзе Барыня.

Вербаванец *(адгадвае)*. Ева! Твой хлапец да сэрца ліпне, а ў кішэню паглядае. *(Барыня здзіўляецца.)* Калі не кінеш яго, то ён кіне, і цябе прадасць, і грошы палічыць.

Купец (*дадае*). І я грошы люблю! (*Убок.*) І я бы такую прадаў. (*Далей моцна.*) Так, лепш упасці брухам, чым духам. Трымайся, паненачка, навіна няважная.

Да Вербаванца падыходзіць Музыка і таксама кладзе яму на галаву руку.

Вербаванец (*адгадвае*). Адам! Беднаму будзе рай на небе.

Музыка (*сярдуючы*). А багатаму?

Вербаванец (*вяшчуе страшным голасам*). На зямлі. (*Павучальна.*) І памятай, маладосці не купіш, а старасці не прадасі. Памятай!

Музыка. Ну і прарок! Як кажуць людзі: паганае далёка чутно, а белае далёка відно.

Купец (*адганяе музыку*). Адыдзі прэч, як табе не шанцуе! (*Далей «прароку».*) А як мая жонка?

Вербаванец (*праз хвіліну*). Не ўсё табе будзе прыемна чуць, але ты сам напрасіўся. (*Зноў страшным голасам.*) Ой, лянівая. Ранняя птушка ўжо зубкі калупае, а твая цяцера толькі вочкі праціраe. (*Купец уздыхае.*) А сам ты зноў хутка паедзеш у чужую старану, толькі пільнуйся, каб не было сораму. Купіць не купіш, але натаргуешся.

Дохтар. Калі ты такі разумны, прарок, скажы, ці сёння есці будзем?

Вербаванец (*зноў пачынае «басіць» пад хусткай*). Хто як, а ты толькі табаку нюхаць будзеш, а яшчэ і злыдня якога сустрэнеш.

Дохтар (*са страхам*). Хіба цешчу?

Купец (*здзіўлена*). Ты ж мне казаў, што яна памерла.

Дохтар (*закаціўшы вочы*). А ў памяці стаіць, як жывая.

Вербаванец (*смяецца*). Як чорт на млыне ў Путрышках.

Барыня. Гляджу я на ўсё гэта — сорам! Эх, язычa, язычa, куды цябе чорт тыча.

Нечакана на сцэну з піскам і візгам выбягае Чорт. Ён бегае вакол Вербаванца, які стаіць пасярод сцэны і не разумее, што здарылася і што за шум.

Купец. Як за гарой сабакі брэшуць, так па кірмашы чорт лахматы чэшыць.

Вербаванец (*скідае хустку*). Во, хвастаты! Не паспелі ўспомніць — тут як тут! Чэшучы, прызастаўся, і капыт стаптаўся.

Барыня (*адбіваючыся ад Чорта*). Ой, а як табе, страхоцце, у балоце?

Чорт (*казыча Барыню*). А як прывык, так і добра.

Пасля таго, як Барыня ўцякае, Чорт падыходзіць да Дохтара і Купца.



Чорт (*сурова*). Ану, Сяўрук і Барбара — адна пара, згадайце: «Жывы жывога есць і ў вочы ўзіраецца».

Дохтар (*спалохана*). Хіба цмок які?

Чорт (*падступае бліжэй*). Не, гэта маці дзіця малое корміць. (*Ідзе да Купца.*) Чым больш бярэш, тым больш робіцца. (*Замахваецца на Купца.*)

Купец уцякае. Усе маўчаць.

Чорт (*крычыць*). Яма! Чэрці вы кірмашовыя! Дзе мазгі?

Барыня (*асцярожна*). А каб цябе яма завярнула, як ты на гэтыя хітрыкі здольны.

Вербаванец (*са злосцю пытае*). Так, хочаце каб з нас чорт не смяяўся?

Усе маўчаць.

Вербаванец (*сурова*). І ніколі да нас не паказаўся?

Усе баязліва паглядаюць на Чорта, а Купец ківае галавою.

Вербаванец (*крычыць*). Зробім яму, хвастатаму, пекла!

Усе бегаюць за Чортам. Той крычыць і выкручваецца, як можа.

Чорт (*крычыць*). Раней бяды не бядуй, раней смерці не памірай. Ай-я-яй!

Дохтар (*даганяючы*). За хвост яго, за хвост! Зараз!

Чорт (*уцякаючы*). Пакідайце, чудзілы, грашыць, пачынайце Бога прасіць, няхай вас тут караіць, а на тым свеце не чакаіць.

Нарэшце Чорта злавілі, але нечакана чуецца страшэнны крык і на сцэну выходзіць Смерць. Барыня «застывае», Купец трасецца ад страху, Вербаванец дзівіцца. Чорт вырываецца і вясёлы бяжыць да Смерці.

Смерць (*з цяжкасцю*). Урэмя льецца так, як рэчка. Год пральецца так, як час. Чалавек жыве, як свечка, вецер дунуў — ён пагас.

Усе стаяць, як зачараваныя.

Чорт (*здзекліва*). О, бачыце, публіка, з языка мёд цячэ, а з воч іскры сыплюцца. Таварышы, што з вамі, такія былі хуткія?

Купец (*ажыўшы*). Божа, беражы.

Барыня (*да Смерці*). Ой, Смертушка, я ж яшчэ і недагуляла, недакахала. (*Плача.*)

Вербаванец (*пакорліва*). Што ж, калі пара, дык я гатоў палажыць сваю галоў.

Чорт (*выходзіць наперад*). Слухайце, панове, пра маю старэйшую сястру (*паказвае на Смерць*). Калісьці кожны чалавек знаў, колькі яму жыць на свеце. І вось аднойчы ішоў Бог па зямлі, бачыць — адзін чалавек робіць плот з саломы. Так Бог пытаецца: «Ты чаго, чалавеча, не з дрэва плот гародзіш?» «Дык мне ўжо мала жыць асталося, на мой век хваціць», — адказвае той. Тады Бог рашыў зрабіць так, каб людзі не зналі, каму калі паміраць.

Смерць (*падыходзіць бліжэй да Купца*). Так і цяпер. Прыйшоў нехта, узяў нешта, ні яго дагнаць (*падыходзіць да Дохтара*), ні ў яго адабраць. (*Ходзіць сярод удзельнікаў.*)

Чорт (*бегае вакол усіх*). Ага, што прыціхлі, (*да Купца*) язык прымёрз?

Смерць. Я — Смерць касціста, маю касу смалісту, на то я касу вастрыла, каб каго-небудзь у гроб справадзіла. (*Крычыць і ганяецца за ўсімі.*)

У гэты час чуецца музыка і на сцэну выходзяць цыганы. Першым ідзе Цыганскі Барон, які вядзе каня з доўгім, ільняным хвастом (яго ўтвараюць два хлопцы, што накрыліся посцілкай). Вакол Барона танцуюць дзве размаляваныя цыганкі.

**Гучыць полька**




Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 79.

Барон (*крычыць*). Гаспадар, гаспадар, адчыняй вароты! Едуць, едуць цыганы, бедныя сіроты!

Выходзіць на сярэдзіну сцэны, трымае каня. Той не стаіць на месцы, смешна скача.

Барон (*весела звяртаецца да публікі*). Я — Цыганскі Барон-маладзец, ні баярын, ні купец. У мяне ёсць, во! (*Цягне за хвост каня, які ўпіраецца.*) Конь вараны, а ў запасе кашалёк не прасты. (*Паказвае торбачку.*) У маём сэрцы красавіца жана сядзіць. А на пячы, у сарафане, злая цешча-сатана ляжыць.



Першы да каня падыходзіць Вербаванец. Барон працягвае.

Барон. Ой, добрыя людзі, як ехалі мы з Дарагабужа, і кабылка наша была нядужа. Абоз на абозе, воз на возе, і наша кабылка (*Барон блытаецца: то кабыла, то конь.*) у вазе і тая не вязе. (*Убачыўшы Вербаванца каля каня, кідаецца да яго са словамі.*) Ах ты, нехрысь брадзяжны! Хочаш майго коніка ўкрасці?

Вербаванец (*хоча біцца з Баронам, дастае драўляную шаблю*). Ага, ты чэсных людзей нясклавіць будзеш?

Пачынаюць біцца, але да іх падыходзіць Дохтар, які ў руках трымае вялікі буталь з малаком. На ім надпіс: «Боская моц».

Дохтар. Ой, панове цыгане, панове некруты, не шуміце, зараз я вас паміру. Во! Боская моц!

Барон. А што ж ваш напой такой белай! Можат атрава?

Вербаванец. Не хочаш, цыгане, мне болей будзе. (*Бярэ буталь і п'е многа малака.*) Ух, крэпкі напой! (*Барон з цікавасцю назірае.*)

Пакуль Дохтар «лечыць хворых», наперад выходзяць цыганкі.

1-я цыганка. Ах, божа мой, людочкі! Прабылі мы ночку на мірскім лужочку.

2-я цыганка. Холад! Страх! Не піўшы, не еўшы. Угасціце, не жалейце! (*Ходзяць сярод удзельнікаў свята, просяць грошай.*) Хлябца бы з'есці.

У гэты час конь не стаіць на месцы, брыкаецца, цыганкі падыходзяць да яго.

1-я цыганка (*супакойвае*). Ой, чычанька-чачанька, ці піцечкі хочаш?

2-я цыганка. Сіротка наша, белагрывая. Ой, ці естачкі хочаш?

Конь іржэ. Да яго падыходзяць Чорт і Смерць. Конь кідаецца са страху ўцякаць, Барон цягне яго за хвост.

Барон. Тпрусь, мая кабыла, стой! (*Конь замірае.*) Так, каму прадаць новай транспарт?

Барыня (*важна*). Я чула, што добрага каня на торг не водзяць.

Вербаванец. Ага, вядуць, але адразу на кілбасу. (*Смяецца.*) Відаць, бяззубы? (*Падыходзіць да каня.*)

1-я ц ы г а н к а. Што ты, глянь *(падымае посцілку)*, поўна карыта белых лебядзей намыта.

Вербаванец імкнецца паглядзець зубы, але конь круціць галавою.

Б а р о н *(хваліць каня)*. Ой, мая сівая, як бяжыць, так бяжыць, а паваліцца — дык памажы падняць.

Барон ганяе каня, каб паказаць, які ён спрытны, але той падае і, колькі ні стараецца, не можа ўстаць.

К у п е ц *(смяецца і цягне каня за хвост)*. Во, хацеў нам хворую лашадзёнку збыць?

Б а р о н *(спужана)*. Не, ён нешта занядужыў. *(Падыходзіць да каня.)* Можа, галодны? Гаспада, прадайце лашадке авёс. *(Ходзіць сярод удзельнікаў.)* Прадайце, прашу, не сабе авёс — лашадке. Занядужыла, гляньце.

К у п е ц. Добра, добра прададзім. А грошы ў цябе ёсць?

1-я ц ы г а н к а *(падыходзіць да Купца)*. А як жа!

2-я цыганка таксама падыходзіць да Купца. У гэты час 1-я цыганка паціху крадзе грошы з яго кішэняў.

2-я ц ы г а н к а. Мы цыганкі багатыя, а ўжо як Цыганскі Барон! То і на вазах барахла вам не ўвезці. Горы, горы, а каб вы ж відзелі, людочкі, які багаты!

Б а р о н. Праўда. Я цыган багаты. У мяне ў адным кармане *(шукае нешта ў кішэні, усе падыходзяць бліжэй паглядзець)* вош на аркане! *(Потым шукае нешта ў другой кішэні.)* А ў другім... *(здзіўлена)* ой, дзе грошы? *(Паглядае на цыганак.)* Засталася блыха на цапе.

У гэты час конь устае і весела падскоквае. Купец падыходзіць да Барона і дае цэлы стос намаляваных грошай.

1-я ц ы г а н к а *(разглядаючы паперкі)*. Ета не грошы і не медзь.

2-я ц ы г а н к а *(Купцу)*. Садзіся, браток-махляр, на свінню і дамоў едзь.

К у п е ц *(працягвае жартаваць)*. А чаго вы так? Вы ж нам ці каня, ці кабылу хацелі збыць. *(Падыходзіць да Барона.)* Вось за гэтыя грошы купі, Барон, сабе мыла, памый сабе *(праз паўзу)* рыла, каб жонка любіла, а дзеці пазнавалі дай татку Баронам называлі.

Купец і Барон пачынаюць сварыцца, бароцца. Конь уцякае, за ім — Ч о р т і С м е р ц ь. На сцэну выходзіць жонка Барона — С а л о х а, якая трымае ў руках ляльку-анучу.



С а л о х а. Ай-я-яй, мужычка майго забіваюць! Ратуйце! *(Усе акружаюць Салоху.)* Вы ж ведаеце, народ чэсны, наша дзела — дуці, замкі красці, коні мяняці, *(ціха ўбок)* людзей ашукаці.

Б а р о н *(радасна)*. О, Салоха! Людзі! *(Выходзіць наперад да гледачоў.)* А каму паваражыць, каб шчасце ў хату ўвалілася? Салоха аголіць вас добра, *(далей ціха)* хоць і не паможа ні трохі. Хі-хі, хі-хі!

Б а р ы н я. Цыганкі заўсёды лянуюцца працаваць, прасці, туляюцца каля плоту, каб што дзе ўкрасці. Ведаю я іх.

Д о х т а р *(на Салоху)*. Відаць, і гэтая немач па кірмашу хадзіла, чабор-зелле насіла, у людзей грошай прасіла.

Салоха паказвае ўсім «дзіця».

С а л о х а *(плачучы)*. Відаць, тут усе без сэрца? Дайце дзіцяці малачка папіць. Зжальцеся, нехрысці.

1-я ц ы г а н к а. Людочкі, мы і на карты гадаем, і на зеркальцы — адпрацуем. І малачко, і кілбаску, і хлябец які.

2-я ц ы г а н к а *(штурхае 1-ю цыганку ў бок)*. Узялі з сабой балалайку, можам яшчэ расказаць і кірмашовую байку. Не заробім — дастанем цыганскага бізуна. *(Плача.)*

В е р б а в а н е ц. Во, толькі нам сёння байкі тут ніхто не баіў.

Б а р о н. От, мае цыганачкі, шчаслівыя, талантлівыя. І байку, і песню могуць. Абы грош.

Цыганкі пачынаюць спяваць, танцаваць, а музыкі іграюць.

**Найгрыш «Гняваш»**




Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 55.

Пасля танца ніхто нічога цыганкам не дае, таму тыя панура ідуць да Барона.

1-я цыганка. Але ж, Барончыку, хоць ты пашкадуй, трэці дзень не елі, ледзь з голаду не самлелі.

2-я цыганка. Калі няма нам парасяціны, дык дай хоць сабачаціны.

Барон *(жартуе)*. О, не дудар я, але парою ў кулачок затрублю, калі мае цыганачкі ў табары зубкамі зазвоняць. Але ж яшчэ нядаўна пад гарой шатры нашы стаялі, дзень і ноч мы пілі і гулялі. І было за што. А сёння?

Салоха *(падыходзіць да Купца)*. Я цыганка маладая, я цыганка не прастая, умею варажыць, усю праўду гаварыць. Пакажы-ка, Купец, ручку, палажы-ка грошай кучку. *(Варожыць.)* Сем зім зімавала-мінавала...

Барон, задаволены тым, што Салоха варожыць, ганяе бізуном цыганак, каб тыя таксама варажылі.

Барон. Я вам, шэльмы! Ленавацца? Я вам бакі паб'ю, у парашок сатру! Варажыце!

Купец *(здзіўлены адыходзіць ад Салохі)*. О! Я сем год пад лаўкай валяўся, кірмашу дачакаўся. *(Глядзіць, што кішэні пустыя.)* А каб у такіх людзей грошыкі цягнулі — нікагда!

Салоха падыходзіць да Барона і ціхенька аддае грошы, якія ўкрала ў Купца.

Салоха. Каханы мой, а што табе стала? Што за ліха, ці ад круп, ці ад сала?

Барон бярэ грошы і, адвярнуўшыся ад Купца, кладзе іх у вялікі кашалёк.

Барон. Ні ад круп, ні ад сала, мяне наша кабыла чуць не растаптала. *(Азіраецца.)* Недзе зноў паскакала. А дзе ты прападала? Цэлы дзень?

Салоха *(весела)*. Ой-му, радуйся, Барон Гаўрылавіч, хадзіла твая жоначка Салоха па Ракаўскім рынку варажыць і прасіць капусты, каб не былі нашы жываты пусты.

Барон *(важна стукае бізуном па сцэне)*. Ну, шэльма, ну, зладзейка, дакладай, а ці ўкрала ты мне куронка, ці парасёнка?

Салоха *(спалохана)*. А як жа, мой цыганочак, украла і куронка, і парасёнка.

Барон *(ганарліва)*. Вось так, друзья пралюбезныя, і бацька мой Рыжы Барон краў і ў табары хаваў, і я краду, і жонка крадзе, і дзеці крадуць, і ўнукі-праўнукі красці будуць.

У гэты час Салоха дастае з кошыка пеўня, хоча прадаць. Ёй дапамагаюць цыганкі.

Салоха *(весела крычыць)*. Падыходзь, дзівіся! Можа, хтось найдзецца ахвотнік?



1-я цыганка *(ходзіць вакол публікі)*. Купіце ету райскую пціцу!

2-я цыганка. Купіце, каб распладзіці!

Усе падыходзяць паглядзець пеўня.

Вербаванец *(сонна)*. Так, так, ну і што ета за пціца-перапяліца?

Салоха *(з крыўдаю)*. Што ты, ета — заморскі дзіковінны птах.

Дохтар. Ах! Ось я гляджу яйкі пад такой птушкай з баўтунамі. *(Усе смяюцца.)*

Купец *(з недаверам)*. Чы не чортаў вырадак гэты птах?

Салоха *(махае рукою)*. Так, не хочаце?

1-я цыганка. Зараз на кірмаш знясём.

2-я цыганка. Многа-многа дзенежак вазьмём.

Барон. Ану, лепш таргуйся. *(Ляскае бізуном.)* А каб ты пацалавала старога беса ў рабро!

Салоха *(крычыць у адчаі)*. Ану, народ, скідайце па рубліку, ад носу па грошу.

Усе смяюцца і кідаюць у кошык рознакаляровыя паперкі-грошы.

Салоха *(падыходзіць да Вербаванца)*. А ў каго нос даўжэйшы — то па два!

Вербаванец махае рукою і адыходзіць. У гэты момант чуюцца крыкі і шум. На сцэне нечакана з'яўляюцца Чорт і Смерць, якія ўвесь гэты час лавілі каня. Яны выводзяць яго на сярэдзіну сцэны, той з цяжкасцю падае. Чорт і Смерць важна ідуць паглядзець, што прадаецца.

Чорт *(распіхвае ўсіх)*. Так, і колькі каштуе ваш індык?

Смерць *(да Салохі)*. Ну і што табе даць перад дальняй дарожкай?

Салоха *(спалохана)*. Ні-чо-га, ні-чо-га! *(Кідае пеўня і ўцякае.)*

Чорт *(крычыць услед)*. Можа, яшчэ да гэтага індыка дадаць табе пару коней вараненькіх?

Смерць *(жудасным голасам)*. Ага, лепш пару худзенькіх, дзе мая каляска малявана?

Чорт *(да публікі)*. Гэй! Дык дзе каляска даравана? Паненка мая ехаць хоча!

Вербаванец выносіць дугу з рознакаляровымі лентамі. На каня сядае Смерць, потым — Чорт, не вытрымлівае, спрабуе залезці на яго і Купец, пасля — цыганы. Конь іржэ і падае, але ўсе госці кірмашу нейкім чынам ствараюць «воз» з рознакаляровых стужак, «сядаюць» і з песняй (або танцамі) з'язджаюць са сцэны ці сыходзяць ў залу, дзе кірмашовыя забавы працягваюцца.

### Найгрыш «Рах-чах-чах»

Весела



Чурко Ю. М. Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 76.

З а с л о н а

**Літаратура**

1. *Аксамітаў, А.* Прыказкі і прымаўкі: Тлумач. слоўн. бел. прыказак і прымавак з арх., кафедр. збораў, рэд. выд. XIX—XX стст. — Мінск: Бел. навука, 2002.

2. Беларускі фальклор: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / склад. К. П. Кабашнікаў і інш. — Мінск: Выш. шк., 1996.

3. Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні / скл. В. С. Семянякоў. — Мінск, 1989.

4. Гульні, забавы, ігрышчы / склад. А. Ю. Лозка. — Мінск: Беларуская навука, 1996.

5. Народны тэатр / склад. В. К. Бандарчык. — Мінск: Навука і тэхніка, 1983.

6. Тэатралізаваныя школьныя святы / А. Ю. Лозка, І. І. Кірчук. — Мінск: БелЭн, 2004.

7. *Чурко, Ю. М.* Вянок беларускіх танцаў. — Мінск: Беларусь, 1994.



# БАГАЧ

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Дзеючыя асобы

Н е с ц е р к а.
П а ў л і н к а.
1-я с у с е д к а.
2-я с у с е д к а.
3-я с у с е д к а.
4-я с у с е д к а.
5-я с у с е д к а.
6-я с у с е д к а.

На сцэну выходзяць гаспадары свята: Н е с ц е р к а і П а ў л і н к а.

Н е с ц е р к а. Ну, дзякуй богу, дачакалі, прыйшоў Багач — кідай рагач.

П а ў л і н к а. Так, бяры сявеньку і сей, мой мілы, памаленьку.

Н е с ц е р к а. Кажуць старыя людзі, што да Багача баба рабача, па Багачы хоць за плот валачы. Але гэта не пра цябе, мая любая.

П а ў л і н к а. Зара наша, зоранька, узыйдзі рана, пастой позна.

Н е с ц е р к а. Пакуль мы прыбяромся, пакуль я ўмяту двор мяцёлачкай.

П а ў л і н к а. А я ўсцялю стол чыстай скацёрачкай, бо будуць у нас сёння любыя госцейкі.

Н е с ц е р к а. Перагані, Божа, хмарачкі на чужыя старонанчкі, мары, горачкі.

П а ў л і н к а. А мой жа, сакалочак-гаспадарочак, пераляці нашы вулачкі, пашчабячы са старымі бабкамі ды пажартуй з маладзіцамі. Няхай не пазяхаюць, няхай да нас на Багач прыбываюць.

Н е с ц е р к а ідзе па суседак.

П а ў л і н к а *(да гледачоў)*. Людочкі мае, а ці ведаеце вы, адкуль жыта? Калі Бог стварыў чалавека, дык доўгі час хлеба не было. Людзі елі рознае карэнне, нават бульбы не было. А больш за ўсіх галадалі сабакі, таму яны паўздымалі морды ўгору і страшна завылі. Бог пачуў іх просьбу і кінуў ім адзін жытні колас. Але сабак было многа, яны кінуліся адбіраць адзін у аднаго той колас і, нарэшце, разарвалі яго на шматкі. Зерне рассыпалася па зямлі, і на другі год ад аднаго коласа пайшоў такі багаты ўраджай, што людзі намалацілі цэлую бочку жыта. І з таго часу сталі разводзіць хлеб.

Чуецца музыка і на сцэну разам з Н е с ц е р к а м выходзяць с у с е д к і.

**Найгрыш**




Выкарыстана мелодыя песні «Па зарэччу зелле». Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 84. (Зап. Р. Шырма ў 1928 г. у в. Мядзел Маладзечанскай вобласці ад А. Давідовіч.)

1-я суседка. Ах ты, хаціца мяцёная, а чым жа ты тут украшоная?
2-я суседка. А ці цудамі?
3-я суседка. А ці музыкамі?
4-я суседка. А ці гаспадарамі без'языкімі?
5-я суседка. Просім Паўлінку не хавацца.
6-я суседка. Просім з намі павітацца.
Паўлінка *(весела)*. Добры дзень, суседачкі!
Суседкі. Добры дзень! З Багачом вас!
Несцерка. І вас, пчолачкі.
1-я суседка. Ці ў вас, гаспадары, двор на памосце?
2-я суседка. Ці ў вас нялюбыя госці?
3-я суседка. Чым частаваць нас будзеце?
4-я суседка. Ці квасам?
5-я суседка. А, можа, мёдам салодкім?
Несцерка. Суседачкі, мае мілы пташкі, навару я вам сёння кашкі.
Паўлінка. Суседкі, а мае ж вы любы, а я вам навару бульбы.
6-я суседка. Э, не — то не Багач, а якісь «галадач».
Несцерка. Ой, не перажывайце, прынясу я вам мядочку аж чатыры збаночкі: і сам пакаштую, і вас пачастую.
1-я суседка. О, знаць, наш Несцерка багата жывець.
2-я суседка. Яго гаспадарка далёка слывець.
3-я суседка. Што ж, кожны край мае свой абычай.
1-я суседка. Ідзі з людзьмі — то не згубішся.
2-я суседка. Блізкі сусед лепш дальняй радні.
Несцерка. Гэта ўсё мая жоначка працавітая.
4-я суседка. Так, аднаму ляпей толькі рыбу вудзіць.



Несцерка *(жартуе)*. Або да дзяўчат заляцацца.
5-я суседка. Сабака кудлаты — яму цёпла, а гаспадар багаты — яму добра.
6-я суседка. Тут, калі робіш у купе, — не баліць і ў пупе.
Паўлінка. Ведаеце, суседачкі, то ж закончылі жніво ў пору, і было што насіць у камору.
Несцерка. Дзякуй богу, усё было ў пару, то нацягаліся тут па двару.
1-я суседка. Вядома ж, хто ў жніўні пагуляе — той узімку галадае.
Несцерка. Ану, згадайце: залацісты і вусат, у ста карманах — сто рабят.
1-я суседка. То ж колас.
Несцерка. Ёсць у Бога скрыня — ніхто не падыме.

Усе маўчаць, думаюць.

Несцерка. То ж зямля-маці наша, і корміць нас, і адзяваіць.
2-я суседка. А ці ведаеш, Несцерка, чаму жыта мала родзіць?
Несцерка. Не.
2-я суседка. Калі першы раз Бог засеяў жыта сваёй рукой, то такое было харошае. Зярняты — як боб, каласы — як сеўрукі ў гаросе. Але як чорт прыдумаў з жыта гарэлку гнаць, то цяпер і дзясятай долі такое не родзіць. Вось як.
Несцерка. А каб яго Пярун пабіў.
3-я суседка. Успомніла, дзед мой загадваў: «Рыкнуў вол за сто гор, за сто рэчак, за сто печак, на сто дваццаць сажаняў».
4-я суседка. То што гэта?
3-я суседка. Пярун, мілая.
Паўлінка. Давайце, суседачкі, рыхтавацца да свята.
Несцерка. Так, пойдзем, трэба падрыхтаваць лубкі з жытам, пшаніцай, аўсом і ячмянём.
Паўлінка. Запрасіць яшчэ аднавяскоўцаў.
Несцерка. Дай «Багіню» стрэціць.

Пад музыку ўсе сыходзяць са сцэны.

**Найгрыш**





Выкарыстана мелодыя песні «Вылецела галка». Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 102. (Зап. Р. Шырма ў 1932 г. у в. Шакуны Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці ад Г. Шырмы 1864 г. н.)

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Дзеючыя асобы

Несцерка.
Паўлінка.
Гаспадар Антон.
Гаспдыня Антоніха.
дачка Адэля — «Багіня».
1-я дзяўчына.
2-я дзяўчына.
3-я дзяўчына.
4-я дзяўчына.
Хлопцы-музыкі.

На падворку дзяўчаты раскладаюць снапы, плятуць вянкі з каласоў, хлопцы-музыкі іграюць.

### Найгрыш

Спакойна



Выкарыстана мелодыя песні «Па зарэччу зелле». Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 84. (Зап. Р. Шырма ў 1928 г. у в. Мядзел Маладзечанскай вобласці ад А. Давідовіч.)

1-я дзяўчына. Так працую, дзяўчаты, замарылася.
2-я дзяўчына. Слухай, я таксама запылілася.
3-я дзяўчына. Так, работка наша пыльная.



4-я дзяўчына. Дай суседзям не завідная.
Хлопец. Відаць, Антон, як мядзведзь, недзе кару дзярэць.
Музыка. Ну, а Антоніха ваду бярэць.
1-я дзяўчына. А нашто яму кара?
2-я дзяўчына. Ага, нашто тут вада?
Хлопец. Эх вы, кара — у печы паліць.
Музыка. А вада нам — прысмакі варыць.
3-я дзяўчына. Бо іх дачку Адэлю будзем «Багіняй» упрыгожваць.
4-я дзяўчына. На тое і Багач — весяліся, паскач.

Выходзіць Антон з квасам.

Антон. Ой, дзевачкі-лябёдачкі, не гудзіце мне, прынёс я квас — упаю вас.
Хлопец. Так-так, Антон, упаі і нас, каб ішлі з Багача, пахваляліся.
1-я дзяўчына *(жартуе)*. Дай пад плотам павалялiся.
Музыка *(дзяўчыне)*. Гэй, між дзвярэй палец не садзі.
2-я дзяўчына. Антон, а чаму піва не варыш?
3-я дзяўчына. Ці ў цябе ячмень не ўрадзіў?
Антон. Не ўрадзіў ячмянёк, толькі пшоначка.
4-я дзяўчына. Ой, відаць, не вяліць табе твая жоначка.
Хлопец. Ці наша доля тут такая, ці Антоніха скупая?
Музыка. Ну, што не прыходзіць, піва-мёд не выносіць?
Хлопец. Гэй, гаспадыня-вутка, паварочвайся хутка!
Музыка. І ты, гаспадар-салавей, паварочвайся, ляці жывей!

Антон ідзе ў хату за Антоніхай, хлопцы іграюць, дзяўчаты працягваюць плесці вялікі вянок з каласоў.

### Найгрыш

Даволі хутка



Выкарыстана мелодыя песні «Пад дубіною, пад зеляною». Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 109.

Хлопец. Раскажу я вам, дзевачкі, чаму чалавек хлеб шануе. Быў час, калі ў чалавека ўсякага дабра многа было, асабліва хлеба. Кавалкі яго валяліся і па двары, і пад лаваю, і ў хляве — усюды. Убачыў гэта Бог і адабраў хлеб у людзей. Настаў голад, і людзі памерлі б усе.

1-я д з я ў ч ы н а. Як усе?

Х л о п е ц. Так старыя людзі гавораць. Але кот і сабака падышлі да Бога і сталі прасіць хлеба. Бог даў ім па каласку.

2-я д з я ў ч ы н а *(жартуе)*. І яны пачалі сеяць?

Х л о п е ц. Не, чалавек адабраў у іх каласы, пасеяў, нажаў многа хлеба, але ўжо пачаў шанаваць яго.

На сцэну выходзяць А н т о н, А н т о н і х а і іх д а ч к а А д э л я.

1-я д з я ў ч ы н а. Канец быў ніўцы, канец.

2-я д з я ў ч ы н а. Сплялі мы «Багіні» вянец.

А н т о н і х а. Сюды, мае дзевачкі, сюды, у нас ужо і сталы засцелены.

А н т о н. І кубкі паналіваны.

3-я д з я ў ч ы н а. А ты, Адэля, палі свечку дай выходзь к нам на сустрэчку.

Гаспадары запальваюць свечку і даюць яе дачцэ. У гэты час музыкі іграюць.

**Песня «Рада пірапёлка, рада»**







Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 88. (Зап. В. Сутулава ў 1989 г. у г. Маладзечна Мінскай вобласці ад Л. Г. Супруновай 1916 г. н.)

Рада пірапёлка, рада,[1]
Што лета даждала.
Рада гаспадынька, рада,
Што ўсё жыта пажала.

[1] Кожны радок паўтараецца.



Гаспадынька-цяцерка,
Ці гатова вячэрка?
Ці вялікі гаршчок кашы,
Ці пад'ядуць жнейкі нашы?

4-я д з я ў ч ы н а. Найсвяцейшая Маці па небу хадзіла.

1-я д з я ў ч ы н а. Калосся збірала.

2-я д з я ў ч ы н а. І ў вяночак звівала.

3-я д з я ў ч ы н а. Бо жытца настаялася ў полі дай накланялася Богу.

Музыкі іграюць, дзяўчаты карануюць «Багіню» вянком, утвараюць вакол яе кола. Гаспадары даюць дачцэ ў рукі лубок з зернем. За вянок «Багіня» дае дзяўчатам грошы.

**Песня «А я жала не ляжала»**




Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 87. (Зап. Г. Кутырова ў 1983 г. у в. Блонь Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці ад Т. П. Цапляевай 1909 г. н.)

А я жала не ляжала.[1]
Тры снапочкі нажала.
Ня едзь, паня, па снапочкі,
Прывязі нам збаночкі.

Б а г і н я. Прыгожы вянок, прыгожы, ядвабам віты. Дам я вам, дзевачкі, за гэта талер біты.

А н т о н і х а. А ты, гаспадарочку, частуй усіх мядком.

Гаспадар налівае ўсім мёду.

[1] Кожны радок паўтараецца.

1-я д з я ў ч ы н а. Эх, кубак мой наліваны, эх, кубак мой маляваны.
2-я д з я ў ч ы н а. Будзь жа здарова, «Багіня»!
3-я д з я ў ч ы н а. Дай божа, бацькам тваім на жыццё.
4-я д з я ў ч ы н а. На доўгі век.
Х л о п е ц. На багацце і на добры савет.

Співаюць і танцуюць вакол «Багіні».

**Песня «Пад лесам-ляском»**




Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / Уклад. В. Д. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995. — С. 103. (Зап. Г. Кутырова ў 1983 г. у г. Мінску ад ураджэнкі в. Баброва Лагойскага раёна Мінскай вобласці М. В. Яцэвіч 1910 г. н.)

Пад лесам-ляском
Бярозка з лістком
Усю восень шумавала.

— Бярозка мая,
Белая мая,
Як жа мы расстанемся?

— Ня бойсь, лісцятко,
Ня бойсь, жоўтая,
Лёгкая расставання.

Ветрык певея,
Лісток ападзе,
Голлятко стаяць будзе.

1-я д з я ў ч ы н а. Антон, а ці поўна залатая чаша налівана?
А н т о н *(смяецца)*. Ой, поўна, што не скалыхнецца, не разальецца.
2-я д з я ў ч ы н а. А ці поўна ў гаспадыні?



А н т о н і х а. Так поўна, што ў гумно не ўвайсці, не ўехаці, добра паглядзець.

Гаспадары абдымаюцца.

3-я д з я ў ч ы н а. Так, як Антон жонку абдымае, такое ён жыта мае.
4-я д з я ў ч ы н а. Абдымай, Антон, часцей, будзе жыта гусцей.
А н т о н. Ну, чэсная публіка, трэба і да суседзяў з Багачом зайсці.

Гучыць музыка, выстройваецца шэсце: Багіня з лубком зерня, дзяўчаты ў вялікіх вянках з каласоў, гаспадары. Усе яны накіроўваюцца на падворак Несцеркі і Паўлінкі, дзе стаяць упрыгожаныя абрусамі сталы. На іх — лубкі з жытам, аўсом, пшаніцай і ячмянём.

**Песня «А каціўся вянок з поля»**




Мажэйка З. Я., Варфаламеева Т. Б. Песні Беларускага Падняпроўя / Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. — Мінск: Беларуская навука, 1999. — С. 155. (Зап. З. Мажэйка ў 1978 г. у в. Заазер'е Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці ад М. С. Аўсеевіч 1914 г. н.)

А каціўся вянок з поля,[1]
Ён прасіўся ды пакоя:
— Я ў полі настыяўся,
Я вецікым намыхаўся,
Ветры мяне пывівалі,
Дажджы мяне зымачылі.

Н е с ц е р к а. Праходзьце да нас, ці наша хата горшая за другіх?

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы спяваюцца двойчы.

П а ў л і н к а. А калі не зойдзеце, то мне няёмка перад людзьмі будзе.

Б а г і н я *(да Несцеркі і Паўлінкі).* Няхай у вас будзе лён такі даўгі, колькі мы прайшлі.

Н е с ц е р к а. Дзякуй, «Багіня».

П а ў л і н к а. Золата, наша золата на таку ўмалочана.

А н т о н. І на стале насыпана.

А н т о н і х а. Хто ж гэта золата палічыць?

Н е с ц е р к а. Гудзець падворак, гудзець.

П а ў л і н к а. Бо «Багіня» ідзець.

Б а г і н я. Дзякуй табе, моцны Божа, што дапамог сабраць збожжа.

1-я д з я ў ч ы н а. Прайшлі мы, дзяўчаты, усе падворкі з «Багіняй». І вось дайшлі да канца вёскі, да самай граніцы.

2-я д з я ў ч ы н а. Так, у Паўліны шырокія спадніцы.

3-я д з я ў ч ы н а. Глядзіш, спадніцамі патрасець і нам чаго-небудзь прыкусіць прынясець.

Х л о п е ц. Ага, мінулі тыя часы, як лёталі кілбасы.

Б а г і н я. А хто на Багача шкадуе зарэзаць барана, то таго барана яму воўк парве.

Н е с ц е р к а. Так, жоначка, ідзі ў піўнічку, утачы мёду дайнічку.

Пакуль гаспадары ідуць за пачастункамі, дзяўчаты танцуюць з каласкамі вакол «Багіні». Пасля танцаў гаспадары запрашаюць усіх за сталы.

**Песня «Казачэнька, мой міленькі»**

Павольна, з рухам. Жартаўліва ♩ = 126












Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Гомел. вобл. / уклад. В. А. Захарава і інш.; уклад. муз. часткі У. І. Раговіч. — Мінск: Універсітэцкае, 1989. — С. 277. (Зап. Р. Яраслаўцава, Е. Абраменка ў 1984 г. у г. Жлобін Гомельскай вобласці ад К. Бабальковай 1912 г. н., Л. Шчукінай 1910 г. н., В. Аўсянікавай 1910 г. н., Н. Абраменкі 1934 г. н.)

— Казачэнька, мой міленькі,
Дзе мы будам з табою жыць?
— Ой, у гаёчку, ой, у зялёным,
Ты, мая мілая, дарага.[1]

— Казачэнька, мой міленькі,
Што мы будзем снедаці?
— Я ж пап'ю чай, а ты не скучай,
Ты мая мілая, дарага.

— Казачэнька, мой міленькі,
Што мы будам абедаць?
— Я ж паем боршчык, ты ж ліжы горшчык,
Ты мая мілая, дарага.

А н т о н. Эх, як сядзем мы на лавачцы, эх, як вып'ем мы па чарачцы.

А н т о н і х а. Эх, як сядзем мы на роўненькай, эх, як вып'ем мы па поўненькай.

Несцерка выносіць збаночак мёду, аддае Паўлінцы.

Н е с ц е р к а. Садайце, госцейкі радком. *(Сам ідзе па квас.)*

П а ў л і н к а. Частуйцеся мядком. *(Частуе гасцей.)*

А н т о н. Чарачка-каточак, каціся ў раточак, каб не балеў жываточак.

1-я д з я ў ч ы н а. Ой, слухайце, ці не пчолка зазвінела звонка?

2-я д з я ў ч ы н а. Ды не, то не пчолка. То гаспадыня па двару хадзіла.

3-я д з я ў ч ы н а. Ага, ключыкі насіла.

4-я д з я ў ч ы н а. Каморы адкрывала, гасцей частавала.

П а ў л і н к а. Але дзе ж мой Несцерка?

А н т о н і х а. А і праўда, пайшоў па квас і сам згас.

Н е с ц е р к а *(выходзіць і жартуе).* Ой, аказаўся я дома, але ж ездзіў да Шклова.

П а ў л і н к а. Чарачак пакупаці, каб вас частаваці, музыкамі забаўляці. Ану, музыкі, разніце «Скакуху» або «Жураўля».

Музыкі іграюць, усе танцуюць.

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы спяваюцца двойчы.

### Песня «Ой, там на таргу, на базары»

Рухава, жартаўліва ♩ = 116

Сола

Хор

Ой, там на тар-гу, на ба-за-ры

Жон-кі му-жы-коў тар-га-ва-лі. Як прый-дзец-ца да ла-ду,

Дак я свай-го па-вя-ду дай пра-дам.

Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Гомел. вобл. / уклад. В. А. Захарава і інш.; уклад. муз. часткі У. І. Раговіч. — Мінск: Універсітэцкае, 1989. — С. 276. (Зап. Р. Ярослаўцава, Е. Абраменка ў 1984 г. у в. Праскурні Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці ад М. Аніскаўцавай 1912 г. н., А. Аўсянікавай 1928 г. н., З. Салагубавай 1912 г. н., Н. Гапонавай 1938 г. н.)

Ой, там на таргу, на базары
Жонкі мужыкоў таргавалі.
Як прыдзецца да ладу,
Дак я свайго павяду дай прадам.[1]

Із лык матузоў навязала,
Дай на мілага павязала.
Як прывезла на базар,
Да церніцы прывязала.

Як наехалі пакупніцы,
Як наехалі таргаўніцы.
Сталі думаць і гадаць,
Што за майго мужа даць?

А за майго мужа трэба даць,
А за майго мужа трэба даць:
Пару коней вараных,
Шчэй сто рублей залатых.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.



З коньмі нада вадзіцца,
А з грашамі нада насіцца,
А мой мілы чарнабрывы,
На работу не лянівы,
Ён самой мне прыгадзіцца.

Ён пасее і паарэ
Ні для каго, для мяне.
Мой міленькі, даражэнькі,
Пажалею я цябе — не прадам!

П а ў л і н к а. Што ж, даў Багач у гэтым годзе дастатак у кожную сям'ю.

А н т о н. Прынёс Багач дабрабыт, шчасце.

А н т о н і х а. Думаю, ніхто не адмовіўся ад такога багацця.

Н е с ц е р к а. А яно ж, вядома, у гэтым кошыку. *(Паказвае на кошык з зернем.)*

П а ў л і н к а. Будзе зерне — будзе хлеб, самае святое і дарагое для кожнага чалавека.

А н т о н. Бо менавіта дзякуючы яму, людзі жывуць на белым свеце. Будзе хлеб — будуць гучаць песні бабуль-дзядоў.

А н т о н і х а. Будуць песні — паспяваем, пагуляем на святах.

Н е с ц е р к а. А будуць святы, то і нашы дзеткі павучацца ад старэйшых, як на нашай святой зямельцы жыць трэба.

Спяваюць развітальную песню і сыходзяць са сцэны.

### Песня «На зарэ снапы носяць»

Умерана

На за-рэ сна-пы но-сяць, На за-рэ сна-пы

но-сяць, Пры свя-чы вя-чэ-ра-юць.

Ширма Г. Р. Двести белорусских народных песен / под общ. ред. С. В. Аксюка. — М.: Советский композитор, 1958. — С. 50.

На зарэ снапы носяць,[1]
Пры свячы вячэраюць.

Ой, выйдзі, гаспадару,
Напроці свайго двору.

Дай на жыта стадолу,
А для жэнчыкаў святліцу.

Ты скупы гаспадару,
Ты не стой за дзвярыма,

Ты не стой за дзвярыма,
Вынесь бочку піва
І гуску на закуску!

З а с л о н а

**Літаратура**


1. Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Гомел. вобл. / уклад. В. А. Захарава і інш.; уклад. муз. часткі У. І. Раговіч. — Мінск: Універсітэцкае, 1989.
2. Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыц. жанры: Мінск. вобл. / уклад. В. Ліцвінка; уклад. муз. часткі Г. Р. Кутырова. — Мінск: Універсітэцкае, 1995.
3. Беларускі фальклор: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / склад. К. П. Кабашнікаў і інш. — Мінск: Выш. шк., 1996.
4. *Лозка, А. Ю.* Беларускі народны каляндар. — Мінск: Полымя, 1992.
5. *Мажэйка, З. Я.* Песні Беларускага Падняпроўя / З. Я. Мажэйка, Т. Б. Варфаламеева. — Мінск: Беларуская навука, 1999.
6. Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі: у 3 т. — Мінск, 1997. — С. 8—9. — Т. 1: Ад вытокаў — да пачатку XX ст.


[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.



# БАТЛЕЙКА

Драма з удзелам касцюміраваных персанажаў і лялек

**Дзеючыя асобы**

Б а т л е й ш ч ы к і - л я л е ч н і к і.
Т р ы ц а р ы.
А н ё л.
А н ё л - л я л ь к а.
П а с т у ш о к - л я л ь к а.
П а с т у ш к а - л я л ь к а.
І р а д.
І р а д - л я л ь к а.
І р а д з і я д а.
1-ы в о і н.
2-і в о і н.
1-ы в о і н - л я л ь к а.
2-і в о і н - л я л ь к а.
С м е р ц ь.
Ч о р т.
Д' я б а л.
С м е р ц ь - л я л ь к а.
Ч о р т - л я л ь к а.
Х о р.
З в а н а р ы.

## ПРАЛОГ

Гучыць песня або музыка. На сцэну выходзіць А н ё л у белым адзенні, адкрывае двухпавярховую батлейку («зямля» і «пекла»), запальвае свечы, якія асвятляюць верхні ярус, і становіцца перад батлейкай.

**Песня «Свецяць, свецяць зорачкі»**

Зборнік «Калядоўшчыкі»
пад рэдакцыяй прафесара М. Куліковіча

Умерана






Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі: у 3 т. — Мінск, 1997. — С. 8—9. — Т. 1: Ад вытокаў — да пачатку XX ст.

Свецяць, свецяць зорачкі, свецяць зоркі[1]
Брылянцістыя, свецяць
На палі, узгорачкі,
На лясы цяністыя.

Ціша сёння ўвечары
На ўвесь свет пасцелецца,
Залатымі шышкамі
Мы асыплем ёлачку.

Загарымся свечкамі,
Залатымі, яснымі.
Слава Богу Узвышняму,
На зямельцы шчасцейка.

А н ё л *(спакойна, пад гукі званочкаў).* Збавіцель Свету — Гасподзь наш Ісус Хрыстос нарадзіўся ад Прачыстае Дзевы Марыі. Дзева Марыя і заручаны з ёю праведны Іосіф пайшлі з Назарэта ў Давідаў горад Віфліем. З прычыны сваёй беднасці яны былі вымушаны размясціцца ў пячоры, куды пастухі ў непагадзь заганялі скаціну. У такіх абставінах, апоўначы, як апавядае царкоўнае паданне, Дзева нарадзіла Бога Дзіця.

Гучыць песня пра нараджэнне Хрыста. На верхнім ярусе батлейкі з'яўляюцца п а с т у ш к і.

[1] Паўтараецца пасля кожнага радка.



**Песня «Нова радасць стала»**







Беларускія канты / Беларускі інстытут праблем культуры; уклад. Л. П. Касцюкавец. — Мінск: ВППбелНДІНТІ, 1992. — С. 11.

Нова радасць стала, яка не бывала,
Над вярцепам звязда ясна на ўвесь белы свет заззяла.

Дзе Хрыстос нарадзіўся, з Дзевы ваплаціўся,
Як чалавек спавіваны ў Бога ператварыўся.

Пастушкі з ягняткам перад гэтым дзіцяткам
На калені ўпадаюць, пана Бога праслаўляюць.

П а с т у ш о к - л я л ь к а. Мы пастухі Віфлеемскія.
П а с т у ш к а - л я л ь к а. Пасвілі сваю скацінку.
П а с т у ш о к - л я л ь к а *(здзіўлена).* Раптам, у вялікай цемры, заззяла незвычайнае святло.
П а с т у ш к а - л я л ь к а *(спалохана).* Мы спужаліся.
П а с т у ш о к - л я л ь к а. А Янгал нам сказаў.

Да батлейкі падыходзіць Анёл і звяртаецца да пастушкоў-лялек.

А н ё л *(супакойвае, пад гукі званочкаў).* Не пужайцеся, гэта нарадзіўся Цар Славы, ідзіце і пакланіцеся яму.

Пад гукі песні пастухі-лялькі сыходзяць з верхняга яруса. Анёл стаіць ля батлейкі, над якой лялечнікі ўздымаюць «Віфлеемскую зорку». Пачынаюць гучаць званочкі.

**Песня «Скиния златая»**















Беларускія канты / Беларускі інстытут праблем культуры; уклад. Л. П. Касцюкавец. — Мінск: ВППбелНДІНТІ, 1992. — С. 18.

Скиния святая ковчеже завета,
Видящи днесь младенца Сына повита.

*Припев:*
Радуйся, Марие, радуйся, присно Дево,
Во нетленном рождестве твоем.

Пастырием со ангели тайна явися,
В Вифлием, во вертепе Христос родися.

Звезда ясна сияет, ему служащие,
Три цари приходят, дары носяще.

О, Марие Богомати! Молися за нас,
Да возможен тя хвалити мы на всякий час.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

А н ё л *(павярнуўшыся да «Віфлеемскай зоркі», пад гукі званочкаў).*

Нова радасць стала, яка не бывала,
Над вярцепам звязда ясна вассіяла.

*(Праз хвіліну да зоркі «вылятае» мноства анёлаў — папяровых лялек.)*

Перад ёй весялімся, Хрысту пакланімся,
Яко Цару раждзённаму, Богу прадвечнаму.
Пастушкі з ягняткам перад гэтым дзіцяткам
На калені ўпадаюць, галавы скланяюць.

Выходзяць б а т л е й ш ч ы к і - л я л е ч н і к і і становяцца тварам да «Віфлеемскай зоркі».

А н ё л *(пад гукі званочкаў).* А пасля гэтага прыйшлі з Усходу вешчуны-астролагі і пачалі пытацца. *(Сыходзіць за батлейку.)*

Гучыць песня, пад якую да батлейкі (магчыма праз залу) ідуць Т р ы ц а р ы ў прыгожым адзенні з невялічкімі куфрамі, у якіх нясуць дары.

**Песня «Нова радость свету ся з'явила»**






Беларускія канты / Беларускі інстытут праблем культуры; уклад. Л. П. Касцюкавец. — Мінск: ВППбелНДІНТІ, 1992. — С. 56.

Новая радость свету ся з'явила: пречиста Дева Сына породила,
Во Вифлееме месте дуже рано, витати Христа пастырям сказано,
Звезда услугу тую отправляла: царей персийских к Нему провожала,
Принесли ему ливан, смирну, злато, взяли заплату небесную за то.

А н ё л *(працягвае).* Тры цары добрай веры носяць дары: мір, кадзіла, золата.

Т р ы ц а р ы *(пасля песні).*

Дзе цар Іудзейскі,
Які нарадзіўся?
Мы бачылі Зору яго на Усходзе,
І прыйшлі пакланіцца яму.

Пад гукі барабана на верхнім ярусе батлейкі з'яўляецца Ірад-лялька.

І р а д - л я л ь к а. Цары-друзья, куды пуць дзержыцця?

Т р ы ц а р ы *(да Ірада, які ў батлейцы).*

Ідзём к навароджанаму.
У яслі палажонаму.
Дары прынесці.

І р а д - л я л ь к а *(ганарліва).* Ідзіце — і мне вазвясціце, і я паклянюся яму. *(Выходзіць з верхняга яруса.)*

Да Трох цароў выходзіць Анёл.

А н ё л *(ціха шэпча).* Іншым шляхам ідзіце, а Ірада не слухайце.

Т р ы ц а р ы *(трывожна).* Што, Ірад мысліць лукава?

А н ё л *(паказвае рукой убок).* Так, вярніцеся ўправа.



Т р ы ц а р ы *(спакойна).*

Дзякуем табе, Анёле,
Што нам шлях Божы паказаў,
Ісці направа прыказаў.

Гучыць песня, Т р ы ц а р ы сыходзяць са сцэны (могуць зноў прайсці праз залу, сярод гледачоў).

**Песня «Дар ныне пребогатый от небес сниде»**










Беларускія канты / Беларускі інстытут праблем культуры; уклад. Л. П. Касцюкавец. — Мінск: ВППбелНДІНТІ, 1992. — С. 19.

Дар ныне пребогатый от небес сниде,
Яко капля каплющая на землю спаде.
Яко небо второе, вертеп явися,
Где во яслех во убогих Бог возложися.
Ангельские все хоры там притекают,
На облацех с веселием песнь воспевают.
Слава в вышних Богу, изволившему
Даровати, низпослати мир Миру всему!

А н ё л *(выходзіць бліжэй да гледачоў)*. І пайшлі цары ў іншыя краі Хрыста славіць. Паводле падання, вешчуноў звалі Мельхіёр, Гаспар і Валтасар. І былі яны прадстаўнікамі трох рас роду чалавечага.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Здалёк чуюцца гукі барабана.

А н ё л *(працягвае)*. Калі дазнаўся пра гэта цар Ірад, то надта ж усхваляваўся, бо думаў, што навароджаны адбярэ ад яго пасад, і задумаў загубіць Ісуса. *(Ідзе за батлейку.)*

І р а д - л я л ь к а *(з'яўляючыся на верхнім ярусе батлейкі пад гукі барабана)*. Так, здрада стала чутна ў нашай дзяржаве! Столькі год я сядзеў на царскім троне, цяпер жа буду сядзець у падзямельным доме? *(Сярдзіта.)* Воі, воі мае, станьце перада мною, як ліст перад травою!

Чуецца лязг жалеза, і да Ірада з-за батлейкі справа і злева выходзяць в о і н ы - л я л ь к і.

1-ы в о і н і 2-і в о і н *(уваходзяць з нізкім паклонам)*. О, грозны цар Ірад.

1-ы в о і н - л я л ь к а. Па што нас прызываеш?

2-і в о і н - л я л ь к а. І якія грозныя загады павелеваеш?

І р а д - л я л ь к а *(павучальна)*. Воі мае, ідзіце ўсіх немаўлят перабіце, ніводнага не мініце.

Чуецца лязг жалеза, і в о і н ы - л я л ь к і сыходзяць з верхняга яруса батлейкі. Потым чуюцца дзіцячыя крыкі, плач. На сцэне з'яўляецца А н ё л у чырвоным адзенні, які падыходзіць да батлейкі з запаленай свечкай. Фонам гучыць царкоўная музыка.

А н ё л *(сумна)*. Ах, цар, цар, што робіцца ў тваім родзе?

І р а д - л я л ь к а *(грозна)*. Што?!

А н ё л. Загінуў ты бяспечна.

І р а д - л я л ь к а *(сурова)*. Хто?!

А н ё л. Загінуў ты бяспечна і страціў неба навечна.

І р а д - л я л ь к а *(задзірлівым тонам)*. А што мне да неба? Лепш быць каранаваным, чым выратаваным. *(Сыходзіць з верхняга яруса батлейкі.)*



## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Чуецца сумная музыка. Да батлейкі праз залу ідзе ж о н к а І р а д а.

### Песня «Усесьвятая Дзева»

Тэкст народны

Музыка з беларускага Багагласніка

С А

Б Т

1. Усе - свя - та - я Дзе - ва, на - ша Ца - ры - ца,
2. Ты за нас ма - лі - ся ма - гут - на - га Бо - га,

Мы ця - бе клі - чам — за нас ма - лі - ся.
Каб ён нас збаў - ляў ад ўся - го зло - га!

1.

Мы пры - бя - га - ем і ру - кі ўз - но - сім —










Усесьвятая дзева, наша Царыца,
Мы цябе клічам — за нас маліся.
Мы прыбягаем і рукі ўзносім —
Ратуй нас, ратуй нас, рупліва просім!
Мы прыбягаем і рукі ўзносім —
Ратуй нас, ратуй нас, рупліва просім!



Ты за нас маліся магутнага Бога,
Каб ён нас збаўляў ад усяго злога!
Цябе услаўляем, і сэрцы прыносім —
Пачуй нас, пачуй нас, пакорна просім!
Цябе услаўляем, і сэрцы прыносім —
Пачуй нас, пачуй нас, пакорна просім!

Ірадзіяда *(падышоўшы да батлейкі, плачучы)*. Цару мой, цару.

Ірад *(выходзіць насустрач)*. Што, жонка мая, Ірадзіяда?

Ірадзіяда. Міласцівы гаспадару.

Ірад *(сурова)*. Чаго табе?

Ірадзіяда *(панура)*. Не раздражняй матчынае ўтробы.

Ірад *(сярдуючы)*. Што?!

Ірадзіяда.

Не ўганяй дзетачак ва гробы,
Каб нам цераз іх у вагні не гарэць
І ў смале не кіпець.

Ірад *(галосна)*. Ідзі, адкуль прыйшла!

Ірадзіяда *(плача)*. Ай, цару, мой цару.

Ірад. Не слухаю тваю параду. Толькі на сваё сумленне маю ўвагу.

Ірадзіяда *(крычыць у адчаі)*. Ірад ты праклятый!

Ірад. Што? *(Злосна.)* Цару такое?

Ірадзіяда. Пойдзеш ты аж да аду, к Люцыферу на параду.

Ірад *(смяецца)*. Сама пойдзеш!

Ірадзіяда. Убачыш, у агні табе гарэць, у смале табе кіпець.

Ірад *(з гневам)*. Ах ты, баба агністая, скаціна рабрыстая! Я сваіх царскіх слоў ніколі не змяняю. Прэч!

Ірадзіяда *(бяссільна)*. Ах, пайду я, пайду ў цёмны лес...

Ірад *(перабівае)*. Ідзі, ідзі.

Ірадзіяда *(зусім слаба)*. У высокія горы...

Ірад *(перадражніваючы)*. У вы-со-кі-я го-ры.

Ірадзіяда *(павольна сыходзіць са сцэны)*. Каб мае вочы нічога не бачылі і вушы нікога не чувалі.

Ірад *(жартуючы)*. А-у, а-у! *(Далей звяртаецца да гледачоў.)* Во, ужо не чуе.

Ірадзіяда *(здалёк)*. Спаткаю якога звера, каб ён у мяне жыццё забраў.

Ірад *(крычыць Ірадзіядзе)*. Каб яшчэ аб гэтым мне галава балела. *(Павярнуўшыся да гледачоў)*. Што жонка, тут... *(азіраецца)* царскі трон. *(Далей крычыць Ірадзіядзе наўздагон.)* Ідзі, ідзі, паспяшай, сама сябе суцяшай! *(Пасля слоў задаволены ідзе за батлейку, шчасліва паціраючы рукамі карону на галаве.)*

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Чуюцца здалёк гукі барабана. На верхні ярус батлейкі выходзіць ц а р І р а д - л я л ь к а.

І р а д - л я л ь к а *(моцна).*
Гэй, Воі мае, Воі вааружоны,
Станьце перада мною, як ліст перад травою!

Пад лязг жалеза да батлейкі злева і справа выходзяць воіны, адзін трымае ў руках перавязаны хусткай куль — «галаву» сына Ірада.

1-ы в о і н і 2-і в о і н *(трывожна).* О, грозны цар Ірад.
1-ы в о і н. Па твайму прыказу ў Віфлеемскія краі схадзілі.
2-і в о і н *(са страхам).* Усіх немаўлят перабілі.
1-ы в о і н *(ціха).* Нават твайго сына не мінулі.
2-і в о і н *(спалохана).* Вось, маем дакумент.
1-ы в о і н *(вельмі ціха).* Галаву твайго сына.

За батлейкай зноў пачынае гучаць песня «Усесвятая Дзева». Ірад-лялька слухае. в о і н ы, апусціўшы галовы, ідуць панура за батлейку.

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

І р а д - л я л ь к а *(пачынае ўсхвалявана хадзіць па верхнім ярусе батлейкі).* Ах, галава, галава майго сына. *(З плачам.)* Ах, галава майго сына. Сына майго. *(Праз хвіліну.)* Ірадзіяда?! *(Стогнучы балесна.)* Бывай і ты, мая любая жонка, бывай.

Далей І р а д - л я л ь к а сыходзіць з батлейкі. Перад батлейкай на сцэну выходзіць касцюміраваны І р а д.

І р а д *(крычыць).* Ай, дайце мне чым сябе забіці! *(Бегае каля батлейкі).* Не хачу, не хачу я ніводнага дня на гэтым свеце жыці! *(Падае на сцэну, плача, а потым ляжыць нерухома.)*

Яшчэ гучыць музыка, але нечакана здалёк чуюцца гукі, якія нагадваюць «танец шкілетаў». Праз залу ідзе С м е р ц ь.

## ДЗЕЯ ШОСТАЯ

У чорным доўгім адзенні з драўлянаю касою яна нечакана з'яўляецца перад Ірадам.

С м е р ц ь. Я ёсць манархіня сяму свету, пане. Я бываю ва ўсякай старане, усе князі і цары пад уладай маёй. Таму, што ўсіх вырубаю касою сваёй. *(Ганарліва.)* Хопіць табе, цар, слёзы ліць. Поўна табе, Ірад, царстваваць. Пара табе ў пекла паступаць.



І р а д *(устаўшы на калені, спалохана глядзіць).*
Друзья-воіны!
Станьце перада мною,
Як ліст перад травою!
Праганіце гэтую шэльму!

Чуецца лязг жалеза, на верхні ярус батлейкі выходзяць в о і н ы - л я л ь к і, але, убачыўшы Смерць, кідаюцца наўцёкі.

1-ы в о і н - л я л ь к а *(са страхам).* А-ёй, ратуйце!
2-і в о і н - л я л ь к а *(спрытна бяжыць, даганяючы 1-га воіна).* Сама Смерць? Уцякайма хутчэй!
С м е р ц ь *(смяецца, тузаючы Ірада).*
О, Ірадзе нячысты,
О, Ірадзе пракляты!
Што ты лаеш? *(Б'е драўлянай касой па плячах Ірада.)*
Ці ты мяне не знаеш?
Што ты воінаў прымушаеш? *(Ірад адмахваецца і ўстае з каленяў.)*
Прагнаць мяне павелеваеш? *(Пагражаючы падыходзіць да Ірада.)*
І р а д *(кіўнуўшы галавою).*
А я вялю, вялю цябе ізрубіць,
Косці твае ў агні спаліць!
А попел твой размесці. *(Дзьме на кулак.)* Фу-фу-фу!
С м е р ц ь *(падступаючы бліжэй, злосна).* Ці не ты мае косці паліць будзеш?
І р а д *(адступаючы).* Буду!
С м е р ц ь *(усміхаючыся).* Ці не ты мой попел месці будзеш?
І р а д *(прысядаючы).* Бу-ду, бу-ду-у-у-у!
С м е р ц ь *(скрыгочa зубамі).* Выйдзі-ка, мой брацец, мне тут падсабіць. *(Свішча.)* Ірада-мучыцеля ў бездань справадзіць! *(Зноў моцна свішча.)*

## ДЗЕЯ СЁМАЯ

На сцэну (магчыма з-за батлейкі) жвава вылятае Ч о р т з чорнай тканінай або посцілкай, бегае вакол Ірада, хоча яго схапіць, але той адбіваецца.

Ч о р т *(сярдуючы).* Ах ты, Ірадзе пракляты!
Не хочаш дабравольна ў рукі падацца?
І р а д *(круціць галавою).* Яшчэ чаго? Я — цар! *(Павярнуўшыся да батлейкі.)* Воі мае! Воі! Вы дзе?
С м е р ц ь *(злосна).* І што, ты хочаш з намі ваяваць?
І р а д *(дрыжыць).* Хачу не хачу, а так не здамся.

Ч о р т *(да Смерці).* А можа паклічам брата з самага пекла?
С м е р ц ь *(вельмі задаволена).* А што!
Ч о р т і С м е р ц ь *(моцна крычаць).* Д'ябле! Д'ябле!

Чорт і Смерць пачынаюць крычаць, пасля чаго раздаецца страшэнны шум. Пачуўшы яго, Ірад са страхам падае на сцэну. Зверху сцэны (і ў зале, калі ёсць такая магчымасць) чуецца моцны і страшны голас Д'ябла, які можна «пасляць» у жалезны посуд або збанок.

Д' я б а л *(страшна, з «рэхам»).* Што, Смерць, мая маці? *(Рэха: «маці, маці».)*
С м е р ц ь *(звысоку глядзіць на Ірада).* Надгробная песня Іраду спета?
Ч о р т *(з'едліва).* Спета, спета. *(Весела скача вакол Ірада.)*
Д' я б а л *(Іраду).* Лішаешся ты, цару, белага света. *(Рэха: «света, света».)*
С м е р ц ь і Ч о р т. Лішаешся!
І р а д *(моцна дрыжыць і шэпча).*
Воіны, мае воіны,
За што вы мне прысягалі?
Каб мае палаты нерушымы бывалі. *(Далей ва ўвесь голас.)*
Вы на парозе хутчэй станьце!
Няўсыпна мяне асцерагайце. *(Пачынае крычаць і ўстае.)*
С м е р ц ь градушчую да мяне не пускайце! *(Праз хвіліну азіраецца здзіўлена, што воі не выходзяць, і пачынае плакаць).*
А прыйдзе Смерць — ваюйце з ёй, колькі можаце. А-а-а-а!
С м е р ц ь *(сурова).* Баішся страшнага суда?
І р а д *(жаласна).* Ах ты, Смерць страшна і безабразна, нашто знянацку да мяне прыйшла?
Ч о р т. Чалавеча бедны, успомні час паследні. *(Цягне Ірада за руку.)* Цар-царук — адкормлены вяпрук. Ха-ха-ха! Не гардзіся, не прывазнасіся на гэтым свеце.
Д' я б а л і С м е р ц ь. На гэтым свеце. *(Рэха: «свеце, свеце».)*
С м е р ц ь. Глянь, грэшнік, толькі вачыма, кругом бездань зрыма.
Ч о р т *(насмешліва).* У прылесным гэтым свеце Смерць дзержыць усіх на прымеце.
Д' я б а л і С м е р ц ь. На гэтым, Ірадзе, свеце. *(Рэха: «свеце, свеце».)*
Д' я б а л. Не ўступіць ні манархам, ані патрыярхам. *(Рэха: «...хам, хам, хам».)*
Ч о р т *(снуючы вакол Ірада).* Нікому!
І р а д *(моліцца).* Аддам вам палаты, усё царскае злата, а?



Ч о р т. Ха-ха-ха!
Д' я б а л. Каб так можна было, купцы бы слажылісь
Дай ад Смерці-маці адкупілісь. *(Рэха: «...пілісь, пілісь».)*
Але ад Смерці не ўцячэш і нідзе не схаваешся. *(Рэха: «...ешся, ешся».)*
Ч о р т, С м е р ц ь і Д' я б а л. На гэтым свеце. *(Рэха: «свеце, свеце».)*
І р а д *(стомлены падае на калені).* Ах, увы, бяда, відаць, прыйшла і да мяне чарада? Стаіць нада мною Смерць суха і боса, скрыта ў яе пякельная труба і коса.

## ДЗЕЯ ВОСЬМАЯ

Найгрыш на трубе або сурме. Ч о р т хоча «пацягнуць» І р а д а, але С м е р ц ь падступаецца бліжэй.

### Гучыць «Моление»

Музыка з беларускага Багагласніка
Апрацоўка К. Насаева







Моление сам услыша убогих
Тающих всех, тающих всех от адских мучений строгих.
И гласяще воспеваю песнь нову
Единому небеси и земли Богу.

Сицевая всем радости зовуще
Спасителю осанна в вышних поюще.

С м е р ц ь *(Чорту).* Аддай мне маё — тады я пайду! *(Далей Іраду.)* Маю права на цябе, царочку. Ты — мой! *(Страшна крычыць.)* Мой!!!

І р а д *(спалохана).* Ай, гвалт, ра-туй-це!

Ч о р т *(чапляецца за плечы Ірада).* Крычы, крычы, каб табе ражон у горла ўлез.

Д' я б а л *(сурова).* Смярдзюх, маўчы! *(Рэха: «маўчы, маўчы».)*

С м е р ц ь *(штурхаючы Ірада).* Час табе развітацца з гэтым светам. Бо колькі на свеце не гуляць, а мяне нікому не мінаць.

Ч о р т *(сеўшы на плечы Іраду).* На які ты, паночку-царочку, вочкамі глядзіш, лупаеш.

Д' я б а л. Пойдзеш з намі ў цемру вечную. *(Рэха: «вечную, вечную».)* *(Бяруць чорную тканіну або посцілку, якую Чорт падымае над Ірадам.)*

І р а д *(плачучы).* Ой, не хацелася б мне яшчэ ўміраці.

Ч о р т *(са здзіўленнем).* А што б табе яшчэ хацелася?

І р а д. Трошкі пачакаці. *(Праз хвіліну, асцярожна.)* Можа яшчэ паваяваці?

Д' я б а л *(цвёрда).* Ці ты не знаеш, што Смерць усіх у баю мацнейшая? *(Рэха: «мацнейшая, мацнейшая».)*

Ч о р т *(насмешліва).* І ўсіх глаўнейшая. *(Мацае Ірада.)* Ух, многа сала, наша сала! Добрая будзе пахлёбка!

С м е р ц ь *(тузаючы Ірада).* Ну-ка, падымайся, пад касу падстаўляйся.

І р а д *(плачучы).* Не, не! Не хачу! *(Адбіваецца ад Смерці.)*

Д' я б а л *(сурова).* Што? Ты спорыш з маёй сястрою? *(Рэха: «...строю, строю».)* Сястра, удар яго сваёй касою! *(Рэха: «касою, касою».)*

Ч о р т *(замахваецца над галавой Ірада).* Як зваліцца твая галава — нам будзе чэсць і хвала.

## ДЗЕЯ ДЗЕВЯТАЯ

І р а д просіць адтэрміноўку.

І р а д *(жаласна).* Не хачу я па пекле шляцца. Дайце адсрочкі на адзін год.

Ч о р т *(злосна).* Ні на месяц!

І р а д *(стогнучы).* Дайце хоць на адзін месяц.

Ч о р т і С м е р ц ь *(цвёрда).* Ні на адзін час!

І р а д *(крычыць у адчаі).* Дайце, хоць на міну...(тку!)



Ірад моцна крычыць апошні раз і сціхае. Чорт і Смерць накрываюць яго чорнай тканінай. Гучыць музыка, званы. На сцэну з запаленай свечкай выходзіць А н ё л у чорным адзенні, які хоча забраць душу Ірада, але яго не пускаюць Чорт і Смерць. Яны моўчкі стаяць над нерухомым Ірадам.

А н ё л
*(сумна)*

Ой, ішлі-прайшлі да Тры Янгалы.
Што вялі яны душу, душу грэшную.
Ой, і што жа ты, душа, міма Раю прайшла?
Ой, і чым жа ты, душа, правінілася?
Ці за скупасцю, ці за глупасцю?
Ці вянец разрушыў, ці душу загубіў?
Душу... за-гу-біў...

Працягвае гучаць музыка, званы. А н ё л гасіць свечку і, плачучы, сыходзіць. Чорт і Смерць вядуць або цягнуць Ірада за батлейку. У гэты час на ніжнім ярусе батлейкі адкрываецца заслона. Там — пекла (намаляваны катлы, агонь і дым). Чуюцца стогны, крыкі і плач грэшнікаў. На ніжні ярус батлейкі выходзяць лялькі Чорт і Смерць, якія цягнуць за сабою Ірада. На верхнім ярусе з'яўляецца А н ё л - л я л ь к а.

А н ё л - л я л ь к а

Як расплачуцца, разрыдаюцца грэшнікі,
Перад вогненнай ракой стоячы,
Абрываючы на сабе цела грэшнае,
Айца, мацер сваю ўспамінаючы,
Сваю долечку праклінаючы,
Ірада-мучыцеля сустракаючы.

С м е р ц ь - л я л ь к а *(задаволена).* Чорт жа паказаў пякельныя штукі: узяў грэшнага ў свае рукі. Бяжыць, прысядае.

Д' я б а л *(голас за батлейкай).* Вот суета мірская. *(Рэха: «мірская, мірская».)*

С м е р ц ь - л я л ь к а. Ну, вось, грэшнікі, цара Ірада труп!

Ч о р т - л я л ь к а. І галава.

Д' я б а л *(голас за батлейкай).* А табе, Смертушка, чэсць і хвала. *(Рэха: «хвала, хвала».)*

Ч о р т - л я л ь к а. А зараз будзем на радасці гуляць.

С м е р ц ь. Старых чартоў і чарціх забаўляць.

Ч о р т - л я л ь к а *(скача).* Гуляць! *(Ірада працягваюць праз усё пекла.)*

Д' я б а л. Узялі Ірада душу з крыкам і гікам *(рэха: «...ам, ам».)*, неслі яго душу вельмі шырока *(рэха: «...ока, ока».)*, а ўкінулі ў пекла надта далёка *(рэха: «...ёка, ёк-а!»)*.

Ч о р т - л я л ь к а *(смеючыся)*. Кінулі Ірада душу ў кіпучу смалу. Ха-ха-ха!

Сціхаюць галасы грэшнікаў.

А н ё л - л я л ь к а
*(пяе сумна, імправізавана)*

Пасярод Раю стаіць дрэва,
Стаіць дрэва купаросавае.
Як на том дрэве пцічкі райскія,
Галасочкі ў іх Серафімскія,
Галасочкі ў іх Серафімскія,
Пяюць песні яны Херувімскія.
Ой, у нашым Раю жыць весела,
Жыць весела...
*(праз хвіліну)* толькі некаму.

Зноў чуюцца галасы грэшнікаў, але далёка за батлейкай. Зверху ў зале або над сцэнай гучыць голас Д'ябла.

Д' я б а л *(насмешліва)*. Ох, і за што я вас... *(праз хвіліну)* грэшнічкі, люблю. *(Рэха: «...блю, блю».)*

Пастоў малітваў ні дзіржалі (рэха: «...алі, алі»),
Айцоў, мацярэй ні паважалі (рэха: «...алі, алі»),
Усяношныя, завутрані прасыпалі (рэха: «...алі, алі»),
К царквам Божым не хадзілі (рэха: «...ілі, ілі»),
Нізкіх паклонаў ні ўкланялі (рэха: «...ялі, ялі»),
Крэст, малітву забывалі (рэха: «...алі, алі»),
К споведзі вы Божай не хадзілі (рэха: «...ілі, ілі»),
Тайнымі сваімі грахамі ні каялісь (рэха: «...ялісь, ялісь»),
Слаўныя вячэрні ў карты праігралі (рэха: «...гралі, гралі»),
Позднія абедні ў кабаку прагулялі (рэха: «...ялі, ялі»),
Дзядоў не слухалі — усё жыццё прадзьмухалі,
Вось за гэта я вас, грэшныя людзі *(доўгая паўза)*...

Гасне святло на ніжнім ярусе батлейкі, але застаецца гарэць на верхнім, дзе моўчкі стаіць Анёл-лялька.

З а с л о н а



**Літаратура**

1. Беларускі фальклор: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / склад. К. П. Кабашнікаў і інш. — Мінск: Выш. шк., 1996.
2. Беларускія канты / укл. Л. П. Касцюкавец. — Мінск, 1992.
3. *Круглов, Ю. Г.* Фольклорная практика: пособие для студентов пед. ин-тов. — М.: Просвещение, 1986.
4. Нова радасць стала. Хрэстаматыя па духоўнай харавой музыцы / укл. А. В. Пякуцька і інш. — Мінск, 1995.
5. *Сиверцева, Л. А.* Школьный теарт кукол: Из опыта работы. — Мінск: Нар. асвета, 1988.
6. Тэатралізаваныя школьныя святы / А. Ю. Лозка, І. І. Кірчук. — Мінск: БелЭн, 2004.
7. Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі: у 3 т. / склад. А. В. Сабалеўскі. — Мінск: Беларуская навука, 1977. — Т. 1.



Вучэбнае выданне

**Кірчук** Іван Іванавіч

# ВЫХАВАННЕ НА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТРАДЫЦЫЯХ

Вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў,
класных кіраўнікоў, выхавальнікаў,
кіраўнікоў фальклорных і тэатральных гурткоў

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютэрная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктары *Ю. А. Якаўчэнка, Т. Ф. Шайко, К. І. Іванова*

Падпісана ў друк 01.12.2008. Фармат 70×90/16. Папера афсетная.
Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 14,04.
Ул.-выд. арк. 9,96. Тыраж 2846 экз. Заказ 11818

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛВ № 02330/0133300 ад 30.04.2004. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск.

Мінскае абласное унітарнае прадпрыемства «Барысаўская ўзбуйненая
тыпаграфія імя 1 Мая». ЛП № 02330/0056737 ад 27.01.2004.
Вул. Будаўнікоў, 33, 222120, г. Барысаў.